# І. ДВАЦЦАТЫ ПАВЕРХ

## *1.*

*Высцерагайся гарадоў, большых за ўвесь свет, дадзены табе ў дзяцінстве, сказала аднойчы рудавалосая цыганка. Аднойчы – значыць даўным-даўно. Даўным–даўно – тое ж, што і ніколі.*

У гэты горад я прыехаў усяго на адну хвіліну, неабходную, каб вырваць Юлію з абдымкаў шкла і бетону, і рушыць далей, туды, дзе ў жылах свету бурліць жывая, зялёная кроў. Чакаў мяне адзінокі вечар на дваццатым паверсе і ноч, коратка падстрыжаная нажніцамі вялікага горада. Юлія абяцала пад'ехаць раніцай, бо сёння ніяк у яе не атрымаецца, сямейныя справы, ды ўвогуле дзікая мітусня. Раніцай узыдзе аранжавае сонца і ў дарогу.

Ніколі не маем упэўненасці, куды прывядзе абраны шлях і якім словам сустрэне нас месца, назначанае ў маршруце. І не ведаем, ці дарога "туды", без залішніх торгаў, перадасць нас дарозе "назад". Ёсць толькі спадзеў на шчаслівае вяртанне дамоў.
Я прыехаў у гэты горад развітацца з жанчынай, але не ведаў аб тым.

Жанчын у маім жыцці і не замала было, і не зашмат, дакладна столькі, колькі імёнаў зможа захаваць памяць, каб ніводнае не загубілася, не пазбавілася вуснаў, вачэй, голасу.
Быў я з маімі жанчынамі ні коратка, ні доўга. Час, канешне, не даецца адзін для ўсіх, ды і цячэнне яго, насуперак гадзіннікам і календарам, мяняецца. Час стрымгаловіць, час ідзе, час сноўдае нага за нагой. Ці спыняецца? Не ведаю. Калі заходзіць у вечнасць, мабыць так, дазваляе спыніць сябе, заварожаны яе заманлівымі абяцанкамі.
З маімі жанчынамі я быў да тае хвіліны, пакуль час, адведзены адзін на дваіх, не стане паварочваць на сцежку аднастайнасці і манатоніі. Яшчэ да першых сівых валасоў я зразумеў: паставіш на гэтай сцежцы на крок-два зашмат і ўжо ніколі з яе не вернешся. Рана-позна прывыкнеш да банальных слоў на прывітанне новага дня і абыякавым позіркам будзеш сустракаць раніцу, што карабкаецца з руцінна пакамечанай пасцелі.

Жанчыны прыходзілі і сыходзілі, забіраючы з сабой частку мяне – хто слова, прашаптанае пяшчотай, хто заблуканае ў вачах рэха смутку, а хтосьці ўсяго толькі халодны дотык рукі, малаважны драбок солі, што на першых ростанях кідаеш за сябе, праз плячо, не азіраючыся ў прошласць.
Сваё жыццё я б не назваў ні доўгім, ні кароткім. Пяцьдзясят, як ні глядзець, ажно на тры прабегі вакол Сонца больш за даўно завершаны шлях дзеда Дзмітрыя і ўсяго палова той дыстанцыі, якую адолеў дзед Алімпей, а некаторыя мяркуюць, што ён усё яшчэ ў дарозе, хаця даўно ніхто яго не чуў і шмат гадоў ніхто не бачыў. Кажуць – ён ходзіць дзесьці там. Я таксама схіляюся

да думкі, што дзесьці там, мабыць і цалкам блізка, існуюць прасторы няшмат адрозныя ад нам вядомых. Ёсць там дрэвы і птушкі, кветкі і камяні, і толькі дарогі там не такія, як у нас. Пазбаўленыя нечаканых скрыжаванняў, а кожны паварот, заўчасу нанесены на карту памяці, не хавае за сабой ніякай таямніцы. Бо і вядуць яны з будучыні ў мінуўшчыну, з невядомага ў вядомае і некалі перасякаюцца з нашымі, што спяшаюць якраз у адваротным накірунку. Перасякаюцца ў снах.

Сны прыходзяць, калі зачыняюцца вочы. А з чаго пачынаюцца дарогі? Ці з таго моманту, калі адчыняеш дзверы і выходзіш на вуліцу? Шмат гадоў іду і не ведаю, што ёсць дарога. Мабыць, пераступіўшы парог у сон, толькі тады і даведаешся? – сказаў аднойчы дзед Алімпей. Але ж можна лічыць адказам ягоныя словы, калі за апошнім стаіць пытальны знак?

Калі ў далёкай маёй і маіх аднагодкаў маладосці дзеду Алімпею споўнілася сто, адвячоркам, у дзень святога Алімпея, ён пагаліўся, памыўся, сваімі рукамі разабраў пасцель у вялікім пакоі. Апрануў чыстую, белую кашулю і галіфэ, наваксаваў хромавыя боты з халявамі. Гэтыя боты надзеў ён упершыню з таго дня, калі старгаваў іх у савецкага разведчыка, не распытваючы залішне якім шляхам афіцэрскае дабро дайшло да рук радавога салдата.
На гэтым лясным запечку, куды задалёка ўсім, хто нясе з сабой дабро, і заўжды па дарозе ўсялякім разносчыкам благой справы, людзі навучыліся па-свойму жыць, па-свойму між сабой размаўляць, моўчкі сустракаць няпрошаных гасцей і слухаць адказы не задаючы пытанняў.

Завяршыўшы соты паход вакол Сонца, дзед Алімпей улёгся ў ложак, папрасіў запаліць грамнічную свечку і пагасіць святло. Дочкам, здумёным нештодзённым ходам падзеяў, загадаў выйсці на кухню і зачыніць за сабой дзверы. Прыйдзе пара, я вас паклічу, дадаў на развітанне. Праз невялікі прамежак часу, калі занепакоеныя цішынёй сямейнікі адчынілі дзверы, у пакоі было пуста. Халодны вечаровы скразняк прабегся з пакоя на кухню, павярнуў назад, шмаргануў занавескі і праз адчыненае акно скокнуў на вуліцу. Пламеньчык хістануўся, але не пагас. Найстарэйшая дачка ўзяла свечку, патушыла, праводзячы яе крыж-накрыж над пустуючай падушкай. Кнот апошні раз мірgануў чырвонай зрэнкай і сіні дымок, склаўшыся ў вужаватую нітку пасунуўся да акна і далей, праз панадворак, на загуменне, туды, дзе на чорных сценах пушчы густая ноч паставіла свой чорны дах.
– І куды ён дзеўся? – успляснула рукамі малодшая дачка.
– Кажуць, падымецца дым угару, пайшла душа да праведнікаў, па хаце сцелецца – праз пакуты яе шлях. А тут ні туды, ні туды, засумавала сярэдняя.
– Ён цяпер тут, ён у нас, – сказала найстарэйшая, дакрануўшыся далоняй да грудзей.

Мне споўнілася пяцьдзясят і я не думаў ні пра дзеда Дзмітрыя, ні пра дзеда Алімпея. Я чакаў Юлію. Дзень ішоў на спад, жнівень шпарка крочыў насустрач верасню, а я чакаў Юлію ў краіне, што нарадзілася шэсць гадоў пазней за яе. З'явілася, калі ніхто на тое не спадзяваўся, калі ўсе валадары свету прызналі Еўропу старой завалокай, стэрылізаванай, з завершанай гісторыяй, запісанай на вялікім трыбуху, з канчатковай кропкай, пастаўленай на абвіслай фалдзе скуры, што жывым прабоем замыкае вагіну. Шчыльна і назаўсёды. Тады нарадзілася Беларусь.

Я чакаў Юлію ў сталіцы гэтай маладой краіны, а за акном разгортвалася панарама вялікага горада. З дваццатага паверха Праспект Газеты "Праўда" выявіўся мне заблытанай рэчкай, дзе радасць нясецца ўпоруч са смуткам, сляза з усмешкай, каханне з нянавісцю. Глыбокая на дваццаць паверхаў прорва знітоўвае людскія лёсы так шчыльна, што народзіны, жыццё і смерць губляюць свае імёны і ананімныя жывыя, не запавольваючы кроку, безэмацыйным позіркам праводзяць ананімных мёртвых.

У вялікім горадзе я адчуваю сябе няўтульна. Абадраны з таемных знакаў, з адціснутых на пяску слядоў – сваіх і тых усіх, хто ішоў раней, блытаю накірункі свету, трачу арыентацыю, плыву па цячэнні на ўсход або на захад. Пералічваю крокі і збіваюся з ліку на першым скрыжаванні.
На ўсе мае спробы завесці гутарку вялікі горад адгукваецца чужым голасам. Застаецца маўчанне.

Усё пачалося, калі рэйсавы аўтобус выплюнуў мяне на Бабруйскай вуліцы, бразнуў дзвярыма на развітанне і пакалясіў шляхам свайго прызначэння. Я набраў у лёгкія глыток сталічнай раніцы, упэўніўся, ці стаяць на месцы Вароты Мінска, ці не разбурыў іх мясцовы гаспадар у нармальным тут шаленстве рэканструкцыі ўсяго, што патрапіць пад рукі. У адным з гэтых дамоў мне прыйдзецца жыць бліжэйшыя тры дні. На гэтай кватэры я бываў ужо раней, без праблемы знаходзіў у памяці яе расклад, дзверы ў спальню, у салон і на кухню.
Вароты віднеліся някранутымі. Супакоены, не спяшаючы, я скіраваўся на чыгуначны вакзал, кубачкам моцнай кавы адбівацца ад соннасці і стомы, што прыліплі ў дарозе з Беластока ў Мінск, палічыўшы мяне – бадай што

трапна – бесканфліктным, занудлівым як і яны, спадарожнікам.
Чаму я пайшоў на вакзал, ведаючы, што побач, па другі бок вуліцы, на газавай пліце чакае знаёмая турка для кавы, чуйная, заўжды ахвотная рабіць сваю справу? Кава на чыгуначных вакзалах ніколі не бывае дастаткова смачнай і дастаткова моцнай, але мне не хацелася заўчасна развітвацца з дарогай, хацелася пагрэцца хвіліну даўжэй у яе абдымках, падманваючы сябе паскораным дыханнем вакзала, сурагатам сапраўднай вандроўкі.

А можа справа, што прывяла мяне ў Мінск, яна мо штурханула схадзіць на вакзал? Новая кніга даволі спраўна пераліваласся з мяне ў камп'ютар, а вось ужо чарговы тыдзень як прыпынілася, сціхла, прасілася падкінуць ёй моцны, свежы імпульс.

“З кароткай ссылкі на Урал дзед вярнуўся з кнігай. Ссылка атрымалася кароткай, бо не чакаючы канца тэрміну ён звычайна збег. Людзі вярталіся хто як. Праз пяць год ні з чым. Праз дзесяць з хваробамі за спіной. Каму не пашчасціла, не вярнуўся ніколі. Дзед Дзмітрый з'явіўся дома праз паўтара года з кнігай за пазухай. Кніга была на нямецкай мове, абгарэлая, цалкам добра захавала пад вокладкай пах пажарышча.
Дзед пакінуў Урал за спіной напрыканцы траўня і скіраваўся на захад, не здагадваючыся, што там, на захадзе новая вайна апранае свежыя, чысценькія мундзіры і ўжо бліжэйшым часам выйдзе яму на сустрэчу. І яны сапраўды сустрэліся цёплым чэрвеньскім днём у горадзе Мінску”.
Дабрыўшы да Мінска мая кніга спынілася. Я адчакаў тыдзень, другі і трэці, і сеў на аўтобус, паехаў жывымі

рукамі пагрукацца ў дзверы гэтага горада. У хатніх аповедах узгадвалася вуліца Энгельса, дом з чырвонай цэглы, разбураная сцяна. Ці быў ён на гэтым вакзале? Мог быць.

З такім жа як мой кубкам кавы да століка падсела дзяўчына ў зялёнай сукенцы. Паклаўшы галаву на далоні, рассунутыя пальцы запусціла ў валасы. У ранішнім, да канца не саспелым святле, яе светлыя кудзеры змахвалі на цёмна-аранжавы аўрэол, своеасаблівае вогнішча, у якім датла спапяляюцца ўсе чалавечыя грахі.

Ступаеш у такі агонь і выходзіш з яго чысты, нованароджаны, прашаптала мроя. Заходзіш у агонь і знікаеш, застаюцца прыгаршчы попелу, спрабаваў пагасіць мрою розум. Але мроя крылатая, яна авалодала майстэрствам палёту не горш за птушак і крылы яе моцныя, калі даць ёй волю, найвялікшы камень падыме да воблакаў, як нітку бабінага лета. І не праблема ёй падняцца з попелу.

Я апусціў павекі і – зусім для сябе нечакана – убачыў Маэстра. Няўжо той, пра каго казаў некалі Алімпей?
– Не пазнаеш? У дзедавай кніжцы пазнаёміліся. У якой? Усяго адна была ў яго кніжка, калі не памыляюся.
– Пазнаю, канешне ж, пазнаю, – чую свой разгублены шэпт, але вочы пабеглі далёка адсюль, у прыпушчанскі паўзмрок, дзе закінуты ў куток старой стадолы сасновы камель чакае свайго часу. Палову яго бацька паспеў парэзаць на досачкі, загарнуў іх у чыстае палатно і засунуў на гарышча. А другая палова? Калі я спраўлюся са сваёй паловай? Калі пралію свой пот на жывічную драўніну? Калі аддам ёй свае мазалі? А трэба ж яшчэ выбраць тры найпрыгажэйшыя, дзе ні сучка, ні стрэмкі, дзе слой,

як струна, а жывіца ляжыць роўненька і не таўсцей яе за чвэрць чалавечага воласа. А яшчэ і спаліць усе досачкі, тыя што застануцца лішнімі, каб праз комін пайшоў чысты дым, што пакліча Маэстра. Няўжо, не дачакаўшыся там, ён знайшоў мяне тут, у не маім, вялікім горадзе? Сцены вакзала зрабіліся празрыстымі, знік дах, бязмежная, сіняя хустка разгарнулася над горадам. Маэстра дакрануўся пэндзлікам да чыстага блакіту і адпусціў на волю першую Грацыю. "Мяне завуць Прыгажосць", прадставілася Грацыя і, раскінуўшы на вецер чырвона-аранжавыя валасы, узяла напрамак на ўсход, над невядомае мне мястэчка. "Не ведаеш гэтай мясціны? Гэта Урбіна. Я нарадзіўся там, яно найпрыгажэйшае ў свеце", – сказаў Маэстра. "Я Каханне", назвала сваё імя другая Грацыя і скіравалася ўслед за першай. "Я – Нявіннасць", трэцяя Грацыя зрабіла элегантны рэверанс, адкінула з вачэй непаслухмяную кудзерку, на адзін міг застыла з далонямі, засунутымі ў вогнішча руса-аранжавых валасоў. "Ляці за сёстрамі, у край майго дзяцінства", лёгка, пяшчотна казытнуў далонямі аголеную, ружовую спіну і Грацыя па імені Нявіннасць знікла на даляглядзе. "Дочкі мае ўлюбёныя. Дзе б ні быў, штодзень пасылаю іх у маё роднае мястэчка. Каб не забылі адкуль мы. А ты чакай мяне ў сваёй пушчанскай краіне. Я нешта абяцаў твайму дзеду і стрымаю слова. Прыйду, калі будзеш гатоў. І ў Рым злётай. Паглядзі Сабор Святога Пятра. У касцёл Санта-Марыя дэль Попала наведайся. І ў Сант-Эліджа-дэлы-Арэфічы. Будзеш памятаць? Яны таксама дзеці мае. Трэба нам пазнаёміцца бліжэй" – Маэстра кіўнуў галавой на развітанне і знік. А мне хацелася сказаць, што ў Рыме я ўжо быў, паглядзеў што трэба, нат больш, вельмі мне спадабаўся мост Понтэ Мільвіа, абвешаны замочкамі кахання і фантан Трэві, засыпаны манеткамі ўсяго свету,

а вось "Тры Грацыі" нідзе ў Рыме не знайшоў. І што ён абяцаў майму дзеду? Якому дзеду? Пра-пра-пра, паўтысячагоддзя таму? Ці ёсць такая кропка на зямлі, дзе маглі б перасячыся сцежкі пушчанскага, ліцьвінскага мужыка і мастака, выпешчанага на каралеўскіх дварах?

З каменнага паркету выпаўзаў холад, поўз па лытках, па сцёгнах, рассыпаўся па спіне ледзянымі дрыжыкамі. Хударлявая вакзальная кава рабіла сваю справу марудна і абы-як, тым не менш, нат не выходзячы з паўсну, я пачуў, як мёртвы, каменны холад ажывае, абаграваецца цёплым дыханнем маёй скуры, пераўвасабляецца ў жывы, чалавечы страх: усё гэта – ілюзія, расплюшчу вочы і вобраз дзяўчыны згасне, застанецца чысты, белы экран.
Вобраз не згас. Дзяўчына сядзела на ранейшым месцы, па другі бок століка, адмежаваўшыся рудой занавескай ад нахабных прапаноў вакзальнай каруселі. Раніца, штурханутая сонцам, разганялася, вышэй падымаліся хвалі новага дня, наступалі на дзяўчыну, адступалі, але яна заставалася непарушнай, як маяк на каменным беразе ашалелага акіяна. Усе мае думкі плылі на яркае, рудое святло. Раптоўна, моцна, неадкладна ўзнікла жаданне ўбачыць яе твар. Вочы. Вусны. Я шукаў словы, якія б спакусілі яе выйсці са схованкі, павярнуцца тварам да свету. Падбіраючы галасы, я рабіў накід першых сказаў, што прыадчыняць дзверы ў размову, павядуць яе далей. І мне не хацелася думаць, якія сцежкі хаваюцца за словам "далей".

– Ты Прыгажосць, – пачне страсны шэпт, а дзяўчына абыякава пацісне плячыма: Ведаю, не адзін раз чула.
– Няўжо завуць цябе Нявінніца? – голас падстроіцца пад маладую бесцырымоннасць і пачуе ў адказ:

З незнаёмымі не размаўляю. І плечы дзяўчыны ўздрыганууцца ў кароткім, пагардлівым “пайшоў ты”.
– Я ведаю, цябе завуць Каханне, – ласкавай інтанацыяй падсунецца да дзявочага вуха цёплы бас. – Ну, глядзі, ад кахання да нянавісці менш за адзін крок, – папярэдзіць, не выходзячы з ценю рудога вогнішча.

Кніга за кнігай я перачытваў усю сваю хатнюю бібліятэку. Узнаўляў у памяці гутаркі на ўсіх даступных мне мовах, і нават, хаваючы сорам, прыводзіў на памяць чужыя размовы, што невыпадкова, з-за простай чалавечай цікавасці, праслухаліся краем вуха.
Ніводнае з вядомых мне слоў не паказалася вартым яе ўвагі.

– Ты, дачка Сонца? – зусім нечакана я пачуў тры словы, завершаныя пытальнікам. Быў гэта голас маёй генетычнай памяці, сатканай з усіх мужчынскіх галасоў, расцягнутай ад дадзенай хвіліны да вытокаў свету. У такім голасе непакорлівая ільняная нітка падпарадкоўваецца мяккай, шаўковай і нямая пяшчота вачэй бярэ перавагу над рашучай мовай мужчынскіх далоняў. А генетычная памяць сочыць уважліва і ўлавіўшы момант, своечасова вяртае голасу належную моц і ўпэўненасць. І голас паўтарае: Так, ты дачка Сонца!

Дзяўчына падняла галаву і высунулася з-за рудой шырмы. Паглядзела на мяне і адмоўна пакруціла галавой.
– Не, я дачка Аляксандра і Аргумы.
Спакойны голас, сур’ёзны твар і ўпэўнены ў сабе позірк прывялі мяне да думкі, што ў гэтай вось, маладой краіне ўсё яшчэ застаецца ў першапачатковым выглядзе. Нібыта і пайшоў працэс стварэння сусвету, слова вольнай

птушкай прарвалася з нябыту, але зямля і неба надалей застаюцца неразлучнымі, і ніхто не здзіўляецца, калі дзеці Сонца нараджаюцца побач з дзецьмі Аляксандраў, Канстанцінаў, Уладзіміраў.

Ад слоў, што спакойнай птушкай зляцелі з яе па-дзіцячаму пухкіх вуснаў, ад сур'ёзнага голасу, які ніяк не сыходзіўся з далікатным тварам, я на кароткі момант разгубіўся. Ірацыянальнае жаданне не адпускаць яе, працягнуць размову, падкінула на язык самае простае, што з большага звязалася ў сэнсоўны сказ.
– Незвычайнае імя, Аргума.
– Тут незвычайнае, там, дзе я нарадзілася, звычайнае.
– Нарадзілася... там?
– Ага, там, – адказала загадкай. Схілілася, з-пад ног дастала заплечнік, паднялася з-за століка і, не сказаўшы ні слова, накіравалася ў той бок, дзе на вялікай сцяне бяздушная машына выткала павуцінную сетку чалавечых лёсаў, чаканых сустрэч і нечаканых развітанняў, і назвала яе "расклад адпраўлення цягнікоў".

Вакзалы сустракаюць, вакзалы праводзяць, я думаў пра нечаканую сустрэчу і – што ні казаць – чаканае развітанне. Чаканае, бо абмінуўшы ўсё астатняе, якая ж сіла магла б, нават на кароткі час, звязаць у адзін вузел маю стабільную, халодную сівізну і яе аранжава-вогненную маладосць? Хіба што жартам лёсу.

Дзяўчына, задраўшы галаву, у тысячы чужых шляхоў, пракладзеных жалезнымі рэйкамі ў кожную кропку кантыненту, з усходу на захад, з поўначы на поўдзень, шукала таго адзінага, свайго. Аранжавыя валасы рассыпаліся на зялёнай сукенцы, а на агародзе бабы Веры вырас

сланечнік. На адзін міг апусціліся вейкі і стала дастаткова імгнення, каб разагнаны натоўп пераапрануўся ў шэрае. Вялікі шэры горад у завялікай шэрай вопратцы круціўся вакол сваёй восі, не здзіўляючыся сланечніку, не звяртаючы на яго ўвагі. Ён даўным даўно згубіў свае агароды, выціснуў натуральныя колеры далёка, у прастору недаступную яго вачам.

Я адзін бачыў дзяўчыну ў зялёнай сукенцы, глядзеў на яе і дзесьці там, па-за свядомасцю, незалежна ад мяне пачыналася ціхая спрэчка магчымага з немагчымым. А што немагчымае? Тое, чаго не зможа падумаць думка? Няўжо такое існуе?

Зялёная сукенка знікла ў шэрым натоўпе на хвілін дваццаць, хвіліны зацягнуліся на ўсю вечнасць, а я чакаў колькі трэба чакаць, не губляючы ўпэўненасці ў яе вяртанне. Дзяўчына вярнулася. Усплыла на паверхню дня з ніадкуль, можна б падумаць, вырасла наўпрост з каменнага паркету.  Дастаткова блізка, каб пачуць пах травы, мяты і сланечнікаў.  І пах моху, што вырастае наўпрост з камянёў, аспрэчваючы такім чынам нашае ўяўленне немагчымага.

Прагулялася колькі крокаў, шукаючы больш зручнае месца, дастала з заплечніка ноўтбук, сагнутую ў калені нагу паставіла на каменную спіну лавачкі. Паклала ноўтбук на сцягно, схіліла галаву. Аранжавы вадаспад пасыпаўся на грудзі, на сцягно, праз кругленькае, як камень абмыты вадой калена, слізгануў на лытку.
Я пачуў, як мой розум, цалкам адкрыта, нат не прыкідваючыся сябрам, выступае супраць мяне. Няхай яе цягнік спозніцца на гадзін дзве. Няхай яго цалкам адменяць.

Хай, пакуль да акенца з надпісам "каса" падыйдзе яе чарга, распрададуцца квіткі. Усе, да апошняга. Няхай добрая, ці злая сіла знясе ў нябыт чыгуначныя рэйкі па ўсёй краіне. І семафоры. І вагоны.

Мае малітвы не засталіся непачутымі. Дзяўчына ляпнула крышкай ноўтбука, закінула яго ў заплечнік. Не спяшаючы, нага за нагой кіравалася ў маім напрамку. Я зрабіў выгляд, што не чакаю яе, адвёў вочы, але ўсім сабою чуў і бачыў як набліжаецца.
Адсунула крэсла, прыселася. Паміж шкляной стальніцай і каленямі заставалася дастаткова прасторы, каб мае вочы маглі свабодна коўзацца па яе абветраных, смуглявых сцёгнах, прыхаваных з большага пад кароткай сукенкай.

– А я квіткі набыла ў Маскву. У мяне там хлопец ёсць. І нават напісаць паспела. Буду праз тыдзень, чакай, сустракай.
Няўжо да мяне гэтыя словы? Навошта? Кпіць? Гуляецца? Канешне, і кпіць, і гуляецца. Беспамылкова прачытала мае дурацкія позіркі і цяпер, упэўненая ў сваёй небанальнай прыгажосці, пасылае адказ: ну што, дзядзенька, пагглядзеў, палізаў праз шкло і хопіць, ідзі сваім шляхам. У мяне хлопец ёсць. У Маскве ён, не абы-дзе ён.
І што адказаць? Прамаўчаць? Прыкінуцца глухім? Схаваць твар за маскай здзіўлення, каменнай абыякавасці, даючы такім чынам знак, што яна, чытаючы мяне, усё-ткі памылілася? Бо насамрэч – мне ўсё адно. Або – на мове яе пакалення – да лямпачкі мне.
– Масква гэта крута, – нехта ўкраў мой голас і без дазволу скарыстаўся ім.
– Масква праз тыдзень. Я не ўпэўнена, ці яго кахаю. А ты,

калі-небудзь кахаючы, быў у гэтым каханні няўпэўнены? Скажы, галава сівая. Напэўна ёсць жа пра што сказаць...

Слова "ты" прагучала ў яе вуснах натуральна, лёгка, без залішняй затрымкі. Мне спадабалася, што ўсё такое простае, я для яе не "вы", не "дзядзька", не "проша пан", як не раз, не два здаралася пачуць у водгук майму польскаму акцэнту. Нават "сівая галава" ў такім кантэксце прайшла міма вуха, не наносячы майму мужчынскаму эга значнейшай шкоды.

– Кахаць і сумнявацца... Не мы першыя, не мы апошнія, як кажуць разумныя людзі. Можна век пражыць і толькі здагадвацца – было каханне, ці не.
– Век пражыць? Надта доўга чакаць, мне трэба ведаць раней. А ў цябе было?

Што адказаць на такое пытанне? З чаго пачаць? Ці не са словаў пра сцежку, з якой саступаю заўжды, калі схіляецца яна да прывычкі, да манатоніі, да абыякавасці? "Не так. Абсалютна не так", прашаптаў на вуха мой генетычны голас. І я сказаў:
– Іду, даганяю, трачу.
Я адмыслова скарыстаўся цяперашнім часам, дзе ўсё яшчэ працягваецца, хвіліна плаўна заходзіць у хвіліну, дзень у дзень і магчымы любы варыянт будучыні. Час прошлы завершаны, ён замкнуў бы мінёную частку мяне ў клетцы, зрабіў для яе чужой і недаступнай.
На маім доўгім шляху трапляліся жанчыны, якія жывуць па прынцыпе "або ўсё, або нічога" і цяпер, пакуль яна заставалася мне абсалютнай таямніцай, каб не зачыніць заўчасна ніводных дзвярэй, я сказаў менавіта так: іду, даганяю, трачу.

Нехта, назіраючы з воддалі, мог бы падумаць: “вось яны, бацька і дачка, яна студэнтка, не мінская, ён наведаўся ў госці, цяпер яна праводзіць яго на цягнік”. Але ж калі б назіральнік той сцярпеў яшчэ колькі хвілінаў, калі б не зводзіў з нас вачэй, пабачыў бы, як седзячы на крэсле яна закідвае нагу за нагу, левую на правае калена, затым, як у запавольненым кадры, правую на левае. Вусны расхіляюцца, нязначна, не зашмат, праз белыя пацеркі зубкоў працiскаецца кончык языка і смачна аблізвае верхнюю губку. На адзін міг калені разбягаюцца на розныя бакі і гэтай кароткай хвіліны дастаткова, каб з-пад шкляной стальніцы белыя трусікі паспелі папесціць мяне цёплым дыханнем.

Колькі было гэтай дзяўчыне, калі Шэрон Стоўн зіханула па вачах Майклу Дугласу пухатым, трохкутачным ліхтарыкам, ад чаго і яму, і ўсяму свету пераняло дыханне? Шэсць гадоў? Сем? Ці калі-небудзь яна глядзела гэтае кіно? Праўда, у Шэран пад сукенкай не аказалася нічога акрамя яе жаноцкасці. Тут таямніца не раскрылася да канца, пакідаючы за белымі трусікамі апошні сказ, але ж сам палёт нагі над нагой, элегантны танец сясцёр-каленак, вусны спакуслiва расхіленыя кончыкам языка, усё гэта сэнсоўным робіць пытанне: А мо сапраўды ёсць у жанчын свой асноўны інстынкт, адзін для ўсіх, нязменны, што спакон вякоў перадаецца з пакалення ў пакаленне?

Мой час у Мінску з трох дзён вырас да шасці.
Колькі можна даведацца пра жанчыну цягам няпоўнага тыдня? А колькі на працягу года? А за ўсё жыццё? Ці нашмат больш за тое, што сама яна пра сябе захоча сказаць?

Адвячоркам першага дня я ведаў яе імя. Паспеў пазнаёміцца і з гісторыяй незвычайных валасоў – руды колер яны ўзялі ад бацькі, а па маці густыя і кучаравыя. Там, дзе нарадзілася Юлія, Аргума – значыць Прыгожая. Або – Красавіца. Там, у Мардве.
– Ты напэўна і не здагадваешся, дзе яна, тая Мардва, – сказала.

Памылялася. На слова "Мардва" нешта ўва мне ўздрыганулася, у галаве бліснула думка схапіць за руку гэтую дзяўчыну, праскочыць вуліцу, забегчы на вакзал і ехаць, без канца, на ўскраіну вялікага лесу, дзе баба Вера, прысеўшы на запечку, паўсвятлом шэрай гадзіны размалёўвае маё дзяцінства. Але ж... Туды цягнікі не адпраўляюцца, механічным голасам адкажа акенца, дзе прадаюцца квіткі ва ўсе кропкі свету, а мне застанецца кіўнуць галавой і пацвердзіць: так, цягнікі ў дзяцінства не ходзяць, я ведаю.

– А вось, як не дзіўна, я якраз ведаю, дзе Мардва. Там засталася частка мяне.
– Гэта як? – ад здзіўлення вочы Юліі абярнуліся кругленькай, пухнатай птушкай і прыселі на маіх вуснах. – Н-няўжо камандзіроўка і пазашлюбнае дзіця?
– Не, не тое. Другім разам, – я ўхіліўся ад адказу, памятаючы пра візу, што абмяжоўвае час да шасці сутак і не пакідае ні хвіліны ў запасе.
– У нас будзе другі раз? – цяпер яе вочы спыніліся на маіх вачах.
– Хочаш?
Прыкусіўшы верхнюю губку, з-за злёгку прыжмураных веек глядзела мне проста ў твар.
– Хачу? Не хачу? Не ведаю.

А мне хацелася слухаць яе. І я слухаў. Ёй дваццаць два, студэнтка і абсалютна не разумее навошта апынулася ў гэтых сценах, а ў Маскве ёсць хлопец і вельмі-вельмі яе кахае. Ён кахае яе, як ніхто нікога ў свеце. Гэтыя словы прыбягаюць да яе кожнае раніцы, а яна песціць манітор тэлефона і ўсміхаецца. Ці яна кахае яго? Учора не, сёння так, заўтра ізноў не. Яе каханне ідзе босымі нагамі па сінусоіднай хвалі. Ці пераправіцца на шчаслівы бераг? Ці знікне, як камень у ваду? Пакуль не ведае, што ад гэтага знаёмства атрымаецца, тым не менш, раніцой яна прашаптала ў доўгае вуха Інтэрнэту: “Буду праз тыдзень, чакай, сустракай”. І ён чакае. Ён часцей цяпер правярае гадзіннік і з кожнай хвілінай менш у ім яго, і ўсё больш чакання. Заўтра з раніцы да ночы ён будзе хадзіць ад акна да акна. Паслязаўтрашні дзень поўнасцю адвядзе на прыборку кватэры, затым, чарговыя дні будзе ўпрыгожваць спальню яе ўлюбёнымі пахамі. За дзень да яе прыезду сходзіць у вялікі супермаркет, дзе вочы разбягаюцца ад каляровых этыкетак, аўстралійскае віно перакідваецца словам з іспанскім, французкае шампанскае ходзіць у пары з партугальскім партвейнам, а тэкіла з далёкай Мексікі ўсяго праз паліцу мяжуе з балканскай ракіяй. Ён праігнаруе ўсе этыкеткі і набудзе араматычнае зёлкамі, італьянскае “марціні”. Яна абажае “марціні” і ўжо праз тыдзень будзе піць яго, седзячы вечарам у мяккім фатэлі, з адмысловага куфля на доўгай ножцы, што трымае чашу ў форме павернутага дагары нагамі трохкутніка. “Марціні” можна і не класці ў халадзільнік, дастаткова закінуць у куфаль тры кубікі лёду. Можна да кубікаў лёду дакінуць марожаную вішню, а можна і не, але хлопец прыўважыў, што яе вусны ад марожанай вішні, як не дзіўна, робяцца больш цёплыя і яшчэ больш пушыстыя.

Мы сядзелі ў мяккіх фатэлях, у доме, што складае палову "Варот Мінска". Раніцой, дапіваючы другі кубак чорнай вадкасці, што нічым – акрамя колеру – не нагадвае пра сапраўдныя свае карані, я сказаў дзяўчыне:
– Вакзальная кава, ніякая не кава. Зварыць яе – кулінарнае мастацтва, цырыманіял. Табе цікава, як вараць сапраўдную каву? Заходзь у шэсць гадзін вечара.
Я напісаў адрас на аўтобусным квітку і паклаў на столік. Яна адпісала нямым поціскам плячэй: хочаш – чытай "зайду", хочаш – "мне не цікава", твой выбар.

Стрэлкі гадзінніка склаліся ў прамую лінію, на адзін момант выцягнуліся на зважай, аддаючы гонар несмяротнаму часу, належны яму два разы ў суткі. Я цалкам звычайна ўспрыняў маўчанне званка ў васемнаццаць гадзін, прадбачваўся і такі варыянт развіцця гісторыі, але ж і не аддаў сябе залішняму здзіўленню, калі а палове на сёмую вечара дамафон азваўся. Хвілінамі раней пайшоў ліўны дождж, людзі кінуліся пад шырокія крылы чыгуначнага вакзала.

"На непрамакальную скуру людзі апранаюць прамакальную вопратку і хаваюцца пад дах, каб не прамокнуць", прагуляўшыся па мокрай вуліцы, думка вярнулася каламбурам.
Прытушанае дажджом аранжава-рудое сонца асвятлала пад'езд на палову сваёй звычайнай моцы, але дастаткова, каб у цьмяным паўзмроку выявіць яе постаць.

– Праходзіла міма, пайшоў дождж, а чаму мне не схавацца ў гэтым доме? Падумала і зайшла, – цяпер жэст яе плячэй казаў іншае, прамоўленае ўголас ён працягваў нямым: хочаш, сустракай, не хочаш – не сустракай.

Далоні шмарганулі па ўскудлачаных валасах, туды і назад, туды і назад, распырскваючы ў паўзмрок кроплі дажджу і каля яе ног сямікалернай дугой разаслалася вясёлка. Я падаў далонь, яна ўзяла яе і па вясёлцы, як па мосціку, пераступіла парог.

Седзячы ў мяккім фатэлі, я слухаў голас дзяўчыны, не паганяючы яго, не накіроўваючы ў той, ці іншы бок.

Насамрэч яварыў вечаровую каву. Варыў яе ў меднай, закурадымленай досведам турцы. Напачатак злёгку разагрэў пасуду, насыпаў кавы, дадаў халоднай вады, цукру, два зярняткі анісу. І пільна сачыў, каб пад дном туркі сіні агеньчык і не пагас, і не перарос у жоўты, языкаты агонь. Чым даўжэй турка варыць каву, тым смачней атрымаецца канчатковы вынік.

Я слухаў дзяўчыну і толькі час ад часу падкідваў сціплае слова, сухую трэсачку, каб не згас яе голас.

Праз тыдзень яна высадзіцца на вакзале, ён яе сустрэне, сядуць на таксі, а калі пераступяць парог кватэры, ён пакладзе бутэльку ў халадзільнік. Пасля трыццаці хвілін з большага астынуць першыя пацалункі, таксама ж і “марціні” прыйдзе да жаданай тэмпературы. У чашу на доўгай ножцы ён падкіне замарожаную вішню....

– Россо ці б’янка? – голас маёй генетычнай памяці, сатканы з усіх мужчынскіх галасоў, нагадаў, што ўжо самы час паставіць гэтае пытанне.
– Б’янка, канешне, – зрабіла маланкавы выбар, а я прайшоўся ў другі пакой і засунуў руку ў свой вандроўны

заплечнік, задаючыся пытаннем, якая сіла, за гадзіну да ад'езду аўтобуса, накіравала мяне ў беластоцкія "далікатэсы". І што б было, калі б рука пацягнулася нязначна ўбок і замест светлае "б'янка", прыхапіла з паліцы бутэльку цёмна-бурштынавага "россо"?

Час забрыў далёка за поўнач, я толькі-толькі паспеў заплюшчыць вочы, калі грукат у дзверы парушыў начную цішыню. Так і не зразумеў – я тыя дзверы адчыніў, самі яны адчыніліся, ці проста на адзін момант сышлі ў нябыт, губляючы сваю цялесную структуру? У пад'ездзе, прытуліўшы плячо да касяка, стаяў Рафаэль Санці. Кіўнуў галавой на прывітанне і без залішніх цырымоніяў, як добры, стары сусед з-за сцяны, адазваўся:
– Не хвалюйся, адно слова і праз секундачку мяне няма. Не забывай, Прыгажосць, яна несмяротная і нікому не належыць. А ўсе, каго запалоніць – належаць ёй. Сцеражы сябе.
– Ага, нічога сабе палон, – я спрабаваў падстроіцца пад маланкавы тэмп пытання, але ці паспеў сказаць гэтыя словы? Ці ён пачуў іх? Не ведаю. Прайшла секунда і ў пад'ездзе нікога не было.

Другі дзень працягваў знаёміць мяне з Юліяй.
– Што табе снілася? Гэта важна, памятаць свой першы сон на новым месцы. Ён збываецца.
– Мне смутна, – паднялася з пасцелі, пацягнула за сабой паласатую накідку на ложак і жэстам, агульным для ўсіх жанчын свету, закінула яе на плечы, падыйшла да акна.
– Смутна, бо не памятаеш сну?
– Не, не таму. Сон якраз памятаю, – замоўкла, праз халоднае шкло глядзела на вакзал. – Вакзалы часцей злучаюць, ці разводзяць?

– Чакай, падумаю, – няпроста ўлавіць разумнае слова, калі ты ўсё яшчэ застаешся ў пасцелі, а пасцель пахне яе ферамонамі, але Юлія не чакала адказу.
– Ты мне сніўся. Ты сыходзіў, а я цябе клікала, шмат разоў крычала тваё імя. Па-руску клікала, дарэмна, – падцягнула накідку і яе доўгія ногі паказаліся ва ўсёй пышнасці. Ранішняе святло рысавала іх ідэальнай крэскай.
– Ніколі мне сны не сняцца на бацькавай мове. Ні на матчынай. Мае сны рускамоўныя. Кажуць, сон – адлюстраванне душы. Як думаеш, я згубіла душу?
– З душой усё нармальна. Ты проста засынаеш у неадэкватных абдымках, – запозна прыкусіўся язык, словы пайшлі. Недзе там, у далёкай Маскве, дзе я ніколі не быў, невядомы мне чалавек мабыць пачынае прыбіраць кватэру, раз-пораз правярае гадзіннік, бачыць, як на адным месцы спыніўся час і ягонае сэрца заходзіцца ад смутку. І не прыбярэ гэтага смутку ні звычайная сцірка, ні самы круты пыласос.
Мне зрабілася няёмка.
Юлія павярнулася спіной да акна, зрабіла крок насустрач ложку, яшчэ крок і яшчэ. Пальцы адпусцілі накідку і паласаты, фігавы лісток з'ехаў з плячэй, зваліўся на падлогу, раскінуўшы мёртвыя крылы, як птушка памерлая ў палёце.
– А ведаеш, можа і так.
Яе голас паспакайнеў. Прыдаўшы твару сур'ёзны выгляд, абвяла мяне ўпэўненым у сабе позіркам. – Можа і так.
“Не, я дачка Аляксандра і Аргумы”, – прыглушаным рэхам адгукнуўся ўчарашні дзень.

Пра Аргуму Юлія ведала няшмат. Нарадзілася ў Мардве, жыла ў Мардве, у Мардве памерла. Было гэта ў той добры час, калі дзіцячая свядомасць не разбіраецца

ў дэталёвых адрозненнях паміж жыццём і смерцю. Вярнуўся – жывы, памёр – пайшоў. Куды пайшоў? Далёка-далёка. Калі вернецца? Праз нейкі час. А "нейкі час" гэта шмат? Не, няшмат.
Дзіцячая свядомасць не звязвае часу ў паасобныя дні, а кожны чарговы крок сцішвае голас і замазвае малюнак, і той "нейкі час" ссыхаецца, звужаецца, знікае. Быццам бы і ніхто нікуды не ад'язджаў, і ніхто аднікуль не будзе вяртацца.

– Праўда, у Мардве, каб пахаваць чалавека, трэба капаць зямлю кіркамі і дзяўбці ламамі?
– Не, адкуль ты такое ўзяў? Я не памятаю, як хавалі маму, але зямля там нармальная, як і тут. А як я тут знайшлася? Аднае раніцы, гадоў праз тры пасля сыходу мамы, калі ў тэлевізары дзень пачаўся са словаў "Віскулі" і "развал", а ў водгук тэлевізару вуліца занялася лямантам "і што цяпер будзе", бацька прысеў на кухні, хвіліну падумаў, прайшоў у пакой і пачаў складаць валізу. "Вяртаемся на радзіму. Нечага нам рабіць тут. На маю і тваю бацькаўшчыну вяртаемся", сказаў.
– Ці можам вярнуцца туды, дзе мы ніколі не былі? – запытала Юлія на пяты дзень, за некалькі гадзін да ад'езду майго аўтобуса.
Я пачаў нешта тлумачыць пра працяг нашага жыцця ў наступных пакаленнях, пра сувязь з мінулым, пра культурны код, памяць, запісаную ў генах. Калі так, калі ўсё гэта ёсць, не згубілася, тады сапраўды, можна вяртацца да месцаў, дзе мы ніколі не былі, можна вандраваць у мінулае і нават бачыць будучыню.
Юлія не слухала. Я гаварыў уголас, а яна моўчкі размаўляла са сваімі думкамі.

На чацвёрты дзень я папрасіў Юлію:
– Давай сходзім на вуліцу Энгельса. Ты ведаеш, як туды патрапіць?
– Канешне. Што табе там трэба?
– Знайсці дом з чырвонай цэглы. Невысокі, паверхаў тры.
– Ёсць там такія? – задумалася. – Ну, паглядзім.

Дома з чырвонай цэглы на вуліцы Энгельса не аказалася. Мо прапусцілі мы яго, занадта часта зазіраючы сабе ў вочы? Можа ён пераапрануўся ў белае, або зялёнае і толькі пасміхнуўся, калі мы праходзілі міма? А можна выключыць магчымасць, што ў горадзе Мінску, дзе кожны чарговы гаспадар наносіў на карту новыя, сабе мілагучныя імёны, старанліва сціраючы старыя, і гэтая вуліца атрымала сваё імя дастаткова нядаўна, каб скіраваць мяне на фальшывыя сляды?

– Ты яшчэ вернешся?
– Так, Сонца. Ты паслязаўтра ў Маскву?
– Так.

Свет збудаваны прасцей, чым нам здаецца. Гадзіннік выштурхоўвае нас на вуліцу, вуліца вядзе на вакзал, вакзал выпраўляе ў дарогу. З чаго пачынаецца дарога? Сёння я мог бы сказаць дзеду Алімпею, што зваротныя дарогі пачынаюцца з пацалунка.

Я вяртаўся ў Беласток, яна ехала ў Маскву. Аднойчы сказала: Больш туды не паеду.
Ніколі не пытай каханую жанчыну, чаму яна канчаткова зачыняе дзверы ў той ці іншы закутак сваёй мінуўшчыны. Ты ўжо намаляваў яе партрэт і носіш яго ў сваіх

вачах. І нават калі хаваеш вочы ад позіркаў пастаронніх людзей, закрываеш вейкамі, засланяеш далонямі ці чорнымі акулярамі, для яе твае вочы аголеныя і безабаронныя, як нованароджанае дзіця. Яна бачыць сябе тваімі вачыма і не скажа слова, якое магло б сапсаваць гэты дасканалы партрэт.

Ніколі не пытай каханую, чаму яна зачыняе дзверы ў той пакой, куды не хадзіла разам з табою. Хіба толькі тады, калі праўда не мае для цябе ніякага значэння.

Няўжо ў маіх думках, у след за словам "Юлія", непадуладны мне голас прашаптаў слова "каханне"? Я не стаў распытваць яе, чаму ніколі больш не сядзе на маскоўскі цягнік. Я запытаў:

– Можа з'ездзім у Віскулі? Яны, па вялікім рахунку, у дваццаці кіламетрах ад маёй маленькай Бацькаўшчыны. І дзякуючы ім перасякліся нашыя сцежкі. Паглядзім міфічнае месца?

– Пакажы, дзе гэта.

Села за стол, схілілася над картай. Стоячы ў яе за спіной, я ўбачыў, як вогнішча языкамі аранжавых пламянёў лізнула паперу і маланкава пашыраючыся, пабегла па ўсёй Беларусі.

– Ой, Сонца, усю краіну спаліш! – далоні прыхапілі жменю жывога агню, падняслі да шчакі.

– Ну пачакай, дай паглядзець, – яе палец завінуў круг над Белавежскай пушчай і спыніўся. – І тут лес, і там лес. Усюды лес. І што нам рабіць у гэтым лесе? За мядзведзямі хадзіць? Або на санях катацца? А сам бачыш, снег ужо амаль сышоў, – усміхнулася. – Сядай, пашукаем месца, дзе і лес шуміць, і вада цячэ, дзе птушкі спяваюць над зялёнымі лугамі.

Паклала сваю далонь на маю і нашыя пальцы роўным, сінхронным крокам пайшлі на паўночны ўсход, праз Ваўкавыск, Дзятлава, далёка па правы бок застаўся Навградак, а мы ішлі далей, на Бярозаўку. На сіняй стужцы Нёмана пальцы Юліі спыніліся.
– А чаму б не тут? Добрае месца. Летам, у жніўні паедзем.
Я наблізіў твар да карты і прачытаў: Дакудава.

Цяпер, напрыканцы жніўня, я чакаў Юлію на дваццатым паверсе, на Праспекце газеты "Праўда", у доме дзе можна было б пасяліць усіх жыхароў маёй вуліцы. Пасяліць з іхнімі радасцямі і смуткамі, бо гэтыя радасці-смуткі, што прыжыліся ў малых гарадах, не патрабуюць шмат месца. Зімой можна пакласці іх на кухонны стол паміж буханкай хлеба і талеркай гарачага супу, а летам закінуць на маленькі балкон, у вазон з кветкамі, каб нагадвалі мінулае, вясковае дзяцінства.

Юлія спазнялася. Я сходзіў на балкон, разгарнуў плечы, паклаў далоні на парэнчу. Галава пасунулася за балюстраду, шукаючы ўнізе знаёмы дыск светла-рудога сонца. Але нават тут, дзе ўсё яшчэ не завяршыўся працэс стварання сусвету, сонца не ходзіць па зямлі. Унізе – толькі кропкі. Усе аднолькава малыя, усе чорнага колеру, плоскія, бягуць хто куды, апантана шукаючы свой загублены трохвымерны вобраз. Калі б я ніколі не быў на зямлі, не здагадаўся б, што за гэтымі плоскімі кропкамі хаваюцца жывыя людзі.

Ці на тое і паслаў Бог свайго сына на зямлю, каб паглядзеў нам у вочы з нашай, зямной перспектывы? Каб абжыўся ведамі і досведам, і яны – веды і досвед у Судны Дзень пакіруюць Ягонымі рукамі, спраўна і справядліва

адмяжуюць чорнае ад белага, малое ад вялікага, трохвымернае святое ад плоскага грэшнага?
Час пайшоў за поўдзень і неба над Мінскам апранулася ў зялёную сукенку. Такую зелень я знаходзіў часам у вачах Юліі. Не ўмею назваць колеру яе вачэй. Апоўдні дамінаваў там светлы блакіт, адвячоркам выспявалі ў ляпіс-лязулі, а досвіткам, калі мы вярталіся з кароткіх эскападаў у паўсон, вочы Юліі былі зялёныя, як неба над Мінскам.

Начаваць у гэтым доме прыйшлося мне першы раз. Не ведаючы, што тут чакае на кухні, перад ад'ездам з Беластока я закінуў у заплечнік верную турку. Цяпер дастаў яе, насыпаў кавы, дадаў цукру, два зярняткі анісу. Запаліў газ і сіні агеньчык лізнуў меднае дно.

Заўтра паедзем прытрымаць адыходзячае лета. Няхай жнівень спавольніць крок, хай чатыры апошнія дні зацягнуцца на адзін дзень даўжэй, а мы будзем катацца на ровары, купацца ў Нёмане і адсочваць знічкі ў небе, незаплямленым зарывамі вялікіх гарадоў, дзе нават ноччу не спыняецца згараць жыццё. І знічкам, гэтым анёлам-пасланцам, будзем загадваць самыя сакрэтныя жаданні. Анёл у палёце ніколі не адмаўляе.
Заўтра паедзем у Дакудава. Гаспадар разложыць вогнішча і з чырвона-аранжавага полымя высунецца сівы дым. Калі ўзнікне жаданне, пойдзем начаваць на сенавал, а стане холадна, будзем згараць у сваіх аранжава-сівых абдымках.

"Ужо больш за два гады", – скажу заўтра. "Так, больш за два", – пацвердзіць Юлія. А можа па яе рахунках атрымаецца больш за тры? Нашмат больш?

Вялікая стрэлка гадзінніка завінула чарговы круг і я пачаў хвалявацца. Набраў нумар Юліі, здалёку, з па-за зямных сцяжын, выбітых капытамі касмічных спадарожнікаў, пайшлі доўгія гудкі – пяць, шэсць, сем, але тут, на зямлі ніхто не браў трубку. Праз квадранс я пазваніў яшчэ раз. “Абонент временно недоступен”, – цяпер неадкладна, інтанацыяй вялікага, чужога горада, паведамляў аўтаадказчык.  Я слухаў гэты голас яшчэ шмат разоў, прывыкаў да яго, у халоднай, безэмацыйнай інтанацыі шукаў знаёмую мелодыю.

Я вярнуўся на балкон, але цяпер вочы кіраваліся не на зямлю. Яны шнырылі неба, шукаючы, ці не знойдзецца там хаця б адна знічка, самотны лятучы анёл, каму можна б было даручыць самае простае жаданне: няхай Юлія падыме трубку.

Але ў вялікіх гарадах знічкі-анёлы выходзяць на шлях куды пазней за сваіх калег, што патрулююць неба над пушчамі, азёрамі, лугамі. З неба над Мінскам толькі пасыпаліся першыя пялёсткі адцвітаючага дня, а ў адказ ртуцевым святлом  выйшлі вулічныя ліхтары, жоўтымі прамавугольнікамі пасвятлелі вокны малых і вялікіх дамоў. Горад ішоў з дапамогай свайму паміраючаму дню, будзе стаяць за яго да апошняга і выстаіць.

Як на загад, у след за вялікімі вокнамі, жоўтым аконцам зіхануў і мой тэлефон.

“Выйшла замуж. Сёння.” Прачытаныя словы прайшлі праз мяне як вада праз сіта. Пакуль паспеў улавіць іх сэнс, зляцелі ў жоўты пясочак маніторчыка і ён згас, зачыніў за імі дзверы.

Хто – замуж? Чаму якраз сёння? Юлія? Не, немагчыма. Нехта пераблытаў нумар, адправіў эсэмеску і яна, дзіўным выпадкам, знайшла мяне. Чаму якраз мяне? Бо трэба было кагосьці знайсці? Бо дрэнныя навіны ніколі не абмінаюць нашага ляснога запечка? Бо лёс выбраў мяне, каб адпомсціць сапраўднаму адрасату гэтай навіны, палічыўшы яго, з-за сабе толькі вядомых правінаў, недастойным дзяліць радасць з жанчынай, што ступіла сёння на шчаслівы шлях сямейнага жыцця.  Гэты невядомы мне чалавек надалей застаецца ў несвядомасці, а справядлівы лёс зробіць усе патрэбныя намаганні, і складзе акалічнасці пэўным – фатальным – чынам, каб ніколі аб нічым не даведаўся. Выйшла замуж, вяртаюся заўтра.

Я дазваляў думкам гэты іранічны тон, выціскаючы сябе ў грузкія прасторы самападману. Паўставалі ў памяці пераблытаныя нумары, тысячы, сотні тысяч эсэмэсак, што ідуць не туды куды ім трэба, гісторыі пра заблуканых вандроўцаў, што, узяўшы вечарам напрамак на Рым, раніцой знайшлі сябе ў Крыме. Але другі бок памяці ўжо перагортваў усе тыя сігналы, што ішлі ад Юліі на працягу нейкага часу, а я прапускаў іх міма вушэй і вачэй, не прыдаючы ім залішняй увагі. “Калі ў мяне будзе сын”, “мушу быць замужам да дваццаці пяці”, “буду здраджваць мужу з табой”,  усе тыя знакі і сігналы вярталіся, прыносячы за сабой здзіўленне, якім чынам я мог іх прапусціць.
Можа, звычайнае па сваёй прыродзе яе “амаль два”, пастаўленае супраць майму “больш за адзін”, адгучала нязначна парушанай інтанацыяй, але ж і тады ўсяго на адну хвіліну закранула маю ўвагу. Спыніўся, праслухаў яшчэ раз і пайшоў далей. Чаму?

Бо раней заўсёды я першы сыходзіў і цяпер таксама будзе, як было заўжды? Бо палічыў, што яе сцежка ўсё яшчэ бяжыць паралельна з маёй пад бязвоблачным небам узаемнага захаплення? А можа – першы раз – мне захацелася пайсці на адзін паварот далей і дакрануцца да слова “каханне”?

“Якая ж сіла магла б, нават на кароткі час, звязаць у адзін вузел тваю стабільную, халодную сівізну і яе аранжава-вогненную маладосць? Хіба што жартам лёсу”, – паўтарыў голас аднікуль, што некалі, даўно таму, знайшоў мяне на чыгуначным вакзале. – Ты паглядзі ў каляндар, ваш час, твой і яе, даўно прарваўся за мяжу, вызначаную словам “кароткі”.

Манітор даўно згас, тэлефон ляжаў побач, дастаткова было працягнуць руку і яшчэ раз праверыць нумар. Але думкі не спяшаліся з загадамі, ды і рукам не надта каб хацелася праяўляць ініцыятыву.

Заўтра не паедзем у Дакудава? Ні паслязаўтра? Ніколі-ніколі?

Заўтра Спленне і царкоўка на ўскраіне свету запоўніцца людзьмі. Даўно, даўно таму далі мне там імя, а яно раздзялілася самое ў сабе на тры струменьчыкі і кожны струменьчык пабег у іншую мову, у іншую краіну, быццам бы жыць мне трохжыццём, паралельна, або раз-пораз, тры разы.

Заўтра царкоўка запоўніцца людзьмі. Галава да галавы, плячо да пляча, да апошняга месца. Вернуцца тыя, хто бліжэй і тыя, хто далей, нат зацярушаныя ў далёкай

чужыне і тыя, каму час памяняў імёны, знойдуць зваротны шлях дамоў. Пасля поўдня хаткі пасвятлеюць ад чалавечых галасоў, бабулі-дзядулі памалодзяцца ўнукамі і толькі мой бацькоўскі дом застанецца нямы, як буслінае гняздо ў апошнія дні жніўня.

Усё-такі трэба перачытаць эсэмэску, упэўніцца, ці сапраўды ад яе імя. А што калі ад яе? Яшчэ раз набраць нумар, няхай сваім, жывым голасам скажа мне гэтыя тры словы? Бо мне не верыцца, бо – чаму не быць такому – хтосьці пастаронні пакарыстаўся яе тэлефонам, пажартаваў?
“Не пажартаваў. Ты вярнуўся на сваё месца, яна пайшла шукаць сваё”, – голас аднікуль яшчэ раз умяшаўся ў маю са мной размову. – Хочаш, набірай, звані. І што? І нічога, каторы ўжо сёння раз твой да яе шлях перакрые аўтаадказчык. Насамрэч, ён ужо і так перакрыты. Канчаткова.

Рука працягнулася да тэлефона. Я не памыліўся, эсэмэска сапраўды была ад Юліі.

“Будзь шчаслівая, Сонца” – адказ напісаўся па-за маім удзелам, але яго адправіў я.

Месяц пачаў чарговую квадру і паспеў паставіць да сонца дзве трацiны свайго шырокага твару. Дакладна праз тыдзень дасягне поўную моц, але і цяпер ягонае святло няшмат саступала святлу вялікага горада.

Злёгку, адным пальцам ноч зварухнула калыску зямлі. Праспявала першую калыханку, піханула мацней, яшчэ мацней і панялася калыска ад краю да краю, ад далягляду па далягляд. Але вялікі горад не закалыхаць. Як не

старалася ноч, не заплюшчваліся вулічныя ліхтары, не сціхалі галасы, жвавыя сараканожкі горада разбягаліся па шырокай, чорна-шаўковай пасцелі, кожная ў свой бок.

Месяц коўзаўся на бліскучай, як студзеньскі лёд парэнчы. Туды і назад, туды і назад... Як далёка трэба прасунуць галаву за лінію балюстрады, каб дакрануцца да мяжы, на якой заканчваецца чалавек і пачынаецца птушка? А калі б падскочыць злёгку, учапіцца далонямі за крыло воблака, а воблак, як парус, парушаны ветрам месячнай поўні, паплыве на захад. Па-над Койданавам у Баранавічы, у Жыровічы. Але поўня толькі праз тыдзень....

“Выйшла замуж. Сёння”. Сёння – ёсць. Учора – было. Заўтра?

Заўтра не паедзем у Дакудава, а царкоўка, дзе мяне хрысцілі, запоўніцца людзьмі. А калі б падскочыць злёгку, схапіць у далоні крыло воблака.... З Жыровічаў у Ружаны, Віскулі, адтуль у Каменюкі, ці не атрымалася б да першых пеўняў паставіць нагу на сходах бацькоўскай хаты? А, хто ведае, спадаючы з высаты хутчэй, чым бяжыць святло, мо далося б патрапіць у той беззваротны момант, калі расплюшчваеш вочы і першы раз пачынаеш сябе памятаць?

*2.*

На пачатку ёсць Слова, і Слова ёсць у Маці. Маці цярпліва выношвае Слова ў сабе, чакае пакуль не саспее, пакуль не прыйдзе час.

Чарговыя летнія дажджы забіваюць хатку глыбей у зямлю, веснавыя вятры – напераменку з восеньскімі вятрыскамі – увішнымі пальцамі выдзяўбаюць сакрэтныя пераходы на кухню, а зімовы холад сунецца па начах цераз падлогу, выціскаючы вечаровую ўтульнасць на гарышча і далей, праз абімшэлыя драніцы, у раззоранае неба.

Бацька абводзіць сцены прызбамі, запіхвае пакулле ў свежыя адтуліны, падпраўляе дах, заганяючы цвічкі ў тонкія дошчачкі, парэпаныя змаганнямі з дажджом і снегам. Надвячоркам сядае ля печы і бярозавымі паленцамі прытрымлівае агеньчык за расхрыстаныя полы, а на досвітку, калі ледзь толькі прыплюшчыць вочы, цеплата і так вольнай птушкай зрываецца з прывязі.

Аднойчы восеньскім вечарам дым з печы ідзе ў комін і не знаходзячы праходу, вяртаецца назад, на кухню. Маці ад здзіўлення ўсплясквае ў ладкі:
– Паглядзіце, зачынілі нам дзверы на неба.
І тады з яе вуснаў злятае слова, што выспявала не адзін дзень: Дом. Нам трэба будаваць новы дом.
– Трэба, канешне, – падтаквае бабуля. – Мы з Дзмітрыем гэтую хатку ляпілі як ластаўка гняздо....
– Ведаю, як ластаўкі лепяць гнёзды. З сухой травы і з балота, – падрываюся з зэдліка, падбягаю да запечка, выструньваюся перад бабуляй. – Я бачыў, як яны выдзяўбаюць балота з высокіх берагоў рэчкі. Хадзіў летам з хлопцамі лавіць ракаў і бачыў. Траву і балота прыносяць у дзюбах і слінай клеяць да сцен у падстрэшку.
– Не, не з балота, сынок, ластаўкі лепяць гнёзды, – пасміхнулася бабуля. – І не з сухой травы. Яны іх уюць з памяці праластавак, што адляцелі ў векавечныя выраі. А ведаеш, дзе запісаная гэта памяць? Не ведаеш. А яна

і пёркамі ў белых воблаках запісаная, і кіпцюркамі ў падсохлых старарэччах, і ў песнях птушыных, што нясуцца па-над лугамі ў сенажаць. Глядзяць у яе і лепяць. Так і мы ляпілі хатку, пыталіся ў твайго прапрадзеда Уладзіміра, дзе пакласці камяні на фундамент, раіліся, дзе стане комін, дзе гліняная печ. Пад пільным вокам твайго прапрапрадзеда Цімафея ўзводзілі сцены з круглякоў...
– Мамка, якога зноў Цімафея-Уладзіміра? – бацька падкідвае паленца ў кухонную печку, прычыняе дзверцы, печка на хвіліну спыняе дыханне, кашляе і дым прарываецца ў комін. – Даволі ўжо паэзіі, навошта малому баўтаць у галаве.
– А яму ж трэба ведаць, што кроме гэтых сцен, кроме ложка і печкі, існуе яшчэ іншы свет. Ён схаваны ад нашых вачэй і ў далоні яго не ўзяць, але чалавек без яго, усяго паўчалавека, – бабуля махае рукамі, разганяе на ўсе бакі і бацькавы словы, і зацярушанае дымам паветра, і вяртаецца да раней сказанага: Бервяно клалі на бервяно, калоду на калоду, тут шчопаць ляснога моху, там грудачка гліны. З вясны да восені зляпілі. І падпытвалі твайго прапрадзеда Мацвея, ці калі-небудзь час паспакайнее, ці дазволіць нам дачакаць вечара на адным месцы, не шпурне за сёмае мора, як паўночны вецер вышпурляе ластавак у вырай. Ён жа, прапрадзед твой Мацвей, як прапаў у бежанстве, так і па сённяшні дзень напэўна ў дарозе. Не пахавалі сваімі рукамі, значыць ідзе. Шмат бачыў, ведае шмат.
– І што сказаў Мацвей? Нагадаў хоць словам, што неўзабаве прыйдуць немцы і шпурнуць хатку прэч? Не за сёмае мора, праўда, але шпурнуць, – не можа паўстрымацца бацька.
Бабуля адступае ў маўчанне, але ж не маўчыцца ёй.
– От, глядзі ты як было. Як сабе памятаю, усё ў дарозе,

усё нас хтосьці кудысь штурхаў. І ў Казані была, і ў Мардве, і дзіцячай нагой па замерзлай Волзе за хлебам хадзіла.

У працяг гэтых слоў я чакаю аповеду пра Расію, чакаю чарговы ўжо раз і надалей не ведаю – любіць яе бабуля, ці не любіць? Маю ўражанне, што гэтая, самая першая Расія, вяртаецца да яе двухгаловай птушкай, абвязаўшы першую галаву белай, другую чорнай хусткай. Наўпрост з Белавежскай пушчы заскоквае на прадзедаў двор рэхам царскіх паляванняў, пабразгівае залатымі чырвонцамі і царкоўнымі званамі, размалёўвае дзіцячыя сны казкамі пра добрага імператара. Але некалі Расія прыходзіць да бабы Веры ў высокіх казацкіх папахах і хвастаючы серабрыста-сталёвымі шаблямі летнюю раніцу, увесь яе дзіцячы свет грузіць на фурманкі і вядзе на ўсход жывую раку – даўжэйшую за далягляд, шырэйшую за Нарву, за Буг, за Нёман. Бясследнай кропляй разыходзіцца ў гэтай рэчцы мой прапрадзед Мацвей, у незразумелай Мардве, дзе ў скамянелай зямлі магілы капаюць кіркамі і дзяўбуць ламамі, дзесьці там застаецца прабабуля Дар'я.

Я чакаю аповед пра эксодус маіх продкаў, тутэйшую Кнігу выхаду, замкнёную ў слове "бежанства", але бабуля вырашае іначай. Падымаецца з запечка, падсоўваецца бліжэй да акна.
– Час паспакайнеў, цяпер трэба будаваць па-новаму.
– Значыць, як? – чую бацькаў голас.
– Трэба, як след, на жыццяў пяць, з моцнай пушчанскай драўніны. Варта падумаць, хто падбярэ ўсе гэтыя сосны, хто замовіць іх добрым словам, бязбольна перавядзе з лесу на наш панадворак.

– Як перавядзе? Бязбольна? – здзіўляецца маці. Яна прыйшла ў наш свет з краіны шырокіх палёў, яе справы з пушчай яшчэ не паспелі завязацца на сем вузлоў і ніколі не чула пра людзей, што магічным словам заклінаюць дрэвы і бязбольна перапраўляюць іх з аднаго вымярэння ў другое. – Як усе звозяць дрэвы, так і мы. Сядуць мужчыны на фурманкі, возьмуць з сабой пілы і сякеры, што больш трэба?
– Дрэва адчувае страх перад чалавекам з сякерай. Няўмелы дотык сталёвага ляза скручвае слаі, душа дрэва сінее, заўчасна застывае жывічная кроў і пасля дзесяцігоддзямі нагадвае пра сябе, вытыркваецца са сценаў, цяжкімі, жывічнымі слязьмі плача дом. Карацей, дрэва было харошае, а дряўніна атрымалася абы-што. І з такое драўніны не ўзвядзецца моцны зруб. Нават найлепшыя дойліды тут ні пры чым. Даўным-даўно, яшчэ за цара, былі такія людзі, у кожнай вёсцы быў свой дрэвавод. І вёскі стаялі на адным месцы. Прыходзілі чужыя, палілі хаты, забівалі людзей, а хаткі падымаліся з попелу, людзі ўставалі з мёртвых і працягвалі жыць на ранейшым месцы.
– Хто б мог зрабіць такую справу? – маці падабаецца дом, што сам па сабе можа падняцца з попелу і мёртвым вярнуць жыццё, і яна ўчэпліваецца ў яго дзвюма далонямі, падымае на калені, лашчыць, туліць да грудзей.
– Гаварылася, толькі той ведае, як падысці з сякерай да дрэва і не спалохаць яго, хто ніколі ніводнаму дрэву не забраў лішне жыцця. Хто ніколі ад холаду не ахінуўся скурай, зрабаванай у пушчанскага мядзведзя, хто, напаткаўшы ў пушчы заблуканае ваўчаня, абагрэў яго сваім дыханнем, схаваў за пазуху і занёс назад у воўчае гняздо. Перамагаючы свой чалавечы страх перад ваўком і сваю чалавечую да ваўка варожасць.

– І нам сёння такі чалавек трэба, – маці падымаецца з лаўкі, асцярожна апускае на старую падлогу свой новы, бяспечны дом. Ён пакуль маленькі, але ж і на тое будучыня, каб вырастаў, сталеў, набіраў моц. – Пара спаць.
– Знайсці яго сёння, справа няпростая, – бабка ўздыхае і адступае ў доўгае задуменне.

Бачу яе, як аблакаціўшыся на кухонны падаконнік, доўга лістае ноч, бачу, як у чорным люстэрку акна дрыжаць яе вусны. Гэта пазней зразумею, што менавіта такімі дрыжыкамі вуснаў старыя жанчыны адсяваюць тых, хто неразлучна зніставаўся з моракам, ад тых, хто прытуліўся да чорнай падушкі часова і расплюшчыць вочы з вяртаннем сонца.

Гравейкай ад Старыны ідзе восеньская раніца і чыстымі, абмытымі ў расе далонямі, абапал дарогі раскідвае залаты, сонечны авёс.
– З такога зерня вырастаюць добрыя дні, – кажа баба Вера. – Збіраюся да Алімпея. Ён цяпер у Старыне, у сярэдняй дачкі. Пойдзеш?
Бярэ мяне за руку і мы ідзем насустрач сонцу. За апошняй хаткай брукаванка спыняецца і выпускае паперад сябе дзве каляіны. Паміж іх струменіцца раўчак, выбіты конскімі капытамі, а побач з каляінамі бягуць у траве сцяжынкі пратаптаныя людзьмі.
– Глядзі, як вуліца вырастае ў дарогу, – кажа бабуля. – Колы нашых вазоў жалезнымі абручамі выкраілі яе з небыцця, капыты нашых коней жалезнымі падковамі прышпілілі да гэтага месца. На конскіх капытах дарога трымаецца мацней чым на найвялікшых цвіках.
– Чым адрозніваюцца вуліца і дарога?

– Калі азіраешся за сябе і бачыш, як за полем, за лесам, за паваротам знікае твой дом, значыць ты ўжо ў дарозе. Трэба ўважліва сачыць за дарогай, запамінаць сляды і знакі, каб ніколі не згубіць шляху дадому.

Пасля шмат гадоў я хадзіў гэтай дарогай у школу. Наносіў на карту памяці стары Ёнашаў вятрак, геадэзійную вышку, што ўдалечы вытырквалася па-над вяршыні маладога сасняку, на павароце, за ўрочышчам Азерышча з жоўтых і чорных каменьчыкаў складаў свае таемныя знакі, завязваў белыя і чырвоныя стужачкі на прыдарожных дрэвах. Пакідаў адбіткі слядоў і прыглядаўся, параўноўваў, як з кожным годам павялічваецца, вырастае мой след. Аднае восені сасняк перарос вышку і яна знікла за зялёнай сцяной, вятрак спапяліўся ў пажары, а я надалей знаходзіў зваротны шлях дадому. Урэшце, упэўнены, што ніколі не падвядзе мяне мая памяць, пакінуў стаўляць знакі.

За паваротам дарога забягае ў лес, заціснутая дрэвамі звужаецца, пралягае пясчанай змейкай да высокіх сценаў новазбудаванай школы і маленькіх старынаўскіх хатак.

Дзед Алімпей сядзіць на лавачцы і крэсліць кійком на пяску незразумелыя знакі. У яго аднаго ёсць такі кіёк – з гнутай ручкай, цёмна-аранжавы, лакіраваны, прыаздоблены чорнымі выкрутасамі.
– Алімпей, а не скажаш адкуль у цябе такі кіёк? – падпытваюць мясцовыя старцы.
– Скажу, не сакрэт. Даў яго некалі майму дзеду адзін воўк пушчанскі. Стары, на ўсе чатыры ногі кульгавываўчура. Бяры кіёк, – сказаў. – Мне ён лішні, з ім ці без яго, ужо

не ўцячы ад смерці. Паўзе за хвастом, чуе мой воўчы нос яе гнілое дыханне. Табе яшчэ паслужыць, а стане лішнім, аддай каму, як я табе даю. Ён шмат ведае пра мінулае і будучае, і ніводная лясная сцежка яму не чужая.
– Трындзіш Алімпей. Такіх ваўкоў не бывае, – пярэчаць у адзін голас. – А ўвогуле воўк чалавеку не пара.
– Пара, не пара, бывае, не бывае, а кіёк, самі бачыце, ёсць, – дзед пасміхаецца, выводзячы на пяску пакручастыя лініі.

– Прышласць чытаеце, куме? І што ж там напісалі? – бабка падступае да лавачкі, зазірае ў раскладзены на пяску рысунак.
– Новага нічога. Расія прыйдзе, – з уласцівым сабе спакоем адказвае дзед Алімпей.
– Зноў? Ужо каторы раз? – у блакітных вачах бабы Веры мільгае чырвонай птушкай сполаху яе другая Расія. Смешная і змрочная, ні свая, ні чужая, заходзіць апоўдні ў лясную хатку і да апошняй кроплі жлукціць пякучую самагонку. Адвячоркам, пад гукі гармоніка падпявае сумныя песенькі пра вясёлае калгаснае жыццё. Раніцой забівае дошкамі дзверы ў сінюю царкоўку і груба чысціць нос аб сінюю хустачку, вышытую дзеду на добры шлях. Той шлях, куды адпраўляюцца ўсе мужыкі, хто ўголас пасумняваўся ў перавагу новага зямельнага парадку над старым, спрадвечным.
Праз кароткі прамежак часу адступала хутка і далёка, пад гул нямецкіх самалётаў. Здавалася – назаўсёды.

– Калі прыйдзе? – бабка паўтарае пытанне і прыводзіць на памяць сваю трэцюю Расію. Заскочыла ў яе вясковы двор, пакінула дзеду Дзмітрыю высокія хромавыя боты, на ляту прыхапіла кусок сала і пагналася далей, на захад.

А чацвёртая – больш сваёй, ці больш чужой сябе пакажа? Што возьме? Што пакіне?
– А хто яе там ведае, калі ёй зноў заманіцца пахадзіць туды-сюды? – дзед Алімпей напаўняе тытунём місачку люлькі, прытоптвае тытунь вялікім пальцам, утыкае ў рот цыбук, запальвае запалку. – Пісалі ў святых пісаннях пра неба захінутае дратамі? Пісалі. Так і ёсць. Шчыльна сшыты небакрай з небакраем, усё больш вядома пра сёння і пра ўчарашні дзень, а кнігу будучыні ўжо не адкрыеш насцеж. Вось зазіраю адным вокам і бачу, што бачу. Але прыйсці Расія, прыйдзе. Я ўжо яе не дачакаю, распачаўся дзясяты крыжык. Апошні.
– Дзясяты?
– Так кумо, дзясяты.
– Чаму апошні? Мо і за адзінаццаты дасць Бог зачапіцца, хацяб адным пальцам. Некаторым шанцуе, ёсць такія.
– Не дасць. Калісь, даўным-даўно, заехалі ў вёску цыганы, дарэчы, як і цяпер заязджаюць, маладая цыганка паглядзела на мяне і кажа: "табе сто гадоў жыць, хлопец". Па далоні варажыла, доўга ў далонь углядалася, абмацвала пальцамі. Вуснамі, цёмна-чырвонымі, як спелая вішня, шаптала якіясьці словы і паўтарыла: "Помні Алімпей, сто гадоў і ні дня больш". Дзіўная такая, цыганка і не цыганка, рудавалосая і твар не надта каб смуглявы. А маё імя адкуль ведала? Першы раз яе бачыў. Павярнулася, далей ісці намераная, але ж не, яшчэ раз бярэ маю далонь і кажа: "Спознішся на сваю смерць, да веку вякоў будзеш блукаць паміж зямлёй і небам. І ветрам, што дрэвы ломіць сыходзіць будзеш, і перуном, што дубы расшчапляе, і дажджом жыццядайным. Прыйдзеш раней часу на сустрэчу з кастухай, яна цябе да зямлі ўвяжа, у дрэва пераўвасобіць. І ў бясконцасць будзеш адбівацца ад парывістых вятроў, і ад перуноў ухіляцца, і вуснамі

зялёнымі злізваць кроплі дажджу з веснавых воблакаў. І бясконцую колькасць разоў будзеш ставаць пад тапор, і цяжкой калодаю з грукатам падаць будзеш, і ціха падымацца лёгкай сцяблінкай. Дубовай і бярозавай. Сасновай і клёнавай". Набаўтала, набаўтала і пайшла. Праз год вярнулася, а ў далонь маю, ні ў карты больш не глядзела. "Ёсць у лесе дрэва, з астатнімі не пераблытаеш, бо ягоная крона на паўнеба", – калі знайду яго, зраблю тое, што трэба зрабіць, тады і прарвецца замкнёнае кола лёсу. Маё кола і ўсіх нас. Сыдзецца першая хвіліна з апошняй, ці не сыдзецца, не мае значэння, бо як ні жыў, памрэш свабодны.
– І што рабіць з гэтым дрэвам?
– Няважна, час прайшоў. А што ёсць свабода і навошта яна? Шукаў яго і не шукаў, бачыў і не бачыў. Верыў і не верыў. От, яшчэ адна казка пра папараць-кветку. А цыганка ніколі больш да мяне не адазвалася. Толькі імя даведаўся выпадкова. Юліяй клікалі яе цыганы. А я жыву, дзясяты крыжык стаўляю на сцяне і чакаю свой час.

Дзед моўкне. Дзюбком кійка рысуе на пяску сонца. Ад замкнёнага кола прамяні разбягаюцца на ўсе бакі, кіёк стаўляе дзве кропкі, дужку, сонца ўсміхаецца, а я гляджу на лес за Старыной. Дрэвы справядліва дзеляць між сабой неба, ніводнае не бярэ больш за астатнія.

– У кожнага свая смерць. Барыса памятаеце? З Войнаўкі Барыса. У першы дзень вайны яго забілі. А Васіля з Доўгага Броду куля знайшла ледзь паспела вайна закончыцца. Не ў час. А я жыву, дзясяты крыжык.
– Вы, куме, калі нарадзіліся? – пытае баба Вера.
– А хто можа ведаць? Паміж Ганнай і Спасам, а хрысцілі на Спленне. Бацюшка паглядзеў у каляндар, няхай будзе

пасярэдзіне, дванаццатага жніўня, Алімпей. Нябесны. Зачыніў каляндар, яшчэ раз да мяне прыгледзеўся. І вочкі ў яго сінія-сінія, як жнівеньскае неба, так сказаў.

Я ніколі не цікавіўся, што хаваецца за маім імем. Дома клічуць мяне Мішам, для настаўнікаў у школе стаў Міхалам, а на Вялікім тыдні, калі маці вядзе мяне ў царкву да споведзі і прычасця, і я называю сябе Мішам, або Міхалам, бацюшка глядзіць на мяне кароткую хвіліну, затым, засоўваючы ў мае вусны мініяцюрную лыжачку салодкага віна, выпраўляе: Міхаіл. Прічашчаецца раб Божій Міхаіл.

– Я рускіх не дачакаю, але тыя, хто дажыве, хай памятаюць: як толькі дзьмухне з усходу халодным ветрам, запальваць трэба грамнічныя свечы і стаўляць у вокнах праваслаўныя іконы. І крыжы высокія ў пачатку вёскі.
– Так і не зразумела. Чаму іконы? – баба Вера стрэсвае з вачэй прывідныя птушкі даўніх гадоў, вяртаецца на восеньскую вуліцу.
– Слова так кажа, – дзед тыцкае кончыкам кійка ў зігзаг на пяску. – Вось гэтае слова. Дом з іконай у акне будзе памілаваны.
– Камуністы прызнаюць ікону?
– Можа праваліцца той камунізм і цар вернецца?
– От і напалохалі, а ў мяне справа сур'ёзная. Падумала нават – казаць, не казаць? Можа не варта спяшацца, калі свет на завіруху паварочвае? А вы мне – камунізм праваліцца. Хутчэй дах нам на галаву праваліцца, чым той камунізм у Расеі. Куме Алімпею, трэба падабраць дрэвы на дом. Што лепш падыходзіць на падрубы, што на сцены, а што на кроквы. Замовіць ад сполаху, сінізной каб не зайшліся, пабачыўшы сякеру. Не так падыдзеш, не так

першы ўдар нанясеш, кроў жоўтая зварыцца, застыне заўчасна, і цякуць гадамі булаватыя слёзы са сценаў. Вывесці з лесу, угаварыць, хай лёгка ідзецца дрэвам у апошні шлях, хай застаюцца там, не цягнуцца следам смутак лясны і лясны паўзмрок, паможаце?

Дзед Алімпей шоргае наском чаравіка па пяску, сцірае з вачэй загадкавую будучыню. Чухае патыліцу, цмокае куточкамі вуснаў, задумоўваецца.
– Дрэвы на дом, кажаце. Канешне, выводзіў некалі з лесу. Стаяць яшчэ хаткі ў нас і па суседніх вёсках, і людзі ў іх вядуцца. Цяпер я, бадай што, адзін застаўся, але даўно ніхто да мяне не звяртаўся з такой справай, не ведаю, ці не здыхалася мая моц, як недапітая гарэлка. Маладыя самі ўсё лепей ведаюць. Сякуць дрэвы як пападзе, цягаюць – купленае днём, крадзенае ноччу, стаўляюць вялікія дамы і нават не здагадваюцца, што пасля іх не будзе каму жыць у тых сценах.
– Паможаце? Ну хто яшчэ, калі не вы? – Вочы бабы Веры прыліпаюць да дзедавых вуснаў. Вусны маўчаць, стуліўшы крылы тояцца ў гнёздачку, сплеценым з прыкопчаных тытунёвым дымам вусаў і сівой барады.
– Я памагу вам. Зіма на падыходзе, якраз і лепшы час для такое падборкі. Падбяру і пастараюся бязбольна вывесці іх з лесу. Найлепей, як умею.

Нарыхтоўка драўніны на новы дом рушае з першым снегам. Мароз ледзь толькі пачынае практыкавацца ў сваіх зімовых абавязках, выпаўзае з лясных бярлогаў пасля поўначы і вяртаецца назад з першым сонцам, і баба Вера кажа маці:
– Закутай цёпла малога, хай прагуляецца з мужчынамі ў лес, пакуль не ўзяліся сапраўдныя маразы. Спатрэбіцца

яму ў жыцці, ці не спатрэбіцца, няхай паглядзіць, з чаго пачынаецца новы дом.

Кожны дзень пасля Мінска ўпэўніваў мяне, што Беласток усё-такі скроены на маю фігуру, сядзіць на мне як уліты і дастаткова расплюшчыць вочы і вушы, каб убачыць знакі і пачуць галасы. Прынеслі іх людзі такія як я. Хто свядома, хто насуперак сваім жаданням і нават выштурхнутыя з цёплай кватэры на вуліцу, выжываюць. Часам зблытаю дарогу, тады кіруюся на пах свежага хлеба. Заходжу ў пякарню, займаю чаргу за спіною пажылой жанчыны. “Пані, а мне булачку хлеба дайце. Найлепей чорнага”, – чую знаёмую інтанацыю бабы Веры і ўжо ведаю, куды мне трэба. Аднойчы, калі зразумеў, што магу хадзіць туды, куды мне захочацца, я адчыніў акно на чацвёртым паверсе і пайшоў у пушчу.

Бачу сябе зверху, іду за дзедам Алімпеем, за мной крочыць бацька, затым яшчэ тры мужчыны, нясуць у руках сякеры і дзве доўгія пілы. За мужчынамі, ссунуўчы на левае вуха зялёную шапку, ступае ляснічы. Але мне не падабаецца глядзець на сябе з вышыні чацвёртага паверха. Мне хочацца бачыць свет, якім ён ёсць, раздробнены на паасобныя пахі і гукі, пазапіхваны ў мініяцюрныя шкатулкі прасторы.
Спускаюся ўніз паверх за паверхам, ахінаю плечы сасновым араматам і чую голас дзядзькі Мікалая:
– Гэтая сасонка нічога сабе.

Дзед, ледзь зачапіўшы краем вока названае дрэва, не спыняецца, ідзе далей.
– З падрубаў пачынаюць дом. Разумнейшыя за нас прыдумалі парадак свету і трэба нам яго трымацца. Іначай

бобу з гарохам наварым, не дом. А на падрубу яна ніякім чынам не падыходзіць.

Задраўшы галаву бачу, як сасновыя вяршыні чапляюцца воблакаў, ім, як засядзелым вяскоўцам, хочацца прытрымаць вандроўніка, пагутарыць, распытаць пра справы ў вялікім свеце. Але воблакі не спыняюцца, ідуць далей на повадзе лістападаўскіх вятроў. І дзед Алімпей, бы тое воблака, таксама не прыпыняе хады. Сунуся следам, чую, як мармычуць ягоныя вусны: я ведаю, куды нам трэба. Даўно там не быў, спадзяюся – яна стаіць, чакае нас.
Раптоўна паварочвае ўбок, сыходзім з пратоптанай сцежкі, яшчэ колькі крокаў і шлях перакрывае тоўсты сасновы ствол. Ніколі раней я не бачыў такой вялікай сасны. Яна – агромная і маю ўражанне, што захапіла для сябе палову неба.

Параўняўшыся з вялікай сасной, дзед абмацвае яе – спярша вачыма, затым далонямі, грукаецца ў сасновыя дзверы костачкамі сагнутых пальцаў. Слухае водгук, адварочвае галаву.
– Вось яно, дрэва Свабоды, Праўды і Кахання. Шукаў яго ўсё жыццё і не шукаў. Знайсці баяўся, напэўна. А сёння я знайшоў, ці мяне знайшлі, хто можа ведаць? Што скажаце, пан ляснічы?
– Што мне сказаць? – паціскае плячыма ляснічы. – Не раз праходзіў міма, а ніколі не бачыў яго такім, як сёння. Пражыла свой век сасна, настаялася. Стагоддзі два з небам размаўляла, будзе што распавядаць малым. Ды і старым цікава.
– Я ж таксама пра тое. Як звон падрубы. Добра, калі ўсе чатыры падрубы ад аднае маці, будуць згодна трымацца за рукі, падтрымліваць сцены і дах, – дзед здымае

шапку, туліць шчаку да кары, парэзанай долатам часу.
– Ну, што, сястра, вырасла ты стройная, простая. Ляціш стралой у неба, але ж сама знаеш, страла не воблакам належыць. Колькі б ні ляцела, куды б ні ляцела, трэба вяртацца на зямлю. Ведаю, што думаеш, бо твае думкі не так яны адрозныя ад маіх. Дрэва ці чалавек, колькі б не жыў, а паміраць не хочацца. А я табе скажу так: Не паміраеш канчаткова, з людзьмі будзеш жыць. Размаўляць і маўчаць, сум дзяліць і радасць. Будзеш вясельныя песні слухаць. Пахавальныя таксама, але, сама ведаеш, дзе жыццё там і смерць. Кастуха, яна такая, знюхае жывы след, ды сунецца носам па зямлі. Ідзе, ідзе, усё жыццё ў дарозе і ніколі не стоміцца. І на боль у плячах не наракае, і ад цяжкой касьбы спіна не прыгорбіцца. Цягне сваю касу і стогну з вуснаў не пачуеш. Бо, што ні кажы, кастуха працавітая... А ты будзеш з жывымі людзьмі. Да добрых людзей пойдзеш. Падкрасяць цябе фарбай, каб не чарнела. Паставяць пад шчыльны дах, каб вада за каўнер не цякла. Памыюць сцены і падлогі. Завесяць на сценах святыя іконы, вокны загорнуць у цюлевыя фіранкі. Не ўсім дрэвам дадзена пражыць жыццё другі раз. Не крыўдуй на вострае лязо сякеры і не крыўдуй на сталёвыя зубы пілы, а нашым далоням, што вядуць сякеру і пілу, прабач, сястра мая.

Словы дзеда Алімпея жоўтым воскам лашчацца да дрэва, праз тоўстую кару ўліваюцца ў жывічныя калідоры, плывуць да каранёў, падымаюцца да вяршыняў. І дрэва супакойваецца, і напаўняецца воскам. Такія жоўтыя, наваскаваныя падрубы перавядуць з дзяцінства ў старасць не адно пакаленне.

Крокі дзеда Алімпея апісваюць першы круг вакол сасны, рука намацвае сякерку, заткнёную за рэмень і халоднае лязо стаўляе крыжык на паўночнай шчацэ дрэва. “Заплюшчваю вока, што глядзіць на поўнач”. Заточвае чарговы круг і другі крыжык з’яўляецца ад усходу. “Заплюшчваю вока, што глядзіць на ўсход”. Трэці паход вакол дрэва пакідае знак крыжа на паўднёвай шчацэ: “Заплюшчваю вока, што глядзіць на поўдзень”. Абыходзіць дрэва чацвёрты раз і лязо сякеры стаўляе чацвёрты крыжык: “Заплюшчваю вока, што глядзіць на захад. Зачыняю перад табой сонца”.  Засоўвае сякерку за пояс, разводзіць плечы, абдымае тоўсты ствол. “Зачыняю табе вушы, што слухалі птушак – ранішніх і вечаровых. Зачыняю табе вушы, што прыслухоўваліся вятрам – паўночным і паўднёвым, усходнім і заходнім”.

Мужчыны прыпыніліся побач, стаяць на злёгку раскірэчаных нагах, кураць, моўчкі пацiраюць акалелыя ад холаду далоні. Ніколі раней яны не бачылі, як замаўляюць дрэва, прызначанае смерці.

– Вочы не бачаць, вушы не чуюць, і ты сэрца запавольвай крок, няхай жоўтая кроў, не спяшаючыся, сыходзіць у зямлю. Вырастуць з яе новыя дрэвы, – рука дзеда Алімпея зноў заціскаецца на тапарышчы, плячо бярэ ўзмах і наносіць першы ўдар. – Цяпер можна пілой, – кажа. – Падносіць сякерку да вачэй, прыглядаецца і з халоднага ляза злізвае кроплю цёплай жывіцы.

Праз адчыненае акно маёй беластоцкай кватэры люблю хадзіць далёка за мяжу горада. Чакаю таго дня, калі зямля смялей павернецца тварам да сонца і незлічоныя, жвавыя струменьчыкі вясенніх разводдзяў пойдуць да

берагоў спакойнага травеньскага возера. Мне падабаецца глядзець, як на сонечных прутках травень вяжа зялёныя шапачкі бярозам, і павеўныя шалікі вербам, як з раніцы да вечара ў ліпеньскіх пальцах мільгае кручок, каб ноччу абсыпаць нашу старую ліпу пахучымі мёдам карункамі.

Люблю глядзець, як лета аддае прастору восені і на крылах жоўтага ветру ссоўваецца з-за воблакаў цыганскі табар. Прыадчыняюцца пярэстыя дзверы і стары Пэтро пераступае парог. Паварочваецца спіной да зямлі, рассоўвае воблакі насцеж, ківае рукамі і сунецца табар – воз за возам, скрыпка за скрыпкай, танец за танцам. Так было годам раней і два гады таму, і тры, і пяць. Я ўмею лічыць да пяці, бо толькі пальцаў на маёй далоні. На другой таксама пяць, але калі б дзве далоні злучыць у адну, калі б пераплесці пальцы, колькі было б іх, не ведаю. Лічу ахутаныя каляровымі плахтамі вазы, іх пяць і яшчэ раз пяць. Насамрэч табар сыходзіць не з воблакаў, я ведаю аб тым, бо чуў не раз, як дарослыя размаўляюць між сабой, называючы дашчэнту зямныя мясціны, зведаныя цыганскімі калёсамі. Але мне хочацца бачыць табар менавіта так і я бачу яго, як хачу.

– Ад Сямятычаў едуць, – кажа дзядзька Раман.
– Ага, ад Сямятычаў праз Кляшчэлі, – удакладняе дзядзька Мікалай.
– Ад Сямятычаў, праз Кляшчэлі і Палічну, – дзядзька Іван глядзіць на вазы, злічвае іх вачыма. – Па-мойму менш іх, чым летась.
– Ад Сямятычаў, праз Кляшчэлі, праз Палічну, да нас і далей, у Старыну. І ніхто ніколі не бачыў, каб вярталіся назад. А за Старыной мяжа, усе дарогі абрываюцца.

Куды знікаюць цыганы? – здзіўляецца дзядзька Косцік. – Ад Сямятычаў, праз Кляшчэлі, Палічну і да нас. Курэй трэба загнаць у курнік, а то зноў не ўсе вернуцца нанач, – баба Вера зрываецца з вулічнай лавачкі, знікае ў панадворку.

– Стой Сокал! – прысадзісты, барадаты цыган крочыць на чале, моцнае плячо трымае каня за вуздэчку. Калона вазоў спыняецца.
– Ну, мы прыехалі. Што ў вас новае, добрыя людзі?
– Новы дом пачынаем, – адгукваецца бацька. – А што ў цябе новае Пэтро?
– Новага нічога. Старое скарачаецца. Зноў на адзін воз паменшала.
– У нас таксама не ўсе дажылі, Пятро пайшоў. А Пятрыха ў горад да дзяцей з'ехала і дом без людзей застаўся, – дзядзька Іван прыпальвае папяросу, аддаецца задуме.
– А каго праз год не стане?
– Маглі б мае жанчыны пачытаць карты. Цыганка праўду скажа, – твар, парэзаны вятрамі, ад дажджоў парэпаны, расплываецца шырокай ад вуха да вуха ўсмешкай. Пэтро чухае кудлатыя грудзі і ўсмешка згасае, вочы глядзяць на нашую старую хатку, засуджаную на сыход у вечнасць, на расстаўленыя ў садзе высокія козлы, на раскладзеныя на сталюгах даўгія бярвенні. – Салідны дом ты задумаў, гаспадар. Можна было б зрабіць абоймы для змацавання крокваў. Моцныя, з добрага жалеза. Ніякія вятры не ўкусяць, зубы паломіць навальніца.
– Ну-у, цікава кажаш, Пэтро, – бацька абцірае лоб, чуйна глядзіць у цыганскія вочы. – А што за абоймы такія? Ніколі, прызнаюся, нават бачыць не прыйшлося. Хаця краем вуха што-та чуў.
Маці з'яўляецца зніадкуль, скубае бацькаў рукаў.

– Навошта нам тыя абоймы? Хто ведае, з якога яны жалеза? Ці часам не з таго, што і… – перажоўвае слова і раптоўна выплёўвае – з таго жалеза, што і цвікі Ісусавы. Яшчэ няшчасце якое на галаву зваліцца.

Пэтро жмурыць вочы, зубы, пажаўцелыя ад тытунёвага дыму, гуляюцца сцяблінай сухой травы.
– Памыляецца гаспадыня, яшчэ як памыляецца. Якраз наадварот усё. Не пярэчу я, цвічок адзін пацягнулі цыганы, факт ёсць факт і не схаваеш, але ж і на адзін цвік аднялі цярпення Пану. Вось і даў Пан цвіку гэтаму моц незвычайную. Нібы кусочак жалеза, драбяза, а колькі б падковаў не выкаваў, плугоў колькі і сякераў, жалеза як было, так і ёсць. Зусім яго не ўбывае. І не чуў я пра выпадак, каб зламаўся мой плуг, каб тапор вышчарбіўся, а лічы, другая тысяча гадоў падыходзіць да берага. Ну як, гаспадар? Праз год якраз і паспееце падцягнуць зруб, а я прывязу абоймы. Няма такіх ні тут, ні па суседніх вёсках.
– Плуг усё жыццё ў зямлі калупаецца, тапор у лесе цёмным, а кроквы – іншая справа. Кроквы трымаюць неба над галавой, – маці не адступае.
– На кожную пару кроквaў трэба абоймы тры. Адна вялікая звязвае іх зверху і дзве малыя, што вяжуць з бэлькамі, – Пэтро прапускае жаночыя словы міма вушэй, працягвае: – Цалкам нядаўна бачыў я дом, дзе на абоймах, зробленых маім прапрапрадзедам трымаецца дах. Нічога сабе трымаецца, проста, а гадоў яму больш за трыста. Драніцу памянялі на чарапіцу, чарапіцу на медзяную бляху, а кроквы як стаялі, так стаяць.
– Нарыхтуй штук дваццаць чатыры, – чую бацькаў голас. Ён моцны і ўпэўнены, як мала калі. – Вялікіх восем, малых шаснаццаць.

– А ў мяне пяць пальцаў, – падстаўляю маленькую ручку.
– Пакажы, – тонкая далонь маладой цыганкі кладзецца на маёй, па-дзіцячы закругленай. Кончыкі пальцаў едуць ледзь пазначанымі праміннанем часу лініямі, я гляджу на яе вусны, а вусны чырвоныя-чырвоныя, як шкарлупіна ракаў з нашай рэчкі, калі ўжо пройдуць яны праз ачышчальны круг кіпячай вады. Я ніколі не бачыў такой чырвані на вуснах нашых дзяўчат, ні жанчын.
– Сапраўды пяць, – цыганка прыкідваецца здзіўленнем і смяецца. – А што на далоні напісана? Давай пачытаем. Левую дай. Дарослым чытаюць правую, а дзецям – левую.

Цяпер вочы забягаюць у яе валасы, адкопваюць у памяці зялёную ёлку і маленькае, аранжавае сонца, што першы раз, з калядными святамі, з'явілася ў нашу хату. “Яго завуць памаранча”, кажа голас бабы Веры. Вочы вяртаюцца назад, на яркую чырвань вуснаў і бачу, як паціху сціраецца з іх усмешка, застаецца здзіўленне і яго ўсё больш і больш.
– Што напісана на маёй далоні?
– Яна маленькая, літары дробненькія, не магу расчытаць. Калі выйдзеш мне на сустрэчу праз год, скажу больш. Толькі глядзі за сабой, вялікіх дрэў асцерагайся, – адпускае маю далонь, а на вуснах не застаецца ні ўсмешкі, ні здзіўлення. Вусны смутныя.

Пакідае мяне пасярэдзіне вуліцы і пакалыхваючы клубамі, адыходзіць услед за табарам. Ад летняга ветру, ад калыхання клубоў, краёк яе павеўнай, звужанай у таліі, квяцістай сукенкі пускаецца ў танец з доўгімі, аранжавымі валасамі.

Зусім іначай стаўляюць крокі нашыя дзяўчаты і жанчыны, калі ў нядзелю ідуць у царкву, або ў поле ў будзёныя дні. Яе паходка заварожвае, праз шырока расплюшчаныя вочы заходзіць у мяне жоўтае, як воск, святло восеньскага дня, але на дне душы кладзецца цёмнай палоскай адчуванне віны: вось, з-за маёй маленькай далоні, запісанай дробнымі, недаступнымі вачам літарамі, жанчына пасмутнела, задумалася, засумнявалася: няўжо я не сапраўдная цыганка? Бо сапраўдныя цыганкі ведаюць усё і прачытаюць мінулае і будучае, нават калі запісаць іх зернем маку.

А яна ідзе, праходзіць міма дзеда Алімпея, што прысеў на сваёй лавачцы, ківае дзеду галавой і бачу ягоны ківок у адказ. Глядзяць на сябе не прамовіўшы ні слова, як спрадвеку знаёмыя сабе людзі. Яны ўсё пра сябе ведаюць і ўсе пытанні, усе адказы лішнія ім.

– Падмурак моцны, з бетону, – баба Вера пяшчотна лашчыць сонца, што даверлівай птушкай прысела на квяцістай хустцы. А сонца сёння – дзе ні глянь. Узлазіць на высокія козлы, перамервае крокамі раскладзеныя на сталюгах доўгія бярвенні. Укленчвае, запускае вока ў распіл, упэўніваецца, ці добра спраўляецца верхні пільшчык, ці простай свечкай аддзяляюцца наваскаваныя брусы. Два ніжнія пільшчыкі стаяць у траве, цягнуць пілу ўніз, верхні падцягвае яе, пускае назад, ветрык рассыпае жоўтыя апілкі на галовы, на плечы, і на траву. Калі піла стамляецца, калі прытупляюцца сталёвыя зубкі, сонца падскоквае маланкай і залатымі напільнікамі падвострывае іх, вяртае сілу.

Спраўна працуюць пільшчыкі. Сёння пайшлі на сталюгі апошнія бярвенні, а здаецца зусім нядаўна была вясна і дзед Алімпей казаў:
– Камель трэба адняць, даўжынёй сантыметраў сто. Нечага шкадаваць, на падрубы даволі, а камель спатрэбіцца дзеля іншай справы.
– Якой справы, што вы зноў выдумалі, дзядзька Алімпей? – здзіўляюцца мужчыны. Яны прыйшлі ўсёй вёскай падняць з зямлі, пакласці на сталюгі першую сасну. Колькі іх, я не ведаю, але баба кажа, што ніводная пара рук не стане лішняй, бо і сасна найвялікшая з усіх соснаў, пераведзеных дзедам Алімпеем з пушчы на наш панадворак.
– Выдумаў не я, выдумалі далёка да мяне, не ўчора, не пазаўчора. Ты гаспадар, распілуеш камель уздоўж, на досачкі. Уручную. Што пілой, што сякеркай паколеш. Будучыня прынясе разумную прыладу, што за адзін міг выканае кожную працу, табе трэба пілаваць сваімі рукамі. Досачак атрымаецца шмат, а ты дакладна іх паглядзіш – вачамі і далонямі, з усіх бакоў. І пакінеш тры найпрыгажэйшыя, дзе ні сучка, дзе слой як струна, а жывіца ляжыць роўненька і не таўсцей за чвэрць чалавечага воласа. Ручным гэблікам падраўняеш, пачысціш, каб ні стрэмкі не засталося. Возьмеш тры, усё астатняе кінеш у печ. Зробіш усё як належыцца, пойдзе ў неба чысты дым і пакліча чалавека, яго імя Маэстра. Ён з'явіцца і напіша тры партрэты жанчын. Першая – Свабода, другая Праўда, імя трэцяе назавеш сам. У свеце шмат жаночых імёнаў, колькі іх – ніхто не ведае. Зробіш не так, як трэба, пойдзе з коміна чорны дым і дарэмная твая праца. Пілаваць табе доўга, ці не да сівой старасці. Будзеш пілаваць пакуль не пакіне цябе наш прыпушчанскі, прыгонны страх. Будзе ён сыходзіць з цябе кроплямі поту і крыві, лушчыцца мазалямі, не адзін раз, следам за кропляй

поту ўпадзе на доску мужчынская сляза, але хаваць яе не трэба. Ты ўжо не паспееш пазбыцца нашага страху, заглыбока пранік у душу, тым не менш, не спыняйся. Можа яму ўдасца? Не сыходзь пакуль не закончыш, – дзед глядзіць ці то на мяне, ці то ў мае дні, што недзе там, наперадзе ходзяць невядомымі сцежкамі.

– А калі нікому не ўдасца, або не захочацца, што будзе?
– пытае бацька.
– Будзем сядзець у сваім замкнёным коле, паўтараць адзін аднаго і кожны сябе. Насамрэч, нічога страшнага, мы прывыклі.
Вочы дзеда Алімпея пабліскваюць светлымі іскрынкамі, але глыбей, у куточках тоіцца смутак. І асыпаецца на траву, як сасновыя апілкі.

– Падмурак моцны, глыбока ў зямлі, мароз не падкапаецца, – бацька жмурыць вочы, зазірае ў зіму. – Не так далёка яны, сапраўдныя маразы. Верасень пройдзе, кастрычнік, лістапад і ў снежні можна ўжо спадзявацца. Ці паспеюць цесляры?
– І ніякая бура не зварухне нас з гэтага месца, – дадае баба Вера. – Мы з Дзмітрыем стаўлялі хатку на камянях. Пад Старыной стаяла, у лесе на беразе возера. Не паспелі пратаптаць сцежку, як прыйшлі немцы і выкінулі нас з нашага лесу. Каб не карміліся партызаны. Нядрэнныя былі немцы, маглі спаліць, а бачыш, не спалілі. Разабралі мы хатку, дах знялі, падлогу і столь, камяні-карані загрузілі на фурманкі і паехалі ў вёску. Час такі быў, неспакойны, не дазваляў чалавеку ўкараніцца нават на сваёй зямлі. А тут мы ўжо – назаўсёды. Застанешся тут, праўда? – пальцы казычуць маё вуха, прагульваюцца ў валасах.

Ліпа кладзецца ценем на прамавугольнік – дзесяць метраў на сем, адрэзаныя з бязмежнай паласы сусвету, абведзеныя бетоннай мяжой фундамента.
– Тут будзе кухня, – кажа маці. – А тут стане печ, абавязкова з белай кафлі. Там вялікі пакой, там малы, у кожным сцяноўка, таксама кафельныя. Кладоўка праз сцяну з кухняй, а сені і ўваход ад панадворка. І другі ўваход праз ганак ад вуліцы.

– Гаспадар, заўтра пачынаецца поўня, варта б закласці першы вянец зруба. Каб хлеб і шчасце поўніліся ў хаце. Думай, што з ліпай рабіць. Пакінем – галлё на дах насунецца і чорт чарапіцу панясе. А карані, як возьмуцца за фундамент, гатовыя падняць яго разам са сценамі. Што рабіць? – цясляр Сямён пастуквае абухам сякеркі ў ліпавы ствол.
– Сам не ведаю, была тут заўсёды, – бацька чухае патыліцу, глядзіць на маці, але яна толькі паўтарае пытанне:
– Што з ліпай рабіць?
– Колькі сабе памятаю, яна была тут, – баба Вера задзірае галаву, складвае далонь у казырок, шнырыць вачыма ў зялёнай блытаніне лісця. – Кажуць, Дзмітрыеў дзед пасадзіў. Высокая.
– Высокая, праўда, – згаджаецца стары цясляр. – Метраў ці не трыццаць уверх будзе.
– На маё вока да сарака дацягвае, – папраўляе старога малады памочнік.
– Ні трыццаць, ні сорак. Пятнаццаць, не больш, – заінтрыгаваны задзёртымі да неба галовамі, дзед Алімпей пакінуў сваю лавачку, падышоў да нас. Мінулы год ён правёў у Старыне, у сярэдняй дачкі, сёлета з вясной перабраўся сюды, да найстарэйшай. – Пад сорак, як кажуць леснікі, бо на свае вочы я не бачыў, сягае

найвышэйшая ў пушчы. А тут, дай Бог, пятнаццаць.
– Пятнаццаць? А я кажу – пад сорак, – не саступае памочнік цесляра.
– Ага, ты мне, пушчанскаму скажаш, – пырхае дзед. – Гэта адсюль, з зямлі ўсё выглядае высока. Воблакі высока, неба далёка, а пакладзі на зямлю, перамерай крокамі і атрымаецца куды бліжэй. А ліпу я б пакінуў, не так даўно ёй сто гадоў споўнілася. Яшчэ сто, а то і дзвесце магла б прастаяць.
– Кажуць, у ліпу ніколі гром не б'е. Праўда то? – маці глядзіць на бабу Веру разгубленымі вачыма. – Мо няхай застанецца?
– Ой, няпраўда. Не так жа даўно было, як за вёскай ляснула па ліпе. А Бог хацеў, Маруся Дарафейчанка там якраз ад дажджу схавалася. Паклалі яе ў труну ў белай суконцы, маладая была, – баба Вера выцірае слязу ражком хустачкі. – У ляшчыну не б'е, пад ляшчынай некалі ад праследу Божая Маці з Дзіцяткам хавалася і таму ніколі па ёй маланка не ўдарыць.
– Ну, што, гаспадар? Спускаем ці застаецца? Вырашай, а то да зімы не справімся. Насамрэч, варта было раней падумаць, пакуль залілі фундамент. А стане дом, будзе дадатковая камплікацыя. Кажу, каб ведалі.
– А ў іншых вёсках як, зрэзваюць, ці пакідаюць? Вам відней, не першы дом стаўляеце.
– Часцей зрэзваюць. У вас тут закутак, але туды, бліжэй свету дамы цяпер багатыя, чарапіцай крытыя, або шыферам. Старому, вялікаму дрэву не месца побач з новым домам. Ды і дом засланяе, пабудаваў прыгажосць, а за дрэвамі людзі не бачаць.
– Спускаем, – згаджаецца бацька і цясляр бярэ камандаванне ў свае рукі.
– Падсячы трэба адзін бок, той ад вуліцы, а то пойдзе

куды сама задумае. На Пракопаву мураванку грохне, або на наш фундамент і будзь здароў. Добра трэба падсячы і на ўсялякі выпадак заматаць вяроўку за чубок. Калі б што-та не так, пацягнем, пакладзем упоперак вуліцы.

Калі і адкуль з'явіўся гэты чалавек, не ведаю. Сівагаловы, непаголены прытаіўся пад белай сцяной Пракопавай мураванкі, чутка прыслухоўваецца да мужчынскай гамонкі, сочыць за памочнікам старога цесляра, што, перавязаўшы пояс тоўстай вяроўкай ускарасквaецца ўсё вышэй, як у ваду ныраe ў ліпавую крону. Завязвае вяроўку ў зялёнай чупрыне і спускаецца на зямлю.
– На, сячы тут во, глыбока, сантыметраў на трыццаць, – стары майстар перадае сякеру маладому.
– Хлопцы, не так гэта робіцца. Зусім не так, – круціць галавой дзед Алімпей. – Надта вы давяраеце сякеры, мудрасці яе.

Не паспяваю змiргнуць вокам, як незнаёмы мужчына з'яўляецца пад ліпай. Белая, доўгая ільняная кашуля навыпуск паверх штаноў, падпярэзаная поясам, выразна аддзяляецца ад цёмнай, абымшэлай кары. "Калі ж паспеў?" – здзіўляюся і толькі цяпер бачу яго босыя ногі.
Памочнік цесляра, пapляваўшы на далоні, заціскае пальцы на тапарышчы, бярэ ўзмах.
– Ты пасадзіў? Не чапай! – чалавек рассоўвае плечы, запіраецца спінай аб ліпавы ствол.
– Стойце! Зарубаеце чалавека, – маё дзіцячае цела пераўвасабляецца ў крык, ляціць па-над брукаванай вуліцай у другі канец вёскі, на Даліну, за Мелянінам адштурхоўваецца ад зялёнай сцяны бэзу, вяртаецца. Падскокваю, стараюся ўхапіць рукаў маладога цесляра. Узнятая да воблакаў сякера на адзін міг прыпыняецца,

завісае, рукаў выслізгвае з пальцаў і вострае лязо пралятае цераз ільняную кашулю, як птушка праз чыстае паветра.
– Ну і дзівак твой малы, – цесляры глядзяць на бацьку.
– Што ён убачыў? Які чалавек? Дзе?
– Там, – паказваю рукой на язмінавы куст. – Там ён. Няўжо не бачыце?
Цесляры заходзяцца рогатам, бацька абмервае мяне сумным позіркам, заклапочана глядзіць маці.
– Дзеці, бывае, бачаць больш за нас, – дзед Алімпей спакойна пасмоктвае люльку, абыходзіць куст, пяшчотным дотыкам гладзіць язмінавыя галінкі.

Сякера паўтарае сваю чорную справу раз, затым другі, і трэці, і чарговы, сталёвае лязо ўядаецца глыбей і глыбей у ліпавую мінуўшчыну. Жоўтыя трэскі адшчапляюцца ад пня, рассыпаюцца ў траве, як непатрэбныя, дарма пражытыя дні.
– Хопіць, – ківае галавой стары цясляр. Укленчвае па адзін бок ліпавага ствала, памочнік займае месца на другім баку, іх далоні злучае доўгая піла. Сталёвыя зубы знаходзяць месца адкрытае лязом сякеры, мужчынскія далоні заціскаюцца на ручках пілы, плечы соўгаюць лянiва туды і назад, як сківіцы галоднага мядзведзя, што нечакана, у пачатку зімы, выбіўся са сну. Далоні сінхранізуюцца, знаходзяць рытм, мядзведзевы сківіцы, пачуўшы водар ліпавай крыві, паскараюць тэмп і сталёвыя зубы ўгрызаюцца глыбока ў горла старога дрэва.

Задраўшы галаву гляджу, як ліпавы чуб выкоўзваецца з-пад блакітных падэшваў неба. З густой зялёнай кроны птушкі сыплюцца як зерне з дзіравага мяшка. Неданошаная восень ападае ледзь прыжоўклым лісцём

на выслізганыя камяні брукаванкі. Неба скалыхнулася і сунецца наўпрост на мяне.

– Забярыце малога, – заходзіцца крыкам баба Вера.
– Вазьміце адсюль засранца, заб'е ў-ха-ле-ру! – голас старога цесляра наліваецца трывожным басам.
– Не заб'е, не хвалюйся. Пакуль я тут, не заб'е, – мужчына ў ільняной кашулі трымае спінай ліпавы ствол, босыя раскірэчаныя ногі ўеліся ў зямлю, вочы набеглі крывёй, але ён не адступае.

Расплюшчваю вочы і бачу над сабой вяночак з чалавечых галоваў.
– Жывы, – уздыхае з палёгкай маці.
– Жывы, – у куточках бацькавых вачэй паблісквае сляза.
– Жывы, – пальцы бабы Веры робяць знак крыжа над маім тварам.
– Ну і шмыгануў ты, як птушка ў паветры. Быццам хапіў нехта за каўнер і шпурнуў на другі бок вуліцы, – з недаверам круціць галавой дзед Алімпей.
– Гэта ён мяне так схапіў і кінуў наперад сябе, – здранцвелы язык выціскае словы ледзь чутным шэптам. – А як ён? Паспеў уцячы?
– Хто? – бацька ахоплівае вуліцу неспакойным позіркам.
– Хто? – здзіўляюцца цесляры.
– Хто дзіцятка? Нікога няма тут кроме нас, – баба Вера падымаецца з каленяў і яшчэ раз, цяпер тройчы, крэсліць на мне знак крыжа. – Спалохаўся да смерці, прывіды бачыць. Ці не прыйдзецца па шаптухах вазіцца.

Прыўздымаюся на локцях, спрабую сесці. Даецца няпроста. Мужчына ў ільняной кашулі прысеў на мёртвую ліпавую калоду і, не зводзячы вачэй, глядзіць на мяне.

“Нармальна ўсё?” – бязгучна пытаюць ягоныя вусны. Моўчкі ківаю ў адказ, а вочы шукаюць бацьку, або бабу Веру, або і старога цесляра.
– Паглядзіце, не трэба шаптухі, там ён, сапраўдны, ніякі не прывід.
Бягуць позіркам за маёй далоняй, узіраюцца ў ліпавую калоду.
– Да Фіні трэба, у яе найлепшае зелле ад перапалоху. Праўда, куме Алімпею, да Фіні? – у голасе бабы Веры накапіліся ўсе смуткі адыходзячага дня.
– Я б залішне не спяшаўся, – кажа дзед Алімпей. – Часам дзеці бачаць куды больш за нас, дарослых, – увабраўшы голаў у плечы, кіруецца на сваю лавачку. Лакіраваны кіёк пастуквае аб камяні, памазаныя зелянкаватым, несаспелым мёдам.

Ці Беласток вялікі горад? Ці завялікі для мяне? У Беластоку дастаткова знакаў і галасоў, што беспамылкова назавуць пару года, імя месяца, дзень тыдня. Не зазіраючы ў каляндар, адчыняю акно на чацвёртым паверсе і выходжу на сустрэчу з аранжававалосай цыганкай. Зямля зрабіла чарговы абарот вакол сонца, час паглыбіў лініі на маіх далонях, літары падраслі і цяпер гатовыя сказаць больш, чым годам раней.  Не спазняюся ні хвіліны.

– Ад Сямятычаў едуць, – кажа дзядзька Раман.
– Ага, ад Сямятычаў праз Кляшчэлі, – удакладняе дзядзька Мікалай.

“Ад Сямятычаў, праз Кляшчэлі і Палічну” павінен сказаць дзядзька Іван, але ён нічога ўжо не скажа.

Мне затое на адзін год больш і вуха ўжо ловіць цоканне падковаў аб брук, чую, як звіняць бліскучыя бранзалеты, бачу, як танцуюць з ветрам доўгія, каляровыя сукенкі. Цыганскія коні нясуць за сабой водар ветру і дыму, і ён ніяк не сыходзіцца са знаёмым мне пахам поту, які летнім адвячоркам прыносяць з палёў нашыя вясковыя коні.

Мне на год больш і ўжо ведаю колькі будзе пяць і пяць, вачыма злічваю вазы і кожнаму аддаю адзін палец. Два застаюцца лішнія. Апошні воз плача скрыпкай. Ці не па тых, што згубіліся ў дарозе?

– Пэтро, куды два вазы падзеў? – дзядзька Раман выходзіць насустрач барадатаму цыгану, што крочыць побач з першым конікам.

– Прр, стой Сокал, – валасатае, мускулістае плячо надзіва далікатна і пяшчотна падцягвае вуздэчку, конь спыняецца. – Час адняў два, не дадаў ніводнага. А тут як?

– Івана больш няма, пустая хата засталася, – кажа дзядзька Раман.

– І Сцепаніха памерла, таксама адна жыла, – дадае дзядзька Мікалай.

– Значыць, у мяне год адняў два вазы, у вас дзве хаткі, – Пэтро чухае патыліцу, абводзіць вокам вуліцу і свой табар. – У адзін бок усё ідзе, але яшчэ сёе-тое застаецца. Ну, ладна, бачу падцягнулі зруб да крокваў, а вось і абоймы таксама прыехалі. Здымаем і паехалі далей. Калі трэба падкову якую, або гаршчок пералітаваць, будзем за Старыной, там, дзе звычайна. Заўтра з самае раніцы з сынамі прыйдзем, пакажам вашым майстрам, як аправіць крокву ў жалеза.

Я ўжо ведаю, колькі застаецца, калі ад дзесяці адняць два, але не магу зразумець чаму ў нас адняліся дзве хаткі, яны ж стаяць, як і раней стаялі, кожная на сваім месцы,

толькі вечарам у вокнах ніколі там не гарыць святло, і ніколі з коміна не выходзіць дым.
Ці адняць хатку, значыць пагасіць святло і агонь у печы?

Знаходжу вачыма аранжававалосую цыганку, падбягаю, падсоўваю адкрытыя далоні.
– Пяць і пяць будзе дзесяць. Год прайшоў, паглядзіце, літары падраслі?

Цыганка саступае ўбок, спыняецца.
– Паглядзім. Пакажы ручку. Левую давай, твае далоні яшчэ дзіцячыя. Правую пачытаем гадоў праз тры-чатыры.

Я падрос і маім вачам стала бліжэй да яе вуснаў на адзін год. З новай перспектывы іх колер змяніўся. Цяпер яны больш змахваюць на спелыя ліпеньскія вішні, якіх шмат у садзе дзядзькі Івана. Сляпыя вокны ягонай хаты пільнуюць сад абы-як і ходзяць туды ўсе, каму толькі падабаецца.
– Усе рвуць, не даглядае ніхто, – уздыхае дзед Алімпей. – Год за годам і здзічэе сад.

– Дзіўная лінія лёсу. І лінія жыцця якаясьці такая... Тут знікае, там зноў з'яўляецца. Як струменьчык, што збягае ў зямлю ахаладзіцца і ў другім месцы выходзіць на свет жывой, срэбнай вадою, – укленчвае на адно калена, прыкладвае вуха да грудзей. Вялікая, калядная памаранча набліжаецца да маіх шчокаў, але арамат яе не памаранчавы. Яна пахне лясным ветрам, мятай і начным вогнішчам. – Б'ецца нармальна, як сэрца. Сама ўжо не ведаю, што тут адбываецца. Тры партрэты бачу. Тры жанчыны на сасновых дошках. Першая табе як маці. Другая,

як сястра. Трэцяя стане табе каханкай. Сустракай мяне калі споўніцца сямнаццаць, правую пачытаем. Толькі глядзі за сабой, гарадоў вялікіх, большых за ўсё, што бачаць твае вочы, высцерагайся.
Пакідае мяне пасярэдзіне вуліцы і ідзе за табарам. Яе клубы пакалыхваюцца шырэй на адзін год, а я думаю, дзе шукаць тыя гарады, большыя за ўвесь свет? Няўжо ёсць такія? І што значыць слова “каханка”? Каханка як Пэля? Я не хачу Пэлю.

Сяджу ў кустах на ўскраіне лесу, трымаю пад нагамі кошычак з жоўтымі лісічкамі.
Заціснуўшы зубы дзядзька Ніканор заходзіць вастрыём касы ў зялёную траву. Ранняя, сырая вясна разбудзіла яе з зімовага сну і павяла да воблакаў. І трава, абганяючы каляндар, ужо ў пачатку чэрвеня ўздымаецца зялёнай сцяной, гатовая сустракаць свой лёс.
– Ведаеш Пэля, цягну я касу, цягну, і думаю: А чаму ўсё яно так? Чалавек пасля смерці брыдка пахне, а трава пахне прыгожа, – Ніканор стаўляе касу лязом уверх, у прадаўгаватай кішэні на цікавай нагавічыне намацвае асялок.
– Што кажаце? – Пелагея ідзе ў дзесяці кроках за Ніканорам і граблямі разбівае пакос у кудлаты, зялёны дыван. Яе карычневая, доўгая спадніца краёчкам пяшчотна лашчыцца да свежай травы.
– Кажу, чалавек смярдзіць пасля смерці, а трава пахне.
– Ну і прыдумалі вы, дзядзька Ніканор. А чаго ж смярдзець траве? Яе душа чыстая. Не тое, што чалавечая. Усе людзі грэшнікі.
– Усе? – Ніканор аблізвае языком сасмаглыя губы. Ад чэрвеньскага ветру ягоны язык пераўтвараецца ў асялок. Шурпаты, шорсткі, напружаны ў адной, адзінай

пажадлівасці – дакрануцца, прагуляцца па коўзкім, гладкім вастрыі касы. Разбудзіць яе, выструніць, паставіць насупраць усяму, што падыйдзе блізка.
– Усе людзі грэшныя, – Пелагея здымае хустку, абцірае спацелыя шчокі. Кідае хустку ў траву, сядае на яе, абцягвае спадніцу так, што нат ступні ног загортваюцца ў карычневы гай.
– Пэля, а калі б мы паляжалі ў гэтай траве, – дзядзька Ніканор зірыць на зялёны пакос. – Быў бы грэх, ці не?
– Што? Як паляжалі?
– Нармальна. Не ведаеш як?
– Не.
– Ну Пэля, ты ж ведаеш, – рука Ніканора засоўваецца пад краёк карычневай спадніцы, ягонымі вуснамі прамаўляе ўвесь зялёны луг, сціснуты ў хрыплы, глыбокі бас. Чым глыбей заходзіць рука, тым глыбейшым басам хрыпіць голас. – Ну, Пэль, паўгадзінкі. А заўтра прывязу воз дроў. Або і два. І ўсе парубаю, Пэль. Усе, да апошняга палена.

Сяджу ў кустах на ўскраіне лесу,  слухаю, як у вантробах нешта вырастае. З нічога вырастае. Пускае парасткі з дна страўніка і цёплым лісцём агортвае ўсё, што вышэй і ніжэй.

Руда-аранжавыя валасы Пэлі аддзяляюцца ад зялёнай травы не менш выразна, чым яе снежна-белыя сцёгны. Смешна падрыгвае сіняваты азадак дзядзькі Ніканора і Пэля заходзіцца енкам. Няма ў яе голасе ні крыўды, ні злосці. Але раптам, зніадкуль, нясецца яшчэ адзін енк, кусты рассоўваюцца, бачу чыесьці ногі. Ногі бягуць, спатыкаюцца аб кошычак з лісічкамі, штосьці нявызначанага кшталту коціцца кулём у зялёныя пакосы. Зрываецца

на ногі, сцягвае з галавы задзёртую спадніцу і пазнаю цётку Ніканорчыху.
– А каб ты здох, лайдак ты, каб цябе зямля не насіла. Каханкі і каханкі. Усё жыццё каханкі. А ты рыжая сука пападзеш мне ў рукі.
Над галавой цёткі Ніканорчыхі паблісквае вастрыё касы. Няўмела, злосна дзяўбе пакамечаную ў траве хустку.
– А ты смаркач маўчы, ні слова нікому, – чую.

– Бабуля, а каханка гэта хто? Сука? – пытаю вечарам.
– Каханка сука? – здзіўляецца бабуля. – Адкудь ты ўзяў?
– Не памятаю, чуў дзесьці.
– Каханка гэта каханка. Гэта дрэнна, – паціскае плячыма і ўважліва глядзіць мне ў вочы.

Дом пачынае жыць з таго моманту, калі гаспадары, пераступаючы парог, пераабуваюцца ў мяккія тапкі, запыленыя дзённымі справамі боты застаюцца нанач на сходах, а дымок з кухоннай печы праціскаецца цераз комін і рукаецца з небам.

Зіма падыходзіць надзвычай марудна. Першыя прымаразкі, як цікавыя свету падлеткі высоўваюцца на лясныя сцежкі, на дарожкі, на трыбы. Кіруючыся на начныя пакрыкванні пугачоў, перагукваючыся верасовымі званочкамі, забягаюць у лугі, прытуленыя да сцяны лесу. Пад покрывам глыбокай ночы запускаюцца і далей, у вёску, пакідаючы на шыбах квяцістыя адбіткі халодных пальцаў.
За начнымі замаразкамі ідуць сонечныя поранкі і нябачная рука, найперш з паўднёвых вокнаў, затым і з тых, што выходзяць на поўнач, сцірае ледзяныя малюнкі.

У такія раніцы бацька знікае ў прыбудоўцы за стадолай і да поўдня далятае адтуль манатонны голас нажоўкі, час ад часу, як дзяцел клюе сякерка. Апоўдні забягае паабедаць, заносячы ў дом пах свежай жывіцы.

– Сёння адпілаваў першы аполак, – кажа вечарам. Пакуль зварыцца вячэра, усплывае на ганак. Стаіць там хвілін дваццаць з высока задзёртай галавой, лістае не ўсім даступную кнігу неба. Пачаў вывучаць яе не так даўно. Мабыць разумеў, што час бабы Веры ідзе на схіл і неадкладна набліжаецца тая раніца, калі ён адчыніць дзверы ў новы дзень і не ўбачыць нікога, хто б ішоў паперадзе яго. І прыйдзецца паглядзець у неба іначай. Паглядзець, шукаючы там свету схаванага ад нашых вачэй, недаступнага далоням, але ж чалавек без яго, усяго паўчалавека... Шмат якія літары хаваюцца за непранікнёнымі бацькавым вачам прамакаткамі неба і тады, прыгорблены і асавелы, вяртаецца дамоў, сядае за кухонны стол, вячэрае моўчкі і сыходзіць у сон.

Часам заходжу за бацькам у прыбудоўку, гляджу, як ад тоўстага камля цаля за цаляй аддзяляецца першая дошчачка. Які яе лёс? Можа спапеліцца, пераменіцца ў белы дым? Можа акажацца найпрыгажэйшай і на ёй Маэстра напіша партрэт незразумелай мне Свабоды? Або выявіцца партрэтам Каханкі, што кропля ў кроплю падобная на Пэлю? А можа на гэтай досачцы Маэстра намалюе Праўду? Хто ён, Маэстра, на каго падобная Праўда, ды навошта ўсе гэтыя малюнкі?
– Што такое свабода? – пытаю.
– Свабода, калі ў цябе свой дом і зімой ён цёплы, – кажа бацька і выходзіць на ганак пачытаць вечаровае неба.
– Свабода, калі няма голаду, – дапаўняе маці. У каструлі

на кухоннай пліце даварваецца бульба, на патэльні скварыцца сала з пакрышанай цыбуляй і яна сочыць, каб не прыгарэлі ні скваркі, ні цыбуля.

– Маладзік рогі задраў, будзе мароз, здаровенькі такі, – бацька залятае ў хату, за ягонай спінай цягнецца доўгая стужка крышталёвага холаду. Мітусіцца туды і сюды, правярае дзверы і вокны, абмацвае сцяноўку, упэўніваецца, ці ўсё застаецца на сваім месцы. Як не дзіўна, у ягонай спешлівай мітусні не заўважаецца ні драбка сполаху. Наадварот, прамянее радасцю на прыход спелых, сівабародых маразоў, што дазволяць яму праверыць сябе ў змаганні з дзікімі моцамі натуры, паказаць свету, як ягоны, нядаўна збудаваны дом, дае адпор сцюдзёнай зіме, перапраўляе нас на бяспечны, веснавы бераг.

## II. ДУБОВАЯ ЛАВАЧКА

*1.*

*Цягам усяго гэтага часу, што пераводзіць мяне з прыпушчанскай перыферыі ў цэнтр Беластока, з безыменнай брукаванкі перасяляе на вуліцу Іцхака Мальмеда, падымае з зялёнай травы на адліты ў бетоне чацвёрты паверх, я вучуся даставаць з цячэння гадоў паасобныя дні, як вопытны рыбалоў дастае з цякучай вады дакладна тую рыбіну, на якую закінуў вудачку. Працэс усё яшчэ не завершаны, але ён ідзе.*
*"Асцерагайся вялікіх гарадоў", вяртаецца рэхам голас аранжававалосай цыганкі.*

Праз высокую некась пускаюся бегма на рэчку. Узнятымі ў гару каленямі выштурхоўваю неба з яго штодзённых каляінаў, неба падымаецца вышэй і далягляд разыходзіцца, як разыходзяцца кругі на вадзе, калі кідаеш камень у дрымучае возера. На адзін міг свет становіцца завялікім для хлапечых крокаў і спадае са ступняў, куляе паперад нагамі. Спатыкаюся аб завялікі свет, звальваюся ў траву. Стаіўшы дыханне, расхіляючы пажаўцелыя сцяблінкі некасі, сачу, як з паўднёвай сцяны ліпеньскага

дня, на мяккіх, сонечных промнях дзяўчаты саслізгваюць на бераг рэчкі. Спадаюць на калені, на спіну і схапіўшыся далонямі за свой уласны смех, уздымаюцца на ногі. Дзявочыя пальцы камечаць крайкі сукенак, спешна сцягваюць іх праз галаву, альбо, расхіліўшы шлеечкі, апускаюць уніз. І застываюць белымі фігуркамі ў зелені лугоў.

Не бывае ў свеце нічога прыгажэй за алебастравую бель дзявочай скуры на фоне зялёнай травы.

Апошняе лета ў свеце абведзеным лесам і высокай травой ідзе на спад.

– Міхал паедзе ў Беласток, Міша застаецца дома, – кажа маці.

– Міша застаецца, Міхал паедзе, – пацвярджае бацька.

– Гэта як? Можна падзяліць сябе, крыху паехаць і крыху застацца?

– Ёсць свой свет і ёсць чужы. Пакуль той чужы свет не прыручыш, пакуль ён не стане тваім, так трэба, – тлумачыць маці. – Мішам тут месца, а Міхалам там. Не хвалюйся, і Толік тут застаецца, і Ваня, і Жэнік, і Валодзік, і Васік.

– Не хвалюйся, – супакойвае баба Вера. – Іншая справа, ці калі-небудзь удасца вам сустрэцца.

Першыя дні верасня трымаюся за парэнчы шырокіх вуліцаў, а вуліцы разбягаюцца па сабе толькі вядомых завулках. Завулкі раз'язджаюцца ў сцежкі і тратуарчыкі, і ўсе яны зачыняюцца глухімі дзвярыма або глядзяць на мяне зверху чужымі вокнамі. Чапляюся вачыма за начное неба, а Вялікая Мядзведзіца мяняецца месцам з вулічнымі ліхтарамі, машыны рвуць на шмоткі месячную поўню, носяць яе на залатых фарах туды і назад, і горад злятае з ног, як чаравікі старэйшага брата.

У апошнюю суботу верасня мне хочацца з'ездзіць дамоў. Схадзіць за падасінавікамі ў сыры, зарослы хмызнякамі Петравец. Прагуляцца на Горы за баравікамі. Паслухаць, як вечарам Забалота стогне аленевым рыканнем. Нясу пад павекамі мае дзіцячыя абразкі, а Беласток блытае вуліцы, завязвае вузлікамі тратуары, падменьвае бакі свету і ніякім чынам не атрымліваецца патрапіць з вуліцы Ліповай на Юравецкую, на аўтобусны вакзал. Куды не павярну, куды не скіруюся, усе сцежкі вядуць да каталіцкага касцёла святога Роха, або кіруюць на праваслаўны сабор святога Мікалая.

Сонца коціцца па дахах, калі на скрыжаванні вуліцаў Ліповай і Сянкевіча прыкмячаю знаёмы знак. Першы ў суботняе пасляпоўдне. Ідзе насустрач, ад восеньскага ветру, ад калыхання клубоў, краёк яе павеўнай, звужанай у таліі, квяцістай сукенкі пускаецца ў танец з доўгімі, аранжавымі валасамі. Вочы міжвольна шукаюць старога Пэтра, вушы наслухоўваюць цокат конскіх капытоў. Не, яна адна тут, няма ні Пэтра, ні Сокала, ні паху вогнішча ў гарадскім паветры. Пазнае? Прыпынілася, чакае.

– Ты клікаў, – абводзіць мяне позіркам і ўсміхаецца.

– Не, не клікаў, – уцякаю ад яе вачэй, але глядзіць яна глыбока, у мяне глядзіць, наўпрост у словы, што не паспяваюць аддзяліцца ад думкі. – Клікаў што-небудзь знаёмае. Іду на вакзал і паблудзіў, не магу выйсці.

– Я чула. На сваёй мове клікаў, ціха, як між чужымі. Ніхто цябе не чуў, а я пачула. І я таксама тут чужая. Глянем у карты, запытаем, чаму не адпускае цябе горад.

Ківаю галавой, яе тонкія пальцы тасуюць калоду, гляджу на іх і маю ўражанне, што размотваюць усе вузлы, заціснутыя бяздушнымі далонямі горада.

– Сёння нікуды не паедзеш, позна. Яшчэ не адзін раз

спознішся, не адзін раз пераблытаеш дарогі. Тры жанчыны ідуць паперадзе цябе, тры дамы. Першая дама – жалудовая. Другая дама жалудовая. А трэцяя? І трэцяя жалудавая. Знойдзеш дзве першыя, згубіш трэцюю. Пойдзеш за трэцяй, згубіш дзве першыя.
Мне пятнаццаць і ўсё, што ведаю пра жанчын, выяўляецца імёнамі школьных сябровак. Дарма шукаць там дамаў трэфовых і піковых, наструненыя на ягадзіцах джынсы ніяк не сыходзяцца з карункавымі сукнямі, з шырокімі, недарэчнымі капялюшамі і шаўковымі веерамі. Ёсць яшчэ Пэля, але яна фігура з асобнай калоды, прыходзіць зрэдку, начамі, калі моцна сплю. Прылягае на крайку тапчана і сыходзіць досвіткам, пакідаючы ў пасцелі арамат свежа скошанай травы.

– А ўсе тры? Як знайсці ўсё і не згубіць нічога? – пытаю, хаця сэнс яе словаў застаецца незразумелым.
Карты тасуюцца паўторна, прахожыя азіраюцца, паціскаюць плячыма, маўляў, падчапіла наіўнага дзецюка, абдурыць, пойдзе далей.
– Трэфовыя ўсе тры, нічога не мяняецца. Праз два гады пачытаем далонь, ці не так дамаўляліся.
–Так, правую.
– Памятаеш дзеда Алімпея? – зусім нечакана саскоквае з беластоцкай вуліцы далёка, у вёску на ўскраіне пушчы.
– Памятаю, жыве яшчэ.
– Ён нешта даў табе, нешта даручыў. Ён выбраў цябе, але і горад трымае на табе вока. Высцерагайся вялікіх гарадоў.
– Такіх як Беласток?
– Пытаеш, ці Беласток вялікі горад? Усё адноснае. Чалавек вырастае, свет малее, але не ўсе людзі вырастаюць. А да вакзала налева і па прамой крокаў трыста, не больш.

Позна ўжо, сёння не паспееш, – запіхвае карты ў шырокі рукаў сукенкі, разгушквае клубамі вуліцу і знікае.

На Калядныя святы паеду дамоў і скажу дзядзьку Косціку: А я ўжо ведаю, куды знікаюць цыганы. У Беластоку зімуюць. Як жа трапляюць яны ў Беласток, калі за Старыной абрываюцца ўсе дарогі? Ці паставіць такое пытанне дзядзька Косцік? Запытае, канешне, але я пакуль не ведаю адказу.

Распавесці дзядзьку Косціку пра цыганоў, што зімуюць у Беластоку, я спазніўся. Напярэдадні калядных святаў ці то пасаромеўся, ці – хутчэй – пабаяўся адпрасіцца дамоў. Навошта ўсім ведаць, што ніякі я не Міхал, толькі проста Міша і Каляды ў мяне, як у нікога ў класе, у студзені. Калі прыехаў у вёску на веснавыя канікулы, дзядзькі Косціка не было ў жывых. Затым не паспеў на дамоўленую сустрэчу з аранжававалосай цыганкай і дзіўная лінія лёсу на маёй правай далоні застаецца таямніцай па сённяшні дзень. І якая стрэлка цяпер наперадзе майго круга – выбар, ці наканаванне? А трэцяя дама трэфовая – усё менш яе ў памяці і менш, і губляецца ўпэўненасць ці калі-колечы была.

Не ведаю таксама, што хацеў мне сказаць бацька, калі патэлефанаваў аднойчы позним пасляпоўднем і папрасіў прыехаць у шпіталь. І я, паглядзеўшы на гадзіннік, сказаў: сёння ўжо не паспею, буду заўтра раніцай. А досвіткам тэлефон азваўся яшчэ раз і чужы, жаночы голас паведаміў, што бацькі больш няма. У гэты дзень я зняў з рукі гадзіннік, закінуў у шуфляду і ніколі больш не цікавіўся яго лёсам.

“Распілуеш, гаспадар, камель уздоўж. Досачак атрымаецца шмат, пакінеш тры, дзе ні сучка, ні стрэмкі. Па-мойму ты ўжо не паспееш, але зрабі колькі зможаш. Можа яму ўдасца,” – ці не так казаў некалі дзед Алімпей?

Ці ўдасца? Я цяпер гаспадар і пілую перададзены мне сасновы камель, кроплі поту зрастаюцца з кроплямі жывіцы, мазалі выходзяць на далоні і завязваюцца на вузел з нечым бесцялесным, што знікае за чарговым паваротам дарогі. І знікне, калі адпусціш яго з-пад варты.

Зіма заходзіць у вясну, вясна рукаецца з летам, а я, схапіўшы за рукаў свабодную хвіліну, адчыняю насцеж дзверы старой стадолы і застаюся там пакуль хапае дзённага святла. Шэрай гадзінай прыбіраю за сабой, падмятаю апілкі і трэсачкі, каб ні адна не загубілася. Часам вяртаюся ў Беласток на свой чацвёрты паверх, іншым разам, калі мне хочацца пісаць, застаюся нанач тут. У такія дні значна раней адкладваю пілу і сякерку, зачыняю дзверы стадолы. Знаходжу ў камп’ютары апошнія запісаныя радкі, збіраю думкі, клавіятура адгукваецца літарамі.

“У дзесяць гадзін вечара іду да фортачкі пагглядзець, як згасаюць вулічныя ліхтары. Мне падабаецца пакласці левую далонь на штыкецінах форткі, накрыць яе правай, заціснутай у кулак, паставіць на гэты кулак падбародак, і глядзець. Калі стаіш у адным месцы, вобразы набываюць вастрыню, дэталі вырастаюць да памераў сусвету, а вуха ловіць гукі няўлоўныя падчас хады. Ліхтары згасаюць, хвілін на дзесяць свет знікае за чорным занавесам, але пасля, як не дзіўна, вочы бачаць куды больш чым раней, у святле ліхтароў.

Сёння месяц стаіць у поўні і пагашаныя ліхтары нат на момант не адпускаюць вуліцы ў поўную цемру. Выдзяляецца з паўзмроку электрычны слуп, накрыты пазалочаным буслiным гняздом, паўднёвы далягляд замыкаюць вяршыні лесу, добра бачныя на фоне цёмна-сіняга неба. З неба падае знічка і кажан, парэзаўшы вострымі крыламі начную ціш, імчыць насустрач падманнаму святлу. Некалі, даўно таму, на гэтай вуліцы, так і лавілі мы кажаноў. Загорнуты ў белае палатно камень трэба шпурнуць з усяе сілы, як мага вышэй, у той бок, адкуль далятае шапаценне крылаў. І чакаць моманту, калі сапраўдны кат і фальшывая ахвяра, шчыльна сплеценыя вострымі кіпцюркамі, зваляцца на каменны брук".

З кім лавілі мы кажаноў на нашай вуліцы? З Жэнікам і з Толікам, з Васікам і Валодзікам. Дзе яны сёння? Вось зараз зачыню камп'ютар, пайду да фортачкі, гляну на вуліцу. Дзесьці там яны. Калі добра прыслухацца, пачуюцца галасы, калі напружыць зрок, з ночы высунуцца постаці. Час набліжаецца да поўначы, людзі прыбралі нанач усе незакончаныя справы, скаталі ў рулон няпройдзеныя сцежкі і прыхавалі іх за шчыльна зачыненымі вокнамі. Заўтра будзе новы дзень, вокны расчыняцца і ўсё пойдзе далей за маладым сонцам. Заўтра раніцай адчыню насцеж дзверы бацькавай стадолы, вазьму ручную пілу і працягну пілаваць маю сасновую спадчыну. Не так і шмат застаецца. З дзясяткаў досачак пакіну тры самыя прыгожыя, усё астатняе, разам з апілкамі кіну ў печ. Ці прыйдзе той Маэстра, пра каго гаварыў дзед Алімпей? Часам, калі плячо млее ад стомы, з цёмных закуткаў выпаўзаюць сумневы. Не пажартаваў ён, як гэта здараецца вопытнай старасці – казытнуць слоўцам жаўтаротую маладосць, пагуляцца яе даверлівасцю, бескарысна, дзеля

сваёй раскошы? А можа такім звычайным, немудрагелістым хітрыкам задумаў прывязаць мяне да гэтага месца, каб не збег адсюль, як усе мае сябры дзяцінства? Дзе яны сёння? На вуліцы ні жывой душы. "Іншая справа, ці калі-небудзь удасца вам сустрэцца", вяртаецца рэхам голас бабы Веры. Дзесьці там, у рэчаісным свеце з рэчаісных кубікаў будуюць яшчэ больш рэчаісны свет. А што ў мяне? Які свет будую са слоў, заціснутых пад кардонную вокладку? А які з сасновых апілкаў?
Тады прыходзіць на думку бацька, бачу яго, як стаіць на сасновай прывязі да канца. Бяру нажоўку і цягну – туды і назад, у будучае і мінулае, і пад ногі асыпаецца няўлоўнае "сёння".

Пакідаю фортку, вяртаюся дамоў. Праз хвіліну, не змываючы з сябе запісаных слоў, праваллюся ў сон. Моцны, доўгі, бяспечны сон у сваёй хаце.

Да сходаў застаецца крокаў пяць, калі паміж штыкецінаў мільгае жывы цень. Чалавек? Свой? Тут, дзе людзей жменька і кладуцца яны спаць раней, чым згаснуць вулічныя фанары? Хутчэй паблудзіў хтосьці ў пушчанскіх прыцемках і праз здранцвелую ў балоце рэчку, праз некасі, што стаяць сухім трасцём вышэй галавы, пераправіўся на наш бераг. Вяртаюся.
Чую шорганне ботаў аб асфальт, крокі замаруджваюць, прыціхаюць у траве і згасаюць на пяску, што рассыпаўся побач з лавачкай. Падыходжу да форткі, асцярожна высоўваю галаву з бяспечнай, абведзенай штыкетнікам клеткі панадворка. На лавачцы сапраўды сядзіць чалавек і глядзіць наперад сябе ў месячную поўню. Суконны пінжак, такія ж галіфэ, высокія халявы хромавых ботаў – усё гэта падказвае, што чалавек прарваўся ў наш час

наўпрост з далёкай мінуўшчыны. Так далёкай, што не сягае туды мая памяць.
Адтуль, дзе я прыпыніўся, бачны толькі профіль ягонага твару, нос з горбікам, вусік, выразнай лініяй накрэслены моцны падбародак. Знаёмы? Не, не ведаю, хто ён. Мінае хвіліна і другая, і на гладкім палатне ўпэўненасці, што я ніколі раней гэтага чалавека не сустрэў, маленькай зморшчынай кладзецца няўпэўненасць – усё-ткі твар не чужы. Цяпер, на хуткую руку не атрымліваецца знайсці ў памяці тое месца дзе, і не прыгадаць, калі гэта было, але ж бачыць яго – я бачыў. Пакуль паспяваю павітацца, спытаць, хто ён і чаго трэба, чую:
– Спраўна адчыканіў. Дубовая дошка, жалезныя стойкі, выстаіць не адно дзесяцігоддзе. Яшчэ і праўнукам тваім паслужыць.

У ягоным голасе знаходжу якісьці знаёмы колер, інтанацыя прыводзіць на думку прызабыты пах, ці смак, шукаю і не магу ўлавіць, што знаёмае грукаецца ў маю памяць. Можа таму, што  я не спадзяваўся на такі пачатак размовы? Не такім жа словам заводзяць гутарку блудныя вандроўнікі, ім больш цікава куды дабрылі выпадковымі сцежкамі і як адсюль выбрацца ў свой, добравядомы свет. Пытаюць пра бліжэйшы вакзал, пра цягнік на ўсход, або на захад, а калі надта доўга шукалі выхад з замкнёнага кола, просяць кубачак чыстай, халоднай вады.
– Лавачка, як лавачка. Тая, што засталася ад бацькі надгніла, нахілілася. Прыбраў, а то возьме і на людскі смех праваліцца пад зямлю, сорамна будзе. І  паставіў новую.
– Слушна зрабіў, – пагадзіўся голас. – На вуліцы побач з хатай павінна быць лавачка. І я тут сваім часам яе стаўляў. А праваруч расла ліпа. Старая, вялікая ліпа, служыла халадком яшчэ майму дзеду. Ты яе памятаеш?

– Памятаю, – ківаю галавой, але думкі адыходзяць самі сабою, за голасам, а голас адрываецца ад лавачкі, няспешліва ўецца над вуліцай, як дымок з ледзь толькі раскладзенага вогнішча.  Адлятаю ўслед, даганяю яго. Лаўлю словы, раскладаю іх на паасобныя гукі, на марфемы, пераслухоўваю інтанацыю і націскі. Маю ўражанне, што месячная ноч не ноч ужо, а лянівая, сытая кошка – ахінулася ў мяккае футра і мурлыкае цёплым голасам майго бацькі Міхаіла, які – на словы бабы Веры – узяў гэты голас у свайго бацькі Дзмітрыя, а той ад свайго, Уладзіміра, а Ўладзімір ад Мацвея, а Мацвей ад Цімафея, і так далей, сцежкай імёнаў, нат калі яны сцёрліся з памяці, можна вандраваць да пачатку пачаткаў.

Адчыняю фортку, падыходжу бліжэй.
– Прысаджвайся, – пасоўваецца на лавачцы, у галаве мільгае думка ці сапраўды не прысесці побач з ім, спрабую зрабіць крок, але нешта трымае мяне на месцы.
– Дзед Дзмітрый?
– Ну, а хто б яшчэ мог быць? – адказвае пытаннем на пытанне.
– Крыху іначай уяўляў цябе, – недаверліва паглядаю на ягоныя скроні, злёгку прыцярушаныя першай сівізной, на валасы, што ўсё яшчэ густым чубам выбіваюцца з-пад брыля.
Ловіць мой позірк, здымае кепку, пальцамі левай рукі зачэсвае назад чуб, што раптоўна ірвануў на волю. Дакладна такім жэстам папраўляў валасы бацька, калі, пагаліўшыся, затрымліваўся на хвіліну перад люстэркам, разглядаючы на твары новую маршчыну. – Бачыш? Ты цалкам пасівеў, а мне надалей сорак сем. Табе, напэўна, цікава, чаго я тут і чаму якраз сёння?

Мне цікава, канешне, але яшчэ больш цікава, чаму зусім мяне не здзіўляе ягоная прысутнасць. Вось так, звычайна, слова з аповедаў бабы Веры сталася целам і ён зайшоў, як сусед праз вуліцу, учора быў і пазаўчора, дык чаму не зайсці яму сёння? А можа не ён, можа я не бач калі пераступіў мяжу, з усімі сваімі справамі і рэчамі, стаю цяпер побач з дзедам, пераступаю з нагі на нагу, з першай у другую, у трэцюю і чарговыя хвіліны вечнасці? Але ж пад нагамі знаёмы пясок і трава знаёмая, месяц, як трэба, вісіць над галавой з цэлым сваім зорным карагодам, а другі бок неба застаецца недаступны вачам.

– Цікава, канешне. Ніколі ж раней... – шукаю слова, але дзед перабівае мяне:
– Заходзіў, быў, а цябе не заспеў ні разу.
– Часцей я ў Беластоку, там мой дом. Тут больш летам. А цяпер якраз сяджу над новай кніжкай. Добра тут пішацца, – крайком вока зіру на дзеда, ці ён, у каго была адна-адзіная кніжка, ды і яна на чужой, незразумелай мове, пацікавіцца маімі словамі.
– У Беластоку, кажаш, твой дом. Значыць, няшмат змянілася, не трымаюцца нашы сцены за сваю зямлю. Або, іначай – сцены трымаюцца, а людзі не, – словы "пішу кніжку" праходзяць міма, не закранаючы ягонай увагі нат на кароткі міг вачэй. – Мала мне вядомае месца, Беласток. Праўду кажучы, зусім чужое. Ніколі ніякія справы ў той бок не кіравалі, хутчэй у Вярховічы, Мелянец, зрэдку ў Брэст. Пасля мяжу паставілі за Старыной і дарогі перакрыліся. Мяне гэта, праўда, няшмат абышло. Пакуль паспеў адвыкнуць ад старых напрамкаў, адмянілі мне ўсе межы. Так і не паспеў прывыкнуць да новых.

Разумею шыфры ягоных словаў. Пасля апошняга вяртання з Мінска, калі я знайшоў сакрэтны праход з чацвёртага паверха сюды, таксама магу абыходзіць шмат якія межы. Некалі атрымліваецца саступіць з лінеарных сцежак часу і выбраць для сябе пару года, самую адпаведную для настрою дадзенай хвіліны. А яшчэ аднойчы я зняў з рукі гадзіннік, паклаў у шуфляду і ляжыць ён там каторы ўжо год. Ідзе, ці спыніўся – не ведаю і правяраць няма ахвоты.

Ахінуўшыся ў тоўсты плед вераснёвай ночы, слухаю дзеда Дзмітрыя. Ці словы сыходзяць з ягоных вуснаў? Ці заходзяць у мяне непасрэдна, думкай у думку? Няўжо гэта мае значэнне? Чую і разумею іх.

Пытае, ці памятаю, што ёсць начная варта, ківаю галавой – цьмяна, тым не менш памятаю. Даўным-даўно мужчыны па чарзе выходзілі начамі патруляваць вёску, удовы таксама, бо чарга ёсць чарга, але свет паспакайнеў і ўсе людзі могуць бяспечна спаць з вечара да раніцы. Не спрачаецца, адмянілі, дык адмянілі, справа ваша, а ён сёння вартуе, схадзіў з канца ў канец вёскі, зазірнуў у тыя вокны, што здавён не расплюшчваюць вачэй а шэрай гадзіне, праверыў, ці не завялося там якое зло. За вёску прагуляўся, на ўзгорак, дзе некалі стаяў Ёнашаў вятрак. І падумаў зайсці, пасядзець на нашай лавачцы. Калі цябе адпускаюць на начную варту, можаш прагуляцца па вуліцы, павярнуць у двор, у сад. Можаш нават перакінуцца словам са сваімі, калі ёсць хто дома. Раней хтосьці адзін заставаўся дома, на старым месцы.

Усаджваецца выгадней, прыгладжвае чорныя вусікі. Маленькія, свавольныя птушкі злятаюць з цёплых, карых

вачэй, лашчацца да вуснаў пуховымі пёркамі і куточкі вуснаў падымаюцца ў хлапечай усмешцы. І ўжо ведаю – гэта ж тая ўсмешка, што з ранняга дзяцінства выходзіць да мяне са шлюбнага партрэта бабы Веры і дзеда Дзмітрыя.

Мне хочацца прысесці з ім плячо ў плячо і глядзець у неба, на адно кароткае імгненне сумеснае для нас дваіх. Час ад часу сунецца між знярухамелымі зорамі кропка самалёта, як доказ, што свет не зламаўся, неба стаіць на сваім месцы, зямля на сваім і толькі, казытнутыя святлом поўні, перакульваючыся на другі бок сну, закранулі сябе нябачнымі далонямі.

Мне хочацца дакрануцца да ягонай далоні і баюся – а раптам яна адкажа холадам? Цяжкім, свінцовым, што зацягвае неба тоўстым ільдом, праз які не праравацца ні зорам, ні самалётам. Як некалі далоні бабы Марыі. Як далоні бабы Веры, што ў нашай прысутнасці, у сваёй хаце сыходзілі ў непраснёны сон. І яшчэ – далоні бацькі і маці – скаваныя ледзяным ветрам, бо прыйшлося ім адлятаць у адзіноце, з чужога ложка ў далёкім ад дому шпіталі.
– Страх непрадбачлівы, – кажа дзед, быццам у працяг маім думкам. – Адных абводзіць тоўстымі мурамі, дзе затыхаюцца без паветра, другіх можа разагнаць да хуткасці святла і яны ўсё жыццё збягаюць ад сябе саміх, ніколі не сустрэўшы на шляху ні кветкі, ні птушкі, ні чалавека. Ці пра той страх казаў некалі дзед Алімпей? Ці ёсць адзін страх на ўсе дні, на ўсе гады, ці розны ён і выяўляецца асобнымі колерамі, залежна ад месца і часу? Ці можна спілаваць свой страх, адняць ад сябе нажоўкай, як хірург адымае апанаваную гангрэнай нагу?

Ноч ссоўваецца на заходні край бязмежнага ложка, падцягвае за сабой цёмна-сінюю коўдру і неба за Старынной святлее ружовым прасціраддам.

– Жанчыны таксама выходзяць на варту? – пытаю, каб прытрымаць яго на хвіліну даўжэй.
– Жанчыны не, толькі мы. Жанчыны ткуць неба з кветак лёну, каб ніколі яно не закончылася. А малыя дзяўчынкі ўпрыгожваюць яго белымі воблакамі і каляровымі птушкамі. Неба без воблакаў і без птушак было б пустое і сумнае. Мне пара. А ты падумай, што ёсць дом і дзе твой дом. Зайду яшчэ калі-небудзь.

*2.*

Неба над вуліцай Іцхака Мальмеда сёння зялёнае, як вочы Юліі, калі на досвітку вярталіся мы з кароткіх эскападаў у паўсон. Не памятаю зялёнага неба над Беластокам. Можа даўно таму, у іншым свеце, калі вуліца называлася Купецкай, можа тады ў свята Песах неба стаяла над горадам седэравай талеркай, павернутае дном да вечнасці. Не пры маёй памяці.

Па другі бок вуліцы, побач з "Канюшняй" тусуюцца маладыя. Адны заходзяць у сярэдзіну, іншыя бягуць на вуліцу, кураць. Ці ведаюць як называлася вуліца раней і чаму так называецца сёння? Ці трэба ім ведаць?

Вяртаюся да стала, гляджу ў камп'ютар. Новая кніжка слізгае ўюном, выкоўзваецца з рук, радкі непадуладныя думкам гучаць глуха, як патрэсканы звон, другі раз

калечаць вуха фальшывым пафасам. Пачынаю шкадаваць, ці не лепш было застацца там, у вёсцы, дзе кожнае слова ляжыць на сваім месцы, паміж травінкай і птушыным шчэбетам, дзе кожны вобраз чакае напагатоў, бяры, пераўтварай у літары.

“Ізноў сядлаюць коней уладары злых вятроў. А коні іх – ураганы парывістыя і нясуць у грывах новыя межы. Конскія хвасты падменьваюць людзям сваю мову чужой, людзі гукаюць сябе, не знаходзяць і разбягаюцца па ўсім свеце. Там, таксама не знаходзячы сваіх слоў, плачуць па іх. Плачуць па іх на чужой мове, а калі на чужой мове пачынаюць адкрыта з гэтых забытых слоў смяяцца, губляюць сябе канчаткова. Калі сядлаюць коней уладары злых вятроў, трэба пільна сачыць за сваімі, трымаць адзін аднаго за рукі і вартаваць свае словы. Няўжо сапраўды не ўпільнавалі мы сябе, аддалі і словы, і ўсё астатняе і разбегліся хто куды? А ці яшчэ плачам па загубленых словах? І якой мове зразумелы наш плач?”

Пра што я тут? Якія коні-ураганы, якія словы? Ніхто нічога не згубіў, ніхто не плача. Па другі бок вуліцы дзяўчына і хлопец, зачыніўшыся ў абдымках, шукаюць адзін аднаго і знаходзяць. Словы ім лішнія. Белыя боты на высокіх абцасах стыкаюцца наскамі з сіне-белымі красоўкамі, далоні хлопца сплятаюцца ў кошычак за спіной дзяўчыны, пальцы зацiснуліся, як на парэнчах Понтэ Мільвіа ў шматлюдным Рыме заціскаюцца дужкамі замочкі кахання.

Заплюшчваю вочы і чую голас: “Ніколі мне сны не сняцца на бацькавай мове. Ні на матчынай. Мае сны рускамоўныя”. Пройдзе час няўлоўны стрэлкам гадзінніка,

ні лісткам календара і яна, расчэсваючы перад люстэркам валасы, скажа: "Сёння мне першы раз сасніўся сон па-беларуску". Грэбень падыме з валасоў жменю аранжавых іскрынак, а я на хвіліну забягу ў кастрычніцкі лес, паглядзець, як пасля першых замаразкаў густым дажджом асыпаецца лістота.
Чый голас? Хто яна? Юлія? Юлія была? Снілася? "Вешаць замкі кахання на мосціках праз Лету, няправільна. Забудзе яна цябе і ты яе забудзеш". Ці не так сказаў Маэстра? Збольшага так.

Пра дзверы, што вядуць мяне з чацвёртага паверха на ўскраіну пушчы не ведае ніхто. Можа здагадваюцца лепшыя сябры, а можа і не?

– Ты зноў некуды ад'ехаў думкамі, – кажа Генік.
– У пушчу ў грыбы, – падказвае Коля.
– Дарэчы, як сёлета грыбоў? Багата? – пытае Алег.
– Не хаджу ў пушчу за грыбамі. Няварта трывожыць стары лес з-за такой дробязі, як грыбы. Ёсць у мяне свае месцы за Белай Стражай, у бок Апакі, няшмат хто іх ведае. Прыедзеце, пакажу, – думкі вяртаюцца, загортваюцца ў бетонныя сцены чацвёртага паверха.
– Можа праз тыдзень, або два, – кажа Алег.
– Можа праз месяц? – пытальным знакам вызначаецца Коля.
– Так, праз месяц, – пацвярджае Генік.

Маім сакрэтным праходам карыстаюся, калі сябры адводзяць вочы, глядзяць за сваімі справамі. Бягу крадком і некалі здараецца пераблытаць крокі, згубіць сінхранізацыю часу і прасторы, тады кулём падаю ўніз, на другі бок вуліцы, у чужы, непрызначаны мне час. Спадаю

побач з маладым мужчынам, гадоў пад сорак, бачу яго першы раз, але ягонае імя ведаю. Не разумею адкуль, якім чынам, проста – вядомае мне ягонае імя. Побач гергечуць людзі ў вайсковай форме, у руках мужчыны паблісквае слоік з салянай кіслатой. Хто кідае той слоік? Ягоная рука? Мая? Кіслата паліць твар вайскоўца, сцякае на мундзір. Асляплены жаўнер сячэ кулямі зімовае паветра, лютаўская шэрань асыпаецца на вуліцу чырвонымі кроплямі.
– Уцякай Іцхак, уцякай, – чую голас дзеда Дзмітрыя. Ён тут, у чужым сабе горадзе? – маланкай мільгае здзіўленне. Бягу і чую наўздагон: Уцякай, пакуль б'ецца сэрца.
Уцякаю. Я, Іцхак Мальмед, бягу знаёмымі завулкамі, направа, налева, хаваю сляды за пакручастымі зігзагамі, а крокі завіваюць круг і зноў Купецкая вуліца ўсплывае перад вачамі.

– Уцякайце, – крычу на ўсе грудзі, калі перад карным атрадам стае сотка мужчын, жанчын, дзяцей. – Уцякайце...
– Не, – круцяць галовамі мужчыны. – Свінцовая куля бяжыць хутчэй за чалавека і ляціць хутчэй чым думка.
– Не, – кажуць жанчыны. – Уцякаць, значыць свамі рукамі адчыніць дзверы і запрасіць смерць ва ўласнае цела. Нашыя целы жаночыя, для жыцця яны, не для смерці.
– Не, – пярэчаць дзеці. – Стаяць на месцы, значыць прадоўжыць жыццё на адзін міг. Той міг, у які можа адбыцца цуд. Дзяцінства – лепшая пара для цудаў.

Згасае міг і цуд не адбываецца.

Па другі бок вуліцы дзяўчына і хлопец адвялі для сябе, замкнулі ў абдымках маленькую жменю часу і трымаюць

яе вуснамі зашпіленымі за вусны. Але ўвесь астатні час непадуладны ім і не трымаецца за пазначанае сабе месца. Ён зварухнуўся, бяжыць наперад, ці вяртаецца ў мінулае, не ведаю. Бачу толькі, як мяняецца колер тратуараў, белыя боты на высокіх абцасах загортваюцца ў чырвоную імглу, наліваюцца чырванню сіне-белыя красоўкі.

– Зноў з-пад асфальту выходзіць кроў, – кажу. – Няма ў свеце вялікіх гарадоў, дзе б не хавалася кроў пад асфальтам. Чым большы горад, чым старэйшы, тым больш крыві пад нагамі.
– Што там убачыў? Якая кроў? – Генік першы падступае да акна, глядзіць, паціскае плячыма. – Вуліца, як вуліца.
– Сонца ідзе на спад, асвятленне мяняецца. Сапраўды больш чырвані ў паветры, – сцвярджае Коля.
Алег глядзіць на вуліцу па-над нашымі галовамі і чую яго басісты голас:
– Шмат крыві пралілося на гэтай вуліцы. У сорак трэцім.

Дастаю з халадзільніка бутэльку віскі, прыхопленую ў бязмытным, па дарозе з Мінска. Наліваю ў маленькія шкляначкі кроплі сонечнай, лістападаўскай восені.
– На вуліцы ў маёй вёсцы восень мае колер спелага ячменю, а вясна – як зялёны абсэнт. Прыедзеце, пакажу.
– Можа паспеем да зімы, – кажа Алег.
– Можа вясной цікавей там? – пытаннем задумоўваецца Коля.
– Так, вясной цікавей, – пацвярджае Генік.

Вечар сталее над горадам і яны вяртаюцца да сваіх спраў. Я збягаю на ўскраіну пушчы.

З неба даходзіць гул самалёта – далёкі, сцішаны, быццам сочыцца праз тоўстую сцяну. Жоўтая кропка прарываецца між зор з усходу на захад, а мы праводзім яе вачыма.
– Ніколі не ляцеў на самалёце. Не прыйшлося. Пасажырскі, а? Не ваенны? – упэўніваецца дзед. – Некалі ў Мінску першы раз бачыў, як самалёт скідвае бомбы.
– Канешне, пасажырскі, – пацвярджаю. – Адзін раз я ляцеў на самалёце. Аднойчы, даўно было, прыйшла да мяне ў сне рудавалосая цыганка. Юліяй звалі, штогод з табарам заходзіла да нас у вёску, нават далонь мне крыху чытала. Ты, напэўна, не ведаў яе.
– Можа не ведаў, можа ведаў, – ледзь чутна, ці то мне, ці сам сабе кажа дзед. Куточкі ягоных вуснаў падымаюцца ўгару, таямнічая ўсмешка стаўляе за апошнім словам пытальны знак. – Прыйшла ў сне і?
– І сказала, што трэба мне ў Рым. Навошта? Ніколі я не цікавіўся сталіцай рымскіх імператараў, а тут раптам трэба і ўсё. Пабачыць Сабор Святога Пятра і касцёл Санта-Марыя дэль Попала. І яшчэ адзін касцёл, ужо і не памятаю як называецца. Уяўляеш? Звычайна расплюшчваю вочы і ўсе сны пакідаю па другі бок, не памятаю іх. Санта-Марыя дэль Попала, уяві сабе. Не чуў раней пра такі касцёл, а тут, расплюшчыў вочы і назву памятаю. А яшчэ сказала цыганка Юлія шукаць карціну. “Тры грацыі” называецца. Прыйдзе час, трэба будзе табе выбар рабіць. Які выбар? Шукаў і не знайшоў яе. Так вось адзін раз прыйшлося мне ляцець на самалёце. А ў сне лётаю часта. У пакоі над ложкам, над сталом і шафай, а іншым разам над вуліцай лётаю. Не надта высока, але ж лячу. І заўсёды лётаю адзін, а людзі стаяць, задзіраюць галовы. Запрашаю іх, заахвочваю, давайце лётаць – простая справа. Маю прадчуванне, што ім вельмі хочацца адарвацца ад зямлі, але трымаюцца за яе, як трымаліся.

– Сны, яны прывучаюць нас да вечнасці, але вечнасць адна на ўсіх, а шлях да яе, як і сон – у кожнага свой. Адзін ляціць туды птушкай, другі паўзе вужакай, – кажа дзед. – А “Тры грацыі” дарма ты шукаў у Італіі.

Дзедавы словы, тое, як ён падбірае іх, як вымаўляе і звязвае ў сказы, здзіўляюць мяне куды больш, чым ягоная прысутнасць на маёй лавачцы. Усяму, што тут адбываецца, ці ўжо адбылося, пачаўшы з тае хвіліны, калі за штыкетнікам мільгануў чорны пінжак, калі зашоргалі на асфальце боты, усяму гэтаму магу даць веру. У аповедах бабы Веры так шмат было дзеда Дзмітрыя, што я перастаў прыкладваць да ягонай адсутнасці асаблівую ўвагу. Пачаў яе лічыць як часовую, на восі гадоў пазначаную незварушнай кропкай “ад” і рухомай, што натуральна, як стрэлкі гадзінніка можа заходзіць у чарговыя дні, кропкай “да”, і неяк звычайна чакаўся той момант, калі бразгане клямка, адчыняцца дзверы і дзед Дзмітрый пераступіць парог. Насычаны пахам сенажаці, або прыцерушаны вусікамі жніўных каласоў, прысядзе за стол і за вячэрай усё распавядзе сам – дзе быў і чым займаўся. Пазней, калі адыйшла баба Вера, кропка “да” адсунулася далёка над лес і завісла там яшчэ адной зоркай. Гляджу на яе і пачынаю разумець чаму не здзіўляе мяне прысутнасць дзеда Дзмітрыя на лавачцы. Нават гісторыя пра вечную варту, якую нехта трымае над намі, гучыць цалкам верагодна, бо чалавеку хочацца не быць пакінутым на волю выпадку, што зմораны нудой можа раптоўна абвясціць канец ігры.

Маўчу хвіліну і другую, але цікавасць не сціхае, свідруе галаву, цісне, як няўмела падабраныя боты. Няўжо слова можа існаваць па-за чалавекам, вызваліцца ад яго, жыць

сваім жыццём, вандраваць праз час і пространь, і браць з іх новае і новае?
– Дзіўная з табой гутарка, дзед. Дзе ты знаходзіш такія словы? Плугам жа з нашага прыпушчанскага пяску іх не выараў, у школы таксама не хадзіў, з кніжкамі не сябраваў. Як і ўсе – як казала баба Вера – вывучыў распісацца і крыху чытаць, каб збольшага разбірацца, чаго ў сваіх пісульках дамагаюцца дзяржаўныхя чыноўнікі. У новай кніжцы я нат паслаў цябе ў школу. Не пагневаешся, праўда? Я ж цябе не ў такую звычайную школу, дзе вучні і настаўнікі, званкі і ўрокі. Дзе вядомыя адказы на ўсе пытанні, трэба іх толькі вывучыць. Мне такія школы не падабаюцца, ці прыйшліся б даспадобы табе? У нябесную майстэрню цябе ўладкаваў, да пісьменнікаў і паэтаў. Яны там вяртаюць ранейшы выгляд кнігам, спаленым варварамі на працягу ўсяе гісторыі, перапісваюць, а ты збіраеш іх, заносіш у бібліятэку, растыкаеш па паліцах. Наіўнае, праўда? Нябесная бібліятэка. Хтосьці скажа – поўная лухта, надуманае, але ж засела ў галаве, муляе. Даваць у кнігу? Не даваць? Не ведаю, – спаглядаю на дзеда, ён не аспрэчвае мяне. Зусім нечакана заходзіць у аповед лёгкім крокам, як у сваю хатку ў лесе на беразе возера, навобмацак знаходзіць газавую лямпу і запалкі, запальвае, падкручвае кнот і хісткое святло дастае з вечаровага паўзмроку словы вядомыя толькі мне.

“Некалі займаліся гэтай справай больш адукаваныя памочнікі, але не справіліся. Пашлюць чалавека з кніжкай, якую ніхто не лістаў тысячу гадоў, а то і яшчэ даўжэй, а ён прытаіцца ў куточку, разгорне вокладку і пакуль уздоўж ды ўпоперак не перачытае, не раскладзе па костачках, не перасмокча, з роўнымі сабе не абмяркуе, рука на паліцу не пасунецца. А кнігі на пісьмовых сталах

накапляюцца, на розных яны мовах, старажытныя іерогліфы пераклікаюцца з лацінкай, лацінка з кірыліцай, вырастаюць як вавілонскія вежы", – падкідвае радкі, запісаныя маёй рукой.

Чую, як ад здзіўлення на ўсю шырыню раскрываецца рот. Адкуль ведае? Нейкім, незразумелым спосабам зайшоў у мой камп'ютар, вывучыў кожную літару і цяпер вопытная старасць дзеда па-добраму, жартам падколвае наіўную маладосць унука, пагульваецца яе даверлівасцю? Навошта? Нінавошта, проста так. А пры чым тут старасць і маладосць? – пасміхаюцца ягоныя вусны. – Мне сорак сем і больш не будзе, табе пяцьдзесят з лішкам і чарговы дзень наперадзе, сівых валасоў прыбавіць, сёетое адыме.

Глядзіць у месяц і чытае з яго, як з тэлесуфлера чытаюць свой тэкст вядоўцы. Маю ўражанне, што галасы ў нас вельмі падобныя, заплюшчваю вочы і губляю мяжу, што маё слова, што ягонае, усё зліваецца ў адну плынь.

"Часу, канешне, хоць адбаўляй, але ж нават у вечнасці ён не стаіць на адным месцы. У рэшце рэшт адзін чалавек – дарэчы, той, хто некалі сказаў, што рукапісы не гараць, таму напэўна і прызначылі яго кіраўніком спаленай бібліятэкі, кажа: Дзмітрыя, давайце, возьмем. Пушчанскі мужык, працавіты, непісьменны, не стане час губляць на лішнія чытанкі. І ўзялі. Але ж – як кожнаму чалавеку, так і яму – цікава, што нясеш у руках. Нікому нічога не кажучы, бярэцца расшыфроўваць літары і пачытвае крадком, калі ніхто не глядзіць. Але з абавязкамі спраўляецца, ды яшчэ як! Сам адзін спраўляецца з тым, чым раней займаўся дзясятак чалавек. А паэты склейваюць

драбінкі попелу і склейваюць, заварочваюць назад усе спаленыя словы. І выводзяць іх на тыя акрайкі лёнавага неба, што высоўваюцца з-пад пальцаў найстарэйшых ткачых. Такое неба не гарыць".

Стаўляе кропку, аб нябачную паперу ляпае нябачная вокладка. Цішыня выспявае і асыпаецца чорным зернем на вуліцу.

– Скажы дзед, кнігі ж яшчэ няма, сам не ведаю, калі выйдзе друкам, можа праз год, мо ніколі, а перад табой яна ляжыць, як на паліцы. Бяры, чытай, ніякіх сакрэтаў. Як гэта магчыма? Мае словы – неад'емная частка мяне, вырастаюць з мяне, выспяваюць, набіраюцца колерам, аплятаюць душу павуцінкай маршчынаў. І калі спыняцца сівець валасы, калі абарвецца ніць, што тчэ зморшчыны вакол вачэй, словы таксама спыняцца, кожнае застанецца на сваім месцы. І не перавязаць іх нанава ў сказ – прыгажэй за тыя, што звязаліся раней, як не ўзняцца ў прастору птушынаму чучалу, не ўзляцець вышэй за той цвік, што прышпільвае да сцяны апошні палёт.

– Пераацэньваеш мяне, шмат чаго не ведаю, шмат чаго не разумею. Можа твая думка стварае мяне нанава, працягвае маё жыццё ў табе? А можа ўсё, што напісалася і ўсё, што будзе напісана, яно ўжо там, у нашай бібліятэцы? – кажа. – Дарэчы, захавалася ў цябе тая кніжка на нямецкай мове? Абгарэлая крыху. Падкінеш, выправім. Ці можа ў Беласток затурыў?
– Не, тут яна. Зносілі старую хату, шмат чаго выкінулі. Яе баба Вера выкінуць не дазволіла, няхай будзе дома, сказала. Дома, дык дома, і я не забіраў яе адсюль. Ляжыць на паліцы.

– Значыць, яшчэ не цалкам там твой дом, – узіраецца перад сябе, на другі бок вуліцы, на дахі стадолаў і хлявоў, што шыферамі і чарапіцамі выходзяць да святла поўні.
– Бачу, Косцік адбудаваў стадолу. Памятаю той пажар. Іван Антанюк трымаў тады варту. Вы ўсёй вёскай спалі, а ён давай бегма да дачкі. Нам так прыказана – калі б трывога, найперш бяжы да сваіх, бо ў свой дом сцежка найпрасцейшая, не спатыкнешся. Забег і барабаніць у акно: уставай, падымай народ! На Косціка налятаюць чырвоныя коні! Так менавіта сказаў, чырвоныя коні налятаюць, бо нам забаронена перасцярагаць вас ад злога адкрырым тэкстам. Чаму так, не ведаю. Можа натое, каб выбар пакінуць за вамі – верыць, ці не верыць у нашыя словы? А варту дарма адмянілі. Трэба яе трымаць пакуль у апошняй хаце гарыць святло.

Ужо колькі тыдняў адбіваюся ад спакусы. Стружачныя пілы і дыскавыя, габлявальныя станкі і шліфавальныя, усе гэтыя электраінструменты падміргваюць мне з вітрынаў і стэндаў, выходзяць на тратуар, заступаюць дарогу, падскубваюць за рукавы. Пачынаю сумнявацца, ці за тыя дні, калі я хаваўся ў вёсцы, ці не пераўтварыўся Беласток у адзін аграмадны дрэваапрацовачны камбінат, у даведзеную да межаў дасканаласці махіну, дзе лішне не губляецца нат самы кароткі міг, дзе ўсё мае дакладна пазначаны пачатак і канец. Адбіваюся ад нахабнасці мёртвай жалезіны, вынесенай на алтар жыцця, узвышанай да рангу саюзніка ў змаганнях чалавека з часам. Збягаю ў адведзены мне прамежак часу, што мае пачатак, а вось канец не вызначаецца там ні гадзіннікамі, ні календарамі. “Пакуль не закончыш”, узгадваюцца словы дзеда Алімпея. Ці сапраўды так? А калі не закончу ніколі? Будзем сядзець у сваім замкнёным коле, паўтараць

адзін аднаго і кожны сябе. Насамрэч, нічога страшнага, мы прывыклі, паўтарае дзед Алімпей.

“Дзед стаўляе твар да месяца, а месяц, як вопытны грымёр, кладзе на дзедавых шчоках васковыя пудры, аздабляе валасы пылінкамі сцёртага ў парашок спелага аўса. Аздабляе багата, не шкадуючы, аж залаты лішак асыпаецца на пальцы рук, сплеценыя ў кошычак, адвернуты брухам да начнога неба. Пальцы, што лістаюць спапялёныя словы, падумалася мне, калі б ізноў іх пакласці на халодных, восеньскіх ручках плуга, ці ўтрымалі б яны плуг, правялі б баразну наперад сябе, услед за лятучай стралой?

Зацісні пальцы на дзедавай далоні і ўтуліся тварам у рукаў ягонага пінжака, дыхае шопатам далёкі, яшчэ нябачны досвітак. У гэтых далонях толькі холад, а чорны пінжак аддае вільгаццю счарнелага восеньскага лісця, затаптанага ў зямлю босымі нагамі лістападаўскіх дажджоў – ноч стаіць побач і яе голас бярэ верх над шопатам досвітку.

– Думаеш, не ўтрымаць мне плуга ў далонях? Пальцы ў мяне ўсё яшчэ спраўныя, можа і спраўнейшыя, чым раней. Калі нясеш у далонях спаленую кнігу, калі яе стаўляеш на паліцу, трэба быць вельмі ўважлівым. Ні адна літара не можа ўпасці назад, на зямлю, ні адна кропка, ні коска. Трэба моцныя пальцы. І спрытныя – усміхаецца дзед і падымае далоні вышэй галавы, і яшчэ вышэй, і яшчэ, пальцы вычэсваюць таўсташчокі месяц з валасоў начнога неба і заплятаюцца ў жывую павуціну. – Бачыш, які ён харошы?”

## *3.*

Некалі баба Вера паказала мне месяц. Я, канешне, бачыў яго і раней, але спачатку глядзеў на месяц як на ёлачны шарык, крыху пазней лініі святла і ценя пачаў складваць у абрыс разгорнутых месячным ветрам шатаў пана Твардоўскага, а яшчэ пазней увесь свет загаманіў пра касманаўтаў – паглядзіце, яны ўжо ірванулі з месца, ужо шыбуюць у прасторы, перасяклі ўжо мяжу ўсім межам і вось-вось сядуць на жоўтай талерцы.

Прытаіўшыся паміж брамкай і лавачкай я ўзіраўся ў гладкі месячны твар, шукаючы там першую маршчыну, зробленую абцасамі чалавечых ботаў. Ліпеньская поўня перапраўлялася якраз на схадок, святла было дастатко-ва, але на месячным панадворку не адбывалася нічога асаблівага. У вечаровай цішыні надзвычай пранізліва заскрыпела фортка і з-за штыкетніка высунулася гала-ва бабулі Веры. Фортка адчынілася насцеж, дадатковая жменя месячнага святла ўпала люстэркам на траву. Бабу-ля пераступіла люстэрка, паставіла крок, і другі, і прысе-ла на лавачку.

– Хадзі бліжэй, – сказала, а калі я ўтуліўся ў яе цёплае плячо, паказала на месяц:

– Бачыш той малюнак на месяцы? Цёмныя плямы на залатым фоне, бачыш?

– Бачу. Гэта касманаўты?

– Не, якія зноў касманаўты? Ніхто туды не паляцеў і ніхто ляцець не збіраецца. Дурыць галовы малышам, такім як ты, – запярэчыла бабуля. – Спакон вякоў стаіць на месяцы гэты малюнак. Два браты на ім, бачыш? Даўно таму, калі свет быў малады і людзей вельмі мала было, адзін брат зрабіў другому брату вялікую крыўду. Першы

раз такое здарылася. Брат забіў брата, насадзіў яго на вілы, падняў над галавой, замахнуўся, каб швыргануць нежывога ў цёмны лес, схаваць ад людскіх вачэй. Але не паспеў. Пан Бог – ён усё бачыць – не прапусціў вокам і гэтага злачынства. Схапіў камень – першы, які падыйшоў пад руку – і з усяе сілы шпурнуў у забойцу. Пацэліў добра, а камень не абы-які быў, самы вялікі валун на зямлі. І панясліся на камені браты – далёка, далёка. Там камень перамяніўся ў месяц, а браты праўвасобіліся ў камень. Век да веку трэба стаяць ім, на перасцярогу ўсім людзям.

"Месяц калышацца ў дзедавых далонях, а мне хочацца дакрануцца да іх і, як па мосціку, перайсці на залаты бераг. Сігануць непрыкметна і асцярожна, на пальцах рук, каб не спалохаліся каменныя браты, не схаваліся на цёмным баку месяца. Хочацца зазірнуць ім у твар, паглядзець, чым вочы ката адрозніваюцца ад вачэй ахвяры. Працягваю руку, пальцы набліжаюцца да дзедавай далоні і спалоханыя запісаным глыбока, у падсвядомасці подыхам ледзянога ветру заціскаюцца ў кулак. Насуперак сабе даю ім загад спыніцца, засунуцца глыбока ў кішэню.

Стэрыльная чыстата месяца нагадвае святочны стол пад жоўтым абрусам, дзе-нідзе толькі роўнядзь моршчыцца невялікімі хвалямі пажоўклага сена. У любы момант можна было б сядаць за гэты калядны стол, бо зоркі над галавой ніколі тут не знікаюць, усе яны роўныя адна адной, усе першыя. Шукаю той камень, своеасаблівую камеру без акон і без дзвярэй, у якой справядлівая Боская рука замкнула першага братазабойцу. Няўжо няма тут нічога, пра што распавядала баба Вера? А мо і ніколі

не было? Можа толькі людзі – пакуль жывуць – мрояць, што перасцярога пра непазбежнае пакаранне кожнага зла, вырытая на месячным камені, паверне нас на лепшы шлях? І перадаюць гэтыя мроі з пакалення ў пакаленне.”

Зачыняю камп'ютар, выходжу на двор. Гадзінай раней згаслі вулічныя фанары, у зорным вогнішчы дагарае чарговая картка календара. Хутка мінаюць дні, чым бліжэй канец года, тым шпарчэй сыходзяць у мінулае. Згодна з дамовай мая кніжка павінна выйсці да канца снежня, чакаюць па чарзе рэдактар і карэктар, дызайнер хвалюецца за вокладку, а я ўсё яшчэ сяджу на лавачцы з дзедам Дзмітрыем, раскладаю па костачках мінуўшчыну і пачынаю сумнявацца ці не лішне турбаваў яго, ці недарма ўводзіў у свой свет. Мінулае нічому не вучыць, гэта ўсяго люстэрка, у якім бачыш тое, што хочаш бачыць, – кажа дзед, быццам чытаў у маіх думках. Раніцамі тэлефануе Яўген, распытвае пра ўчарашні дзень, пра колькасць знакаў запісаных у камп'ютар. Супакойваю, усё нармальна, усё пад кантролем, згодна з планам, але ж дасканала ведаю, што спазняюся. Сваю долю часу бесцырымонна выпрошвае сасновы камель. Спілаваў яго, пакалоў на досачкі, а ўсё яшчэ шмат працы наперадзе. Падраўняць гэблікам, пачысціць уручную шліфавальнай паперай, пазбавіцца ад шурпатасцяў. Навошта? Бо так сказаў дзед Алімпей? Сядаю на лавачцы, цішыня гусцее, застывае маршчынамі ў расколінах неба, як вада пад дотыкам ледзянога ветру. На захадзе, ад Даліны заўважаю зрух. Слаі мораку над вуліцай хістаюцца, нешта кшталтам сівой конскай галавы выдзяляецца з начнога занавесу. Прыпальваю цыгарэту, пламеньчык запальнічкі прытрымліваю даўжэй чым трэба, як своеасаблівы маяк, знак жывому ад жывога. Сокал бязгучна ідзе па вуліцы.

Табар ноччу? Заўсёды хадзілі днём, напрыканцы лета. Што змянілася з таго часу, калі няспынную плынь маёй прысутнасці тут жыццё пасякло на паасобныя тыдні і месяцы? "Ад Сямятычаў едуць", павінен пачаць дзядзька Раман. "Ага, ад Сямятычаў праз Кляшчэлі", мусіць удакладніць дзядзька Мікалай. І яшчэ слова ад дзядзькі Івана. І здзіўленне дзядзькі Косціка пра свет, што ідзе ў адзін бок і знікае за Старыной. Але яны пайшлі ў сон даўжэйшы за ўсе свае сны, саснёныя з дзяцінства па старасць.

– Ад Сямятычаў, праз Кляшчэлі, праз Палічну, да нас і далей, у Старыну. І ніхто ніколі не бачыў, каб вярталіся назад. А за Старыной мяжа, усе дарогі абрываюцца. Куды знікаюць цыганы? – кажу шматгалоссем, адкапаным з засыпаных пяском і каменнем дзіцячых гадоў.

Гляджу і ніяк не магу разабрацца – стыкаюцца капыты з асфальтам вуліцы, ці не? Пэтро, як звычайна, трымае вуздэчку, услед за Сокалам, таксама ж бязгучна, ідзе другі конь. Заложаны ў аглоблі, напінае спіну і воз сунецца як у нямым кіно.

– Добры вечар Пэтро, – падымаюся з лавачкі, выходжу насустрач барадатаму цыгану. І лаўлю сябе на думцы, што паўтараю словы, жэсты і крокі – бацькі, дзядзькі Рамана, дзядзькі Мікалая. Паўтараю іх і ўпісваюся ў агульны партрэт месца і людзей, замкнёных у дужкі мінулага часу.

– Добры. А ты Дзмітрыеў унук будзеш, Мішкін сын?

– Я. Вы ведалі майго дзеда Дзмітрыя?

– Канешне. І прапрадзеда Ўладзіміра ведаў, і з прапрапрадзедам Мацвеем быў знаёмы. А цябе маленькім памятаю. Падбягаў да Юліі, ручку падсоўваў, пачытаць будучыню прасіўся. А ўжо пасівець паспеў.

– А ў вас, бачу, і табар загубіўся, і Сокал падковы пагубіў. Ціха ідзе, як у тапачках.
– Бо ў тапачках ён. З вечаровай імглы жонка паспела звязаць яму тапачкі і пайшла ў вечную дарогу. А падковы ёсць, толькі цокат маіх коней не ўсім даспадобы. Усе яны цяпер у тапачках ходзяць. Усе, то-бок два, – ківае галавой на коніка, што прыпыніўся за Сокалам. – Не падабаецца закатаным у асфальт дарогам свабодны крок нашых коней. Зняволеныя, прывязаныя да спадарожнікаў, што вісяць пад небам, не павярнуць ім куды захочацца, не пабегчы наўпрасткі. Чыноўнікаў усялякіх, што аддалі сваю свабоду за цёплы куточак у мёртвых кабінетах, душыць за горла пах дыму з нашых вогнішчаў, займае дыханне вецер, разбуджаны са сну грывамі нашых коней. Днём начуем, ноччу ідзем, свет перакуліўся. І мы ходзім дагары нагамі, толькі аб тым не ведаем, бо ніхто нам не сказаў.
– Вы адзін ідзеце? – пытаю.
– Адзін. Паглядзі на коніка, які ён. Нават лейцаў не трэба. Выйдзем за вёску, я сядаю верхам на Сокала, а ён бяжыць трушком. Правяду яго і воз, і застанецца апошні этап. Праз год завершым чарговы круг. Наш круг, Сокал. Мой і твой.

– Скажыце Пэтро, вы ўзгадалі Юлію, дзе яна цяпер? Апошні раз бачыў яе ў Беластоку. Даўно было. Вельмі даўно.
– Юлія сама вырашае, дзе ёй быць і хто яе можа бачыць.
– Яна ўжо не прыйдзе сюды? Ніколі? Так і не дачытала да канца маю далонь.
– Можа прыйдзе, можа не. Табе ўсё яшчэ хочацца ведаць будучыню? – глядзіць на дах, камечыць у зубах неадлучную саломіну. – Кроквы як, трымаюцца? Шыфер на бляху памяняў. Добра зрабіў. Пратрымаюцца

стагоддзе, два, абы сцены выстаялі і фундамент. Паслухай, а чаму б не заначаваць мне тут, у цябе? Заўсёды раскладаліся на начлег за Старыной, але ж сам адзін ніколі не начаваў. Сумна неяк. Хацелася б перакінуцца словам з жывым чалавекам. У дом не прашуся, ёсць свой воз, ёсць дзе праспацца. Як? – глядзяць на мяне стомленыя вочы, затопленыя ў тоўстых пластах шматвяковага павуціння. – Курэй не трымаеш, няма за што хвалявацца, – усміхаецца і павуціннe выгладжваецца, зрэнкі, хвілінай раней матавыя і прытухлыя, наліваюцца бляскам, ажываюць.

– Вы пра бабу Веру?

– Пра ўсіх вашых бабуляў. Праўда, здаралася нашым жанчынам скубануць курачку ў той ці другой вёсцы. Даўно было.

Адчыняю вароты, Пэтро кранае вуздэчку.

– Хадзі Сокал. Першы раз будзем начаваць на зямлі абведзенай агароджай, выдзеленай з бязмежнай прасторы. Усяго трэба ў жыцці скаштаваць, нават смерці.

Які сон сасніцца вольнаму Сокалу ў сценах нашай старой стайні? Свой, крылаты, навеяны ветрам, падшыты зорамі, вадой крынічнай абмыты? Ці чужы, спацелы ад летняга жніва, ад восеньскага ворыва стомлены? Магу раніцой запытаць, але ж не адкажа Сокал.

На стале пад дахам бяседкі запальваю газавую лямпу.

– Вось  такое вогнішча сёння ў нас. Сурагат, нафтай аддае, – апускаю шкло, падкручваю кнот, аранжавы язык злізвае цемру на адлегласць працягнутай рукі. Раптоўна ўзгадваецца дзед Алімпей, паколаты на гарбатыя досачкі сасновы камель, таямнічы Маэстра. – Пэтро, скажыце,

бо каму ведаць, як не вам – што ёсць свабода? Можна яе займець штодзённым высілкам, мазалямі на далонях? Далоні Пэтра завісаюць над маленькім вогнішчам, пальцы сплятаюцца ў сетку. У чорных зрэнках хістаюцца два светлыя язычкі.
– Алімпей даручыў табе задачу, а? – пытае, як у ваду глядзіць. – Не табе першаму. Свабода, праўда, каханне. Шукаеш і не шукаеш, як і ўсе вы тут. Ці знойдзеш? Па-мойму – не, шмат часу згубіў. І сам не ведаеш, трэба яна табе, ці не трэба. Прыйдзе Маэстра, намалюе, дасць, падорыць. Калі прыйдзе? Заўтра, калісьці, у чарговым жыцці.

Рука старога Пэтра цягнецца да лямпы, падкручвае кнот і жоўты пламеньчык выціскае цемру далей, за мяжу бяседкі.
– Ведаеш як называецца такая лямпа? Не? Кажан называецца. Начны птах. Нам, цыганам ён прыносіць шчасце. Закружыць над табарам, добры знак. Ноччу над вогнішчам закрычыць – таксама. Нельга забіваць кажаноў, грэх. І баяцца іх не трэба, – цяпер ягоныя вочы сыходзяцца на маіх вачах. Хаваюся за павекамі, апускаю галаву. Няўжо бачыць ён нашыя дзіцячыя вечаровыя гульні на вуліцы? Камень загорнуты ў белае палатно бачыць, шпурнуты высока ў неба?

– Пачакай хвіліну, пакажу твой дзіцячы страх, – кажа Пэтро. Падымаецца з-за стала, кіруе крокі да воза, што прыдрамаў побач са стадолай. Вяртаецца праз хвіліну, цяжкія боты шоргаюць па траве, пачуўшы іх, з-за сценаў стайні конікі адгукваюцца чуйным іржаннем.

Адчуваю сябе няёмка. Што ён нясе ў руках? Камень загорнуты ў белае палатно? Не, нешта большае, як спе-

лая, вераснёвая дыня і загорнутае не ў белае палатно, а ў квяцістую хустку цыганскай жанчыны. Кладзе на стол авальны клуначак, сцягвае хустку.
– Усё, што засталося. Малы месяц, або Круг лёсу, так мы яго называлі. Даўно, калі пачынаўся свет, Бог даручыў нам выкаваць месяц. Хай людзям асвятляе дарогу, калі сонца ідзе на спачын. Золата даў і срэбра, плаціну і жалеза, каб не быў ён як дзённая зорка, аднолькавы і занадта яркі. Добра справіліся цыганы і дазволіў нам Бог узяць тыя іскры, што высыпаліся з-пад молатаў, і зрабіць сабе малы месяц. Круг лёсу, так назваў яго. Не будзе ў вас сваёй айчыны, няхай будзе акно ў прошласць і прышласць. Яно – ваш хлеб, так сказаў. Шмат вякоў адзін бок паказваў мінулае, другі будучае. Але той другі бок, дзе выпала больш срэбра і жалеза, счарнеў, заіржавеў, глядзіць у прышласць сляпым вокам і няшмат бачыць. Прысаджвайся, зазірні ў сваё дзяцінства, у свой першы, дзіцячы страх. А я закапаюся ў возе, стары, адпачыць пара.

Сяджу на лавачцы і аддаю сябе травеньскаму сонцу. Пальцы цягнуцца да твару, няўмольна лезуць да чагосьці, што аднае раніцы высунулася з-пад скуры і чорнай кропкай расселася на шчацэ пад правым вокам.
– Барадаўка, як піць даць, – рассудзіла баба Вера. – Ідзі на лавачку, пасядзі, сагрэй у сонцы, можа знікне сама па сабе. Толькі моцна заплюшчвай вочы.
Кропка спачатку маленькая і ледзь бачная падрастала з кожным днём і тыднем, аж дацягнулася да памераў гарохавіны, дагледжанай добрай гаспадыняй.
– Выдалім, – упэўнена сказала баба Вера. – Галоўку часнаку парэзала ў костачку, раздушыла на мязгу, нацерла часночнай кашкай кусок сала, нашмаравала салам чысты шматок і прыклала да маёй шчакі. І перавязала твар

хусткай, каб шматок трымаўся на сваім месцы. Лячэнне доўжылася тыдзень, я з-пад хусткі глядзеў на свет адным вокам, але бародаўка не адышла. Закруглілася, павялічылася, нагадвала манетку, што згубленая старажытным караванам праляжала ў зямлі даўгія гады, аж – счарнелая – абʼявілася ўсяму свету пад маім вокам. Чарговы тыдзень змагаўся з бародаўкай падтыннік, затым ізноў часнок – цяпер змешаны з воцатам і жытняй мукой. Усё безвынікова. Не зняла маёй бародаўкі нат цётка Фіня, хаця здымае сурокі з людзей і жывёлы, прастуе твары пакручаныя чортавымі вірамі, а кудлатыя начныя перапалахі ад аднае яе замовы нясуцца ветрам за сёмы лес. І ніколі не вяртаюцца. На бліжэйшыя тыдні баба Вера спынілася ў сваіх намаганнях. Вярнулася да справы напрыканцы ліпеня, калі першыя яблыкі наліліся сокам – кіслым, што не паспеў адстаяць свайго часу ў цёплых бутэльках сонца.
– Кіслы яблычны сок, якраз тое, што вельмі не падабаецца бародаўкам, – шаптала, націраючы чорную манетку араматам лета.

Ліпень паспеў перадаць палачку часу жніўню, слодыч сонца пералівалася ў яблычныя сады, бародаўка заставалася на ранейшым месцы.

Аднойчы баба Вера апранула чорную сукенку і сказала:
– Сходзім да Марыі.
Мы часта наведваліся да бабулінай сястры Марыі і яна чакала нас. Часам чакала ў акне, прыткнуўшы чало да шыбіны, другі раз выходзіла на вуліцу і прысаджвалася на лавачку. Таго дня бабы Марыі не было ні ў акне, ні на вуліцы. На панадворку таўпілася ці не палова вёскі, адны заходзілі ў хату, другія выходзілі, мужчыны ля

калоджежа курылі папяросы, за сцяной жаночыя галасы цягнулі смутную песню.
Сяджу на лавачцы і чую пах яліны перамешаны з пахам воску. Баба Марыя, склаўшы рукі на грудзях, ляжыць у драўлянай скрыні. Ніколі раней я не бачыў чалавека ў скрыні, ад нечаканасці спрабую адступіцца крок назад, але там, шчыльнай сцяной стаіць чорная сукенка бабы Веры. Баба кладзе руку на маіх валасах і кажа:
– Прыткніся шчочкай да далоняў бабы Марыі.
– Навошта? – стаю перад невядомым і мне страшнавата.
– Прыткніся, прыткніся. Не пытай, – растапыраныя пальцы, асцярожна, але рашуча націсцаюць маю галаву.

Далоні бабы Марыі не нагадваюць нічога, што было б мне знаёмае. Гэта зусім не тыя далоні, што, як мяккія птушыныя крылы, яшчэ тыднем раней пяшчотна гладзілі мае шчокі. І не тыя, што яна іх – у Велікодны панядзелак, ці ў калядныя святы – высоўвала наперад сябе, заціснутыя ў кулакі, а вочы пыталіся ўсмешкай: Адгадай, у каторай руцэ цукерка?
Далоні бабы Марыі цяпер нерухомыя, жоўтыя, цяжкія і ў пакоі – нагрэтым летнім сонцам і дыханнем людзей – нагадваюць халодны язык студзеньскага ветру.
На такі ледзяны холад натыкаешся часам, калі летнім днём брыдзеш па вадзе за ракамі, або мянтузамі. Засоўваеш руку пад берага рэчкі, намацваеш нару, а яна маніць цеплынёй вады, пальцы коўзаюцца гладкім калідорам, выслізганым бязлускай скурай мянтуза. І раптам заходзяць у шорсткую, гузаватую пячору, вада халадзее, пячора звужаецца, паварочвае ўверх, да выхаду на бераг.

Трэба тады як мага хутчэй забраць руку – раяць мужчыны, што прайшлі гэтай рэчкай з дзяцінства ў маладосць,

і яшчэ далей, у даросласць, і вядомы ім кожны корч, дзе хаваюцца кляшнятыя ракі, кожны камень у вадзе, кожны вір над здрадлівай ямінай. – У такіх халодных, гузаватых пячорах селяцца вадзяныя пацукі і толькі чакаюць нявопытных хлопчыкаў, каб вострымі, як лязо сякеры зубамі абрэзаць ім пальцы.

Ледзяны язык лізнуў мяне па шчацэ, я спрабаваў адарвацца ад яго, яле заціснутыя на галаве пальцы бабы Веры не адступалі. А ён яшчэ раз лізнуў, і яшчэ, прыкладваючы асаблівую ўвагу да таго месца на шчацэ, дзе счарнелай манеткай прысела барадаўка. Я прыадкрыў левае вока і ўбачыў чорную кофтачку, аздобленую выявай жоўтага, кляновага лісця. На вуліцы дагарала лета, але ад кофтачкі ўжо ішоў чамусці восеньскі, сыры пах зварушанай плугам зямлі. Вока пабегла далей і найшло на падбародак бабы Марыі. Жоўты, завостраны, вытыркваўся з сырой паласы кофтачкі, а мне прыпомніліся страшныя зубы вадзяных пацукоў. Сабраўшы ўсе сілы, я адарваўся ад халодных далоняў і праз чорную сукенку бабы Веры, цераз натоўп дзядзькоў і цётак кінуўся на вуліцу, і яшчэ далей, за вёску, у лес.

Наступнай раніцай скрыню накрылі драўлянай накрыўкай, у накрыўку забілі чатыры цвікі і паклалі на воз, запрэжаны Орлікам. І Орлік, найпрыгашэйшы конь у вёсцы, павёз бабу Марыю ў Вэрсток, на могілкі. А пасля поўдня, калі мы ў рэчцы лавілі мянтузоў, а камары, дружнай са сляпнямі хмарай зляталі з бязвоблачнага неба, адбіваючыся ад іх, я пляснуў мокрай далоняй па шчацэ і ад здзіўлення шмыргануў на бераг. Шчака была гладкая і чыстая, а барадаўка знікла, як камень у ваду.

Калі ў пачатку восені паклалася ў такую ж драўляную скрыню баба Ляксандра – другая сястра бабы Веры –

узгадаўшы той ранейшы, не самы прыемны ход падзеяў, я забраўся на гарышча і прасядзеў там, пакуль не пачуў, як Орлік ляскае аб брук жалезнымі падковамі, як у водгук конскім капытам клякоча накрыты зялёнымі ялінкамі жалязняк. За Мелянінам Орлік паварочвае направа, выходзіць на гравейку і сціхаюць усе галасы.

Заварожаны карцінкай не паспяваю збегчы з залатога люстэрка. Застаюся ў далёкім дзяцінстве, не спыняюся брысці ў летняй вадзе за мянтузамі, перабягаю ў восеньскі, грыбны лес. Мне хочацца мець такі маленькі залаты месяц.

Некалі я мроіў пра лакіраваны кіёк дзеда Алімпея, здольны зазіраць у будучыню і кончыкам – падкаваным медзяной бляшкай – запісваць пабачанае на пяску. Ці можна памяняць тое, што чакае нас наперадзе, калі яно грунтоўна ўжо заснавалася на прошлым? Малы месяц старога Пэтра дазваляе вяртацца ў мінулае, выпраўляць памылкі, праставаць сцежкі і – выпраўленыя ад памылак – пракладаць у надыходзячы час. І яшчэ можна ў яго сабраць усе грыбы, прапушчаныя ў лясных зацішшах, і дастаць з рэчкі ўсіх мянтузоў, што выслізгнулі з пальцаў.

Прачынаюся, калі над Старыной жмурыць вочы сонечны круг. Шукаю Маэстра, залаты шар, квяцістую хустку, старога Пэтра і ягоны воз. Пуста. Сон? Прывід? Забягаю ў стайню, за парогам, пад нагамі бачу свежую, пакамечаную капытамі салому. Стайня пахне сырою імглой і дымам, як вераснёвае поле, калі пад лесам пачынаюць капаць бульбу.
Чалавек з'яўляецца зусім нечакана і зніадкуль.

– Не здзіўляйся, – ківае галавой на прывітанне. – Я ад Рафаэля. Зазірні, што там робіцца, папрасіў. Часцяком жа лётаеш з Парыжа ў свой Віцебск, зазірні. Колькі чакаць можна, каторае ўжо пакаленне бярэцца за справу безвынікова? Добра, кажу. Гляну, што там і як. А ў Віцебск, табе магу прызнацца, пры жыцці не лётаў. Ніколі. Немагчыма злётаць у месца, што здавён-даўна не існуе. Хаця ўсім казаў – так, канешне, наведваюся. Рады мяне там бачыць, здаецца вам, нешта засталося ад майго свету, калі ласка. А вось сябе – не падманеш. Цяпер лётаю, цяпер магу і ў дзяцінства вярнуцца, і куды заўгодна.

Цаля за цаляй разглядаю нечаканага госця. Чорны халат даўжынёй у паўлыткі, кепка з казырком, у правай руцэ кіёк з загнутай ручкай: не, ніколі раней мы не сустрэліся. Яшчэ раз абводжу позіркам нечаканага госця, а ён, як быццам не на мяне, а ў адкрытую кнігу глядзеў, кажа:
– А мы сустрэліся ўжо, у Мінску. Гарбаты мосцік памятаеш? Не памятаеш. Я ж казаў, не вешаюць замочкаў кахання на мосціках праз Лету. Разумею, ты не гатоў. Як па мне, нічога ў цябе не атрымаецца. І што Рафаэлю сказаць?
– Скажы, усё пад кантролем. Хутка адазвуся, паклічу.
– Пад кантролем? Ніводная досачка не пачышчана, нат тыя, што ад бацькі засталіся ляжаць, як ляжалі на гарышчы, – стаю аголены, а ён чытае мяне літара за літарай, бязлітасна перакрэсліваючы ўсе фальшывыя словы.
– Усё пад кантролем, хутка дам знаць, – ягонае беспардоннае “нічога ў цябе не атрымаецца” закліньвае мяне, усё, што хочацца сказаць, зводзіцца да чарговага “хутка паклічу”.
– Ладна, скажу, што не застаў цябе дома. Можа сапраўды паспееш? Хто верыць у цуд, шчаслівы чалавек.

На паўдня знікаю ў Беластоку. Лячу як мага хутчэй, каб не згубіць з поля зроку, не перадумаць мэты гэтага палёту. Вяртаюся раннім надвячоркам з істужачнай шліфмашынкай і электрагэблікам, складаю іх на стале пад бяседкай. Сяджу так доўгія хвіліны, узіраюся ў каляровыя цацкі, пяшчотна дакранаюся далонямі да пластмасавай гладзі, чытаю і перачытваю інструкцыі карыстання. Пераадзяваюся. Здымаю з сябе гарадскую скуру, чыстую і адпрасаваную, апранаю будзённае, насычанае пахам жывіцы.

Першая трапляе ў сталёвыя ціскі найшырокая, вынятая з самай сярэдзіны дошка. Прымерваюся да яе механічна неяк, пакідаючы свядомасць на абочыне рэальнага часу. Як улітая ляжыць у далоні ручка электрагэбліка. Прытыркваюся халодным лязом да драўніны, наваксаванай жывіцай. Вялікі палец правай далоні адлучаецца ад астатніх і асцярожна націскае язычок уключальніка.

“Будучыня прынясе разумную прыладу, але ж табе трэба сваімі рукамі”, – з далёкага дзяцінства нясецца крык дзеда Алімпея. Не азіраюся за сябе, не бачу яго, гэблік да голай костачкі здзірае цішыню з усяго наваколля, з дрэваў, што вызначаюць ускраіну пушчы і асыпаецца ціш стружынамі, запіхвае вушы, давіць за горла. Не чую нічога кроме паглыбленага, прыспешанага грукату сэрца і пульсавання крыві ў кожнай, самай маленькай жылцы. Поле зроку звужваецца да жоўтага прамавугольніка, бачу як святлее драўніна, з шырокай спіны дошкі сыходжу на папярочны, таўшчынёй у пяць-шэсць сантыметраў бок. З-пад сталёвага ляза высоўваюцца слаі – маладыя, што ляжаць бліжэй да краю і тыя шматвяковыя, набліжаныя да стрыжня, да пачаткаў часу, выдзеленага

гэтаму дрэву з бязмежнай вечнасці. Адкладваю электрычны гэблік і бяру ў рукі шліфмашынку. Для папярэдняй шліфоўкі падбіраю папяровую стужку памерам зерня “60”, затым скарыстоўваю “100” і “150”, каб нарэшце, калі на паверхні не застаецца ні стрэмкі, ні рысачкі, папесціць драўніну гладкай, як люстра, “двухсоткай”. І драўніна пераўвасабляецца ў люстра. Цяпер выразна, як літары на жоўтай паперы, слаі спускаюцца зверху ўніз роўненькімі ніткамі. Колькі было мне, калі вострыя зубы пілы спынілі жыццё дрэва? Пяць? Шэсць? Знаходжу крайнія ніткі, агульныя мне і яму, пальцы крочаць далей, у бок стрыжня, за адну хвіліну перабягаюць жыццёвы шлях бацькі і дзеда, заходзяць на сцежкі прапрадзеда Мацвея і ідуць далей, у безыменныя, невядомыя мне пакаленні. У даведзенай да дасканаласці гладзі адлюстроўваецца мой твар. Знізу, з другога боку глядзяць на мяне яны – Уладзімір і Дзмітрый, маці, баба Вера і ўсе астатнія. Не бачу іх, але прысутнасць адчуваю. А яны, ці пачулі, ці адчулі, што належны ім час дастаў я з нябыту не так, як было трэба? Не мазалямі ж на далонях, не сілай сваіх рук...
Стрэсваю з вачэй знаёмыя і незнаёмыя твары, абмяркоўваю час, што спатрэбіцца каб астатнія досачкі пераўвасобіць у бліскучыя, жоўтыя люстры. Тыдзень? Тыдзень, не больш.

Вечарам дзед Дзмітрый першы раз заходзіць у двор. Раней збываў мае запрашэнні кароткім: “Не, другім разам, тут на лавачцы добра так”, а сёння пераступіў фортачку не пратэстуючы. “Бяседку, бачу, паставіў. Давай глянем, што за яна. Моцна збудаваў, прывязаў як трэба да зямлі, значыць, і сябе прывязаў да гэтага месца”.

– Госці ў цябе былі, – кажа і няма ў ягоным голасе інтанацыі пытання.
– Ага, – пацвярджаю. – Пэтро з Сокалам неадлучным, як ніколі раней на начлег застаўся. А раніцай пасланец ад Рафаэля наведаўся.
– З Рафаэлем пазнаёміліся ў нашай бібліятэцы. Шукаў ён там сваю карціну. "Партрэт маладога чалавека", называецца. Немцы спалілі падчас вайны і ён зайшоў даведацца, ці можна, як кніжку, вярнуць карціну да жыцця. На жаль, нашы паэты такімі справамі не займаюцца, а кроме паэтаў нікога ў бібліятэку не пускаюць. А мне ўспомнілася ягоная іншая карціна і шкада зрабілася гэтага Рафаэля. І я прыадчыняў дзверы ў майстэрню, калі ўсе сыходзілі на спачын, а ён забягаў – крадком, хілком, пазбягаючы лішніх вачэй і маляваў. Закончыў і сказаў: "Табе Дзмітрый нічога не трэба, а нашчадкам тваім, усім пушчанскім вашым, аддзячу. Пакажу ім шлях да свабоды. Як умею паказаць, так пакажу". А карціну ён дзесьці прыхаваў. Прыйдзе час, вернецца да людзей. Калі памрэ апошні нашчадак таго, хто яе паліў. Так сказаў. Пэтро як трымаецца? – дзед нечакана саскоквае з астральнага ў зямное.
– Сам застаўся. Воз і два конікі. А ведаеш, ён казаў, што быў з табой знаёмы, і гэта не дзіва, але ж нібыта і твайго дзеда Мацвея ведаў. Я нат думаў запытаць, а колькі ж гадоў яму, але ці то не паспеў, ці то пасаромеўся. Амаль стагоддзе прайшло як прапаў твой дзед, а Пэтро ўсё яшчэ ў жывых і кажа, знаёмы быў з Мацвеем. Гэта як?

Сяджу за сталом, дзед абыходзіць бяседку, напірае плячом на слупкі, тузае дашок, бачу згодны ківок галавы. Прысаджваецца, глядзіць на мяне.

– Людзі кажуць – другія паміраюць, а мы жывем, мы несмяротныя. Нат калі не ўголас кажуць, дык дзесьці ў душы, у кожнага думка такая пляцецца. І пакуль жыве хаця б адзін чалавек, хто старэйшы за тваю памяць, жыве тваё перакананне ў несмяротнасць. Трымай у памяці старога Пэтра.

Маю ўражанне, што ўсё гэта ўжо было. Ён і я. Бяседка і цень ад яе, пакладзены на траву месячным святлом. І згодныківок ягонай галавы. Дзе было? Тут. Калі? Калісьці, даўно. Зараз гляне на яблыню і скажа: А гэтай семдзесят. Я садзіў у сорак чацвёртым, але вялікаватая ўжо была. Цвіла і ўвосень дала плён.

Паварочваецца тварам да старой яблыні, глядзіць на яе і кажа:
– Добра летась старушка ўрадзіла, яблыкаў – як зор на небе. Ведаеш, дзе пачынаецца неба? Не? Там, адкуль бачыш людскія твары і чуеш галасы. З сапраўднага неба саскокваеш на зямлю, як з фурманкі. Перакінуў нагу цераз драбіны, ці палукашак і стаіш між людзьмі. Калі глядзіш на зямлю з высаты і ўсё здаецца маленькае, усё плоскае, далёкае і глухое, гэта фальшывае неба. Пераблытаеш сапраўднае неба з фальшывым, звалішся як камень. Пераблытаеш сапраўднае люстра з фальшывым, не пабачыш там ні праўды, ні свабоды. Запішы, можа спатрэбіцца для новай кнігі.

Ніякавею перад ягонымі словамі пра фальшывае люстра, свежая памяць выводзіць на паверхню светлакарычневыя слаі на жоўтым фоне. З неба даходзіць гул электрамашынкі – нахабны, гучны, як узняты эскадрай рэактыўных самалётаў. Але добра разумею, што

самалёты гудуць выключна ў маёй галаве. А з другога боку, што дрэннае ў электрагэбліку? Што не так? Ён толькі выручыў мяне, дапамог, вярнуў згублены час, а вынік атрымаўся куды лепшы за тое, чаго можна дасягнуць ручной прыладай.

Дзедава далонь спакойна сунецца ў кішэню, капаецца там і вяртаецца з нічым.
– Курыць хочацца, – кажа. – Твае цыгарэты лёгкія, а я да папяросаў прывык быў. Але што зробіш? Няма таго, што любіш, любі тое, што ёсць. Давай сваю саломіну.
– Адну хвіліну, я зараз, – зрываюся з лавачкі, лячу ў ноч, хвалююся, ці знайду тое, што некалі засунулася ў самае – для лішніх рэчаў – бяспечнае месца ў маёй хаце, на паліцу за кніжкамі, да якіх я даўно згубіў цікавасць і не бяру іх у рукі доўгія дзясяткі гадоў. Ёсць, ляжаць, як некалі паклаў. Пры нагодзе хапаю на ляту адзіную кніжку, што засталася ад дзеда. Вокладка ўсё яшчэ аддае пахам пажарышча і мільгае думка, што ён ніколі не выветрыцца. Як папрок у адрас усіх, хто па тых ці іншых прычынах наважыўся падкласці агонь пад загорнутае ў паперу слова.
Вяртаюся, дастаю з кішэні пачак папяросаў, асцярожна кладу на лавачку. Дзед бярэ яго ў пальцы, набліжае да вачэй, разглядае літары і рысунак, і вочы закругляюцца ад здзіўлення.
– Бе-ла-мор-ка-нал, – чытае па складах. – Ух, ты! Дзе ўзяў? У вашых крамах такія не прадаюцца.
– Баба прывезла, даўно таму, яшчэ Савецкі Саюз быў. Выкурыў адну, не спадабалася і так праляжалі гадоў пад трыццаць.
– Агню дай, у мяне ж свайго няма, – глядзіць на мяне і камечыць у пальцах папяровую гільзу.

Кладу запальнічку побач з папяросамі, дзед працягвае руку, запальнічка саслізгвае ў траву. Схіляемся адначасова я і ён, перабіраем пальцамі зялёныя струны травы і раптам мая далонь налятае на ягоную і – складваецца ўражанне – пралятае праз яе, як праз халоднае паветра. Зрываюся на ногі, раблю крок назад.
Дзед робіць выгляд, што нічога не здарылася, разглядае запальнічку, націскае з аднаго канца і з другога, шукае, як дастаць з яе патрэбны сабе агонь.

– А я “беламоры” ў саракавым бачыў. Мы круцілі казіныя ножкі з газеты і махоркі, і вартаўнікі круцілі, але часам, пры нагодзе якіхсьці святаў – рэвалюцыяў, ці першамаяў – не разбіраюся я ў гэтых чырвоных датах, вартаўнікі курылі сапраўдныя папяросы.
– Можа які святочны дэпутат ім даваў “беламорамі”?
– Мабыць. Нас не частавалі. Пах ішоў ад гэтых папяросаў – аж кішкі скручваліся! Бачыш ты, колькі часу прайшло, думаў, не давядзецца ўжо і панюхаць, а тут такая неспадзяванка, – дзед прыкурвае, зацягваецца, цераз складзеныя ў трубку вусны шпарка выдзімае дым вузенькай стужкай. Цягне яшчэ раз, вусны шчыльна зашпільваюцца і цяпер дымок выходзіць праз нос дзьвюма стужкамі. Тытунёвы пах спакушвае і рука лезе ў кішэню.
– Закуру і я, складу кампанію.
Іранічным позіркам глядзіць на мой худзенькі “палмэл”.
– Саломіна, штук тры запар трэба скурыць, каб накурыцца, ці не так?
– Бывае, асабліва раніцай. А “беламоры” як? Я, як зацягнуўся першы раз, думаў – вочы вылезуць наверх. Як сёння памятаю.
– Ну, нічога сабе, моцныя і пах знаёмы, хаця спадзяваўся на іншы смак. Калі нешта сабе семдзесят гадоў уяўляеш,

цяжка дагнаць спадзяванні, – пакурвае, прыжмурыўшы вочы, вусны шырока закругляюцца, высоўваюцца асцярожна наперад, нязначна звужаюцца і дым выходзіць лянівымі, хісткімі абаранкамі. Ветрык, які дагэтуль марудна таптаўся ў галінах кустоўя, забраўся спаць на закінутае ў стадолах сена і дымкі кружаць над галовамі – мой цыгарэтны, светла-сіні сплятаецца з ягоным цёмна-шэрым, папяросавым.

– Саветы ўзялі мяне за Урал вугаль даставаць з-пад зямлі. Зімой, у пачатку саракавога забралі, – дзед пасылае цёмна-шэрую абаранку насустрач мінуўшчыне, што сыходзіць з вяршыняў далёкіх гор і сунецца да нас, кіруючыся ліхтаром месячнай поўні.
– Я ведаю, баба Вера распавядала вельмі шмат, быццам бы ўсе гэтыя гады жыла за вас дваіх. Ты быў супраць калгасаў, таму і паслалі на Урал.
– Я супраць калгасаў? Не, хай сабе былі б яны, тыя калгасы, толькі чаму якраз на маёй зямлі? Расія вялікая, бязмежная, зямлі хоць адбаўляй, а яны прыпёрліся на мае шэсць гектараў пад пушчай і кажуць – аддай.

– Няўтульна пушчанскаму чалавеку пад зямлёй, праўда? – пытаю і гляджу на дзеда, чакаю, аж кіўне галавой, падтакне.
– Канешне, хацелася неба над галавой і зялёнай травы пад нагамі. І ветру, што пераклікаецца з дрэвамі не хапала. Але няма ў мяне злосці да саветаў. Зводзіць рахункі – дарэмная страта часу. Яны ніколі не зводзяцца да нуля, на тым баку, ці на другім заўсёды застаецца лішак. А цяпер неба ў мяне, хоць адбаўляй, а зямля тая, дзе яна? Зрэшты і так уцёк ім, у сорак першым, у траўні. Свет зрабіўся такі харошы, зялёны такі і невыносна стала пад зямлёй.

Або ўцячэш, або зловяць і яшчэ пяць прышыюць, але ўцякаць трэба, пакуль жывы. А ў сорак чацвёртым за кабана далі мне коніка. Саветам была радасць на адзін дзень, а мне на тыдзень. Аказалася, спёрлі коніка недалёка адсюль, у Сіпурцы, гаспадар знюхаў след, прыйшоў і кажа – аддай. Як не аддаць чалавеку, што яму належыць? Боты таксама ад іх. У першы дзень, калі немцы пайшлі на Расію, бамбілі вакзал у Чаромсе. Саветы пакінулі ўсё сваё дабро і рынулі дамоў. На трэці дзень нашы людзі давай цікавіцца, што там засталося. Твой другі дзед, па маці, Ян, залажыў каня і прывалок шэсць пар ботаў, такіх вось, усе новенькія, не паспелі і пораху панюхаць. І яшчэ два мяшкі махоркі. Ён загружаў на фурманку боты і махорку, а я ў той жа дзень у Мінску на вуліцы Энгельса падымаў з зямлі абгарэлую кніжачку. Сцяна высыпалася на вуліцу чырвонымі цэгламі, забіраючы з сабой хатнюю бібліятэку, спаленая папера лётала ў паветры. Сядзім у сорак пятым на лавачцы, курым трафейную махорку і кажу яму жартам: Ян, давай махнём. Я табе кніжку, ты мне боты. Кніжка адна такая, а ботаў у цябе шэсць пар. Паглядзеў, лістануў. Не, кажа, навошта мне яна? Была б па-руску, па-польску няхай, можна б падумаць, але па-нямецку? Нават цыгарку скруціць не падыдзе, папера надта тоўстая. Дам табе боты за так, за тое, што ўцёк адтуль. Такая была размова. Дай “беламорку”.

Курыць, маўчанне і хвіліны згараюць у круглым агеньчыку. Закідвае нагу за нагу, страсае пылок з высокіх халяваў.

– Бачыш, тут служылі тры гады, там больш за шэсцьдзесят, і трымаюцца.

– Добра трымаюцца. І блішчаць, як наваксаваныя. Чым націраеш?

– Хочаш згодна з праўдай, ці каб прыгожа было? – нечакана адказвае пытаннем на пытанне. Аганёк “беламора” даходзіць да гільзы і згасае. Прытоптвае акурак, загортвае ў пясок наском бота.
– Толькі праўда з'яўляецца цікавай, – прыводжу цытату, хаця хто сказаў гэтыя словы, дзе і калі, ужо не памятаю.
– Цікавай, кажаш, з'яўляецца. Праўда банальная, служылі мне ўсяго тры гады, пры нагодзе значнейшых святаў. Колькі разоў абуваў іх, можна злічыць на пальцах аднае рукі. Далей нічога не было, не паспелі стаптацца. Вось і ўся праўда. Як табе яна?

Маўчу. А мо ён сапраўды толькі паветра і нічога больш? Мой асабісты міраж, эскіз накрэслены аповедамі бабы Веры, вынесены да чалавечай постаці святлом месячнай поўні? Але ж сядзіць побач, бачу твар і чую голас. Глядзіць на мяне і ўсміхаецца.
– На, дакраніся. Табе ж хочацца. І ведаць цікава – цёплыя далоні, ці халодныя? – жоўтая, размаляваная месяцам далонь завісае перад маім тварам.
Чырванею, апускаю вочы. Мог жа я здагадацца, што яму, хто ўмее чытаць словы ператвораныя ў попел, чытаць думкі – прасцей не бывае.
– Што ёсць праўда? Вось цяпер, у дадзены момант – ты, я, вуліца, гэтая лавачка, месячнае святло, той камель няшчасны, што дзяўбу яго пілой і сякерай, да канца не ведаючы навошта – праўда?
Маўчыць, збірае думкі.
– У пахмурную ноч сядаеш на месячны камень, ногі апускаеш уніз, у самае густое нутро хмурын, а яны ідуць і чыстым, яшчэ ненароджаным дажджом сціраюць усе, нат самыя глыбокія шрамы і вяртаюць пруткасць стаптаным абцасам. Чакаеш, калі за чорнымі хмурынамі

прыйдуць белыя воблакі – яны ж заўсёды прыходзяць – воблакі плывуць і пёрыстымі шмоткамі глянцуюць халявы і запяткі, і наводзяць бляск наскам... Хочаш такую праўду? Бяры яе. Усё, што можаш уявіць, нават тое, што сёння за межамі разумення, не пярэчыць праўдзе, бо тыя межы не стаяць на адным месцы.

Вагаецца, бачу, як у нямой спрэчцы саміх з сабой падрыгіваюць пальцы.
– А, было не было, – далонь растуляецца і кароткім жэстам стаўляе ў паветры знак згоды. – Давай яшчэ адну "беламорку", хто ведае, калі зноў будзе аказія.

Націскаю язычок запальнічкі, дзед падымаецца з лавачкі, схіляе галаву да агеньчыка. Ахінаю агеньчык далонямі, чую, як мезенец, адстаўшы ад астатніх пальцаў, кончыкам ногця датыкае ягонай далоні. Прытаіўшыся за бяспечным панцырам кераціна, падушачка мезеньца застывае ў нерухомасці, чакае, што адбудзецца далей. Кончык "беламора" разгараецца да яркай чырвані, згасае агеньчык запальнічкі, дзед вяртаецца на лавачку. Заціскаю запальнічку ў далоні, мезенец трымае яе ў згоднай кампаніі з астатнімі пальцамі і ні ў чым ад іх не адрозніваецца.

Як слімак высоўваюся з сябе, асцярожна прапаўзаю нябачны парог страху. Хутка, на адзін міг датыкаюся да дзедавай далоні, забіраю пальцы, хаваюся ў бяспечнай шкарлупіне. Ізноў высоўваюся, і паўзу, прытрымліваю пальцы даўжэй. І яшчэ раз, і яшчэ, аж замазваецца ў памяці вобраз далоняў бабы Марыі, і ўсе астатнія далоні, што адыйшлі ў бездань, не паціснутыя далонямі тых, хто застаецца.

Мая далонь застаецца на ягонай далоні. Ляжыць, заслуханая ў ціш вакуума, што напаўняе ягоныя жылы. Набліжаю твар да чорнага пінжака і чую на шчоках мяккае сукно. Дзедаў пінжак пахне чэрвеньскім язмінам. Тым язмінам, што некалі рос тут побач з лавачкай, прытуліўшыся да пня старой ліпы і цеслі, пакуль пачалі будаваць наш новы дом, ссеклі іх у адзін дзень, адным махам.
– І як?
– Цёплая.
Бачу, як маленькія, свавольныя птушкі злятаюць з дзедавых вачэй, песцяць вусны пуховымі пёркамі і куточкі вуснаў падымаюцца ў хлапечай усмешцы. А птушкі кружаць, набліжаюцца і чую гэтыя пёркі на сваіх вуснах. Усміхаюся.
– Цёплая, кажаш. Цёплая, бо ты перамог свой страх. Ён быў, трымаў цябе, авалодваў табою, выкручваў твае рукі, але ты яго перамог. Каму страшна на сваёй зямлі, той і пры вогнішчы ў роднай хаце замерзне на камень. Хто пераможа страх, таго і прыдарожны камень абагрэе. Не з кніжак, з жыццёвага досведу цытата, калі б ты хацеў ведаць, – падказвае.

Толькі цяпер дастаю з-за пазухі кніжку.
– Вось і яна. Зносілі старую хату, шмат чаго пайшло ў сметніцу, а яе баба Вера выкінуць не дазволіла.
Дзедавы пальцы гладзяць вокладку, асцярожна дакранаюцца да залочаных, пукатых літараў. Die Malerei der Renaissance. Няўжо і нямецкую вывучыў там, у нябеснай бібліятэцы, куды паслаў я яго сваімі наіўнымі, творчымі памкненнямі?
– Чаму якраз яна? Там, на вуліцы было напэўна шмат іншых кніжак, на зразумелых мовах, а ты прыгарнуў у заплечнік якраз яе?

– Не ў заплечнік. Не было ў мяне заплечніка, – усміхаецца дзед. – Быў мяшочак, сухі хлеб і суконныя нагавіцы ў мяшочку. У саракавым прыхапіў іх з сабой і, як не дзіўна, удалося зберагчы. А чаму гэтая кніжка? Ляжала крыху воддаль ад астатніх, малюнкі спадабаліся, каляровыя. Ты звярнуў увагу? Малюнкі прыклееныя да старонак кніжкі. Не надрукаваныя разам з літарамі, а менавіта наклееныя, як фатаграфіі ў альбом. Трыццаць восьмы год выдання, той год, калі мы паставілі хатку ў лесе, на беразе возера. І тут яшчэ паглядзі, на дзевятнаццатай старонцы малюнак з правага боку. Глянуў, а мужчына на партрэце кропля ў кроплю мой дзед Мацвей. Цяпер ведаю чый партрэт і хто пісаў яго, а тады – Мацвей, як жывы. Закінуў кніжку ў мяшок і пайшоў. Добра ішлося з дзедам за плячом. На Дзяржынск, адтуль у Баранавічы, з Баранавіч праз Жыровічы  ў Ружаны, у Каменюкі. Па гэтай дарозе я ў дваццатым годзе вяртаўся з бежанства. Толькі Дзяржынск тады Койданавам звалі. Палякі біліся з бальшавікамі, а я ішоў насустрач іхняй вайне. Куды ішоў? У Расію? Яе ўжо не было. У Польшчу? Пра яе ніколі не чуў. Дамоў вяртаўся. У Каменюках пачуў сябе як дома. Прайшло гадоў дваццаць і зноў той жа шлях, і вайна, толькі цяпер немцы біліся з саветамі. І ў Каменюках немцы перайшлі дарогу. Адзін, сілезец па-мойму, па-польску размаўляў. Хто я, пытаюць, адкуль іду, далоні праверылі, ці не мяккія, як у камісара якога, або іншага афіцэра. Дакументы дай. А якія ў мяне дакументы? Рабаціністы, худы немец зняў з пляча аўтамат і гергеча. Я так зразумеў, што расстраляць прапануе. Шчоўкнуў замком аўтамата, раз і другі, разглядаецца, быццам шукае месца, дзе б паставіць мяне. А той сілезец пакорпаўся ў маім мяшочку і дастаў гэтую вось кнігу на нямецкай мове. І пытае, навошта мне яна. Кажу, што знайшоў у дарозе.

Там на дзевятнаццатай старонцы чалавек на дзеда майго падобны. І яшчэ кажу – нямецкую вывучаць трэба, цяпер яна найважнейшая. Адкуль мне прыйшла ў галаву хітрасць такая, пра мову нямецкую, не ведаю. Сілезец пераклаў, немцы пасмяяліся, адпусцілі.

Адчыняю кнігу на дзевятнаццатай старонцы. Мужчына гадоў пяцьдзесят глядзіць на мяне знаёмым позіркам.
– Граф Бальдасарэ Кастыльёне, тут напісана. Хто ведае, можа жыццё табе выратаваў? Кажаш, ён падобны на твайго дзеда Мацвея?
– Так мне застаўся ў памяці. У пятнаццатым годзе мы пайшлі разам у бежанства. Удваіх, я і ён. Пан Рот, што ў Вярховічах быў, даручыў нам статак кароў сваіх і сказаў ісці на ўсход. І пайшлі. На Слуцк пайшлі, там нас павярнулі на поўдзень, на Мазыр, адтуль на Украіну. За Харкавам разлучыліся і ніколі больш яго не бачыў. Я завандраваў аж за Маскву, на Волгу і вярнуўся, ён не. Хто ў той час прайшоў Расію, той прайшоў свет, ніякая дарога не страшная.
– Мне здаецца і я яго раз адзін бачыў. Вочы сапраўды, як на гэтым партрэце, стомленыя і сумныя. Барада, вусы такія ж, нос крыху падобны. Толькі адзенне зусім не тое.
– Ты бачыў? Дзе?
– Тут, пад нашай ліпай. У той дзень калі яе зрэзвалі.
– Ён першы пасяліўся ў Войнаўцы. Прыйшоў з Вярховічаў за працай, ажаніўся, паставіў хатку на гэтай пасажнай зямлі. Пасля бежанства застаўся ад яго толькі пусты двор. А ліпу ён пасадзіў, у дзевятнаццатым стагоддзі. Студзеньскае паўстанне якраз было.
– І ён у гонар загінулых паўстанцаў яе пасадзіў?
– Пасадзіў дрэва, каб прыгажэй хатка глядзелася. Нічога ён не ведаў пра тыя паўстанні. І я няшмат ведаю, от тое,

што крайком вока зачапілася, калі лістаў тыя спаленыя кніжкі.

Лістаю кніжку, папера аддае пахам пылу, вільгаці і пажарышча, перамешаных і спрасаваных хадой часу ў адзін, неразлучны пласт. Калі пальцы выпадкова дакранаюцца да вуснаў, адчуваецца горкі смак трыццатых гадоў мінулага стагоддзя.

– Слухай, – кажа дзед – а не прагуляўся б ты ў Мінск? Не пашукаў бы дома з чырвонай цэглы на вуліцы Энгельса? Невысокі, паверхаў тры, не больш. Цікава, адбудавалі ці не? А можа ўдалося б даведацца, хто жыў там у сорак першым? Цікавыя, напэўна, людзі, калі такія кніжкі трымалі на паліцах.

Мінск, вуліца Энгельса. Іду з дзяўчынай, шукаем дом з чырвонай цэглы. Яна адсочвае адзін бок вуліцы, я другі. Час ад часу зазіраем сабе ў вочы і на той кароткі міг прастора робіцца празрыстай, як шкло, знікаюць людзі і дамы. Вясна? Лета? Можа восень? Не зіма. Дакладна не зіма. Зімовыя дні абмінаюць маю памяць, ідуць цераз мяне, як чыстая вада праз сіта, не затрымліваюцца. Толькі тыя дні з далёкага дзяцінства, калі хадзілі мы з дзедам Алімпеем у пушчу шукаць дрэва, што завалодала паловай неба, толькі яны часам вяртаюцца. Надта зялёны Мінск, лета хутчэй. А якая дзяўчына? Ростам ці не вышэй за мяне, валасы, здаецца, яркія, аранжавыя, калі павее ветрык злёгку казычуць маё вуха. Не магу ўлавіць яе твару ні імя, але ж было такое. Калі? Не ведаю. Некалі. У другім жыцці? Карціна мільгае ў галаве і згасае. Намагаюся ўзнавіць імгненне, вярнуць, прыгледзецца вуліцы і дзяўчыне. Хапаюся за пах ейных валасоў, прызываю іх

колер, выклікаю з цішыні тэмбр яе голасу, бягу ўслед за рэхам нашых крокаў. Дарэмна. Нямое ўсё, сляпое і глухое.

– Чаму б не, магу пад'ехаць. Ёсць знаёмыя, пакажуць, падкажуць.

– Ну вось, – усміхаецца сваім думкам, гладзіць высокія халявы. – А цяпер прабяжыся праз вёску, правер, ці ўсё стаіць на сваім месцы. У другі канец сходзі, на Даліну, у Мелянін. Выручы старога, на тое ты ёсць, – падморгвае, спаглядаючы з-пад брыля на мае сівыя валасы. – А мне яшчэ адну “беламорыну” пакінь. Узяў бы пачак, але з сабой нельга. І кнігу пакінь. Абсмаленую вокладку пачысцім, след не застанецца. І пах пажарышча прыбярэм, драбяза.

Адыходжуся на крокаў дваццаць, калі чую за спіной: Ад Палічнай хмара ідзе, неўзабаве заслоніць месяц. А ты цемры не бойся, па сваіх слядах хадзіць можна хоць з заплюшчанымі вачыма.

Мінаю па дарозе мёртвыя вулічныя лямпы і пачынаю разумець, чаму тым, хто ноччу абыходзіць вёску з канца ў канец, не прапусціўшы ніводнага двара, ні задворка, ні саду, святло лішняе. Доўга пісаліся папілярныя лініі вясковай брукаванкі, а камяні, людскімі ступнямі забітыя ў зямлю, яны як цвёрдыя брыльянты і не сцерці іх коламі машын, не прыкрыць чорным асфальтам.

Дабіраюся на Даліну, зазіраю ў Мелянін. За Мелялінам вуліца заканчваецца. Уліваецца ў дарогу, што праз лес, зігзагам кіруе ў вялікія гарады, туды, дзе святло на вуліцах не згасае ні ў дзесяць гадзін вечара, ні апоўначы.

На дарозе ў горад, зараз за Мелянінам, густой сцяной бэзу стаіць мяжа нашага рэвіру. Далей мне хадзіць не трэба. Вяртаюся. Бачу, як на раззораны выган неба выплывае статак белых воблакаў. Наперадзе крочыць пастушок і, задзёршы галаву, доўгім кійком пабразгвае па званочках зор. Пад ногі глядзі! – хочацца закрычаць, але ўжо позна. Босая ножка пастушка зачапілася за медзяны саган, у якім добрыя анёлы вараць атрамант для ўсіх малышоў, што ў дзяцінстве, з-за памылак дарослых не змаглі схадзіць у школу. Саган перакуліўся на бок, атрамант ліецца на воблакі і на дрэвы, на дахі дамоў і на асфальт вуліцы. Паглыбляюся ў атрамантавую ноч як у мінулае дзяцінства. Заходжу па пояс, па шыю, яшчэ крок і абярнуся ў атрамантавую пляму. Ці можна вярнуцца назад і выправіць свае ўласныя памылкі? Можна, цяпер можна, – выдаўжаю крок, прыспешваю, бягу падзяліцца радасцю з дзедам Дзмітрыем. Але яго ўжо  на лавачцы няма. На дубовай дошцы паблісквае месячны пыл, побач на пяску бялее акурак “беламора”. Падымаю яго, заціскаю ў далоні. Яшчэ цёплы.

# III. ДОЎГАЯ НОЧ

## *1.*

*Не апошні дзень снежня, як прынята па ўсім свеце, а вось яна, золатавалосая восень, зачыняе кожны мой чарговы прабег вакол сонца. Паварочваюся спіной да вераснёвых поранкаў, замглёных усё яшчэ цёплым дыханнем адыходзячага лета, пераступаю парог кастрычніка і чую, як там, у мінулым, паскрыпваюць дзверы. Кожны дзень прычыняе іх, смуга накрывае прастору, халодны вецер падрэзвае крылы сонечным промням. І сонца спадае ўніз непадалёк горада, не дацягваючы да заходняй сцяны. Лістапад зрывае апошні лісток, межавую картку з майго асабістага календара.*

Няма ў Беластоку дамоў высокіх на дваццаць, трыццаць паверхаў, таму і неба стаіць тут куды ніжэй, чым неба над Мінскам. Сёння, апранутае ў кудлатыя воблакі, здаецца сыходзіць яшчэ бліжэй да зямлі, чым у летнія, сонечныя дні. Мае вочы лягаюць на вялікіх пялёстках ліпавай лістоты і позірк ляніва з’язджае ўніз.

– Ці не прадаць гэту кватэру і не вярнуцца дамоў? – кажу, перабягаючы зрокам вуліцу.
– А тут не дом? Дзе ён, калі не тут? – пытае Коля.

– Тут усяго толькі кватэра. Тут час прошлы і час будучы сыходзяць на абочыну, саступаюць месца цяперашняму. Жывеш, абы жыць. Дома цяперашняя хвіліна не чужаецца з мінулай, заўтра нараджаецца сёння, мінаюць дні, мяняюцца поры года, а ўсё застаецца на ранейшым месцы. Заплюшчваеш вочы, жоўтым лісцём клён праводзіць у вырай птушку, вочы расплюшчваюцца і тая ж птушка ўе гняздо ў зялёнай клёнавай кроне.
– Гэта ты, ці радкі з кніжкі? Дарэчы, як яна? Лістапад на падыходзе, рэдагаваць пара, ды і дызайнеру трэба запусціць вока ў тэкст, каб з вокладкай падстроіцца, – цікавіцца Генік. – Апошнія дні лістапада, пачатак снежня, такі тэрмін я дамовіў з друкарняй.
– У прынцыпе ўсё ёсць, выгладжваю. Старонак дзвесце, як дамаўляліся. Лішняе рэдактар хай выдаляе, трымаць зубамі не буду, – усміхаюся, узгадваючы першую сваю кнігу, дзе кожнае слова, кожны радок выяўляўся мне самым важным, без чаго ўсё астатняе губляе сэнс. Нармальная хвароба маладых аўтараў, што за народжанае сабою слова гатовыя стаяць да апошняга, як за роднае дзіця. – Некалькі дзён і аддаю рэдактару.

Цераз некалькі дзён, можа тыдняў праз два, або і тры, у залежнасці ад надвор'я, завершыцца мой прыватны, унутраны год. Зайду ў зімовы паўсон і застануся там да ранняга прадвесня. Каторы ўжо год зіма абыходзіць мяне шырокім колам, толькі часам, калі горадам завалодае пах калядных святаў, мне раптоўна хочацца ў лес. Пасноўдаць заснежанымі дарожкамі. Пачытаць лясныя сляды. Схадзіць у тое месца, дзе стаяла сасна, што цяпер жыве ў сценах маёй хаты. Карціць праверыць, ці побач з нежывым пнём падымаецца да сонца новае дрэва і куды паспеў ускараскацца зялёны чубок за мінулыя чатыры

дзесяцігоддзі. Тое новае дрэва, што на словы дзеда Алімпея, павінна было пачацца з кроплі жывічнай крыві. Але мяняецца лес. З месца на месца перасоўваюцца дарожкі і ў думкі навейваецца сумнеў, ці патраплю туды, ці знайду зваротную сцежку.

– Давайце сходзім у “Кастэл”, – чую спакойны бас Алега. – Мне падабаецца сесці там і глядзець, як у маленькім струменьчыку цячэ вада.

– Даўно не было цябе дома, – кажа сусед. Мы спускаемся з трэцяга на другі, ён падымаецца на свой і мой чацвёрты паверх. – Тут нейкія людзі да цябе грукаліся. Адзін быў, затым другі і трэці.
– Праўда, не было мяне тыдні два. Якія людзі?
– Адзін у тваім узросце, астатнія маладыя. Як на маё вока, не беластоцкія, вясковыя па-мойму.

За пабам “Кастэл” пад парасонамі хаваецца ад вулічных позіркаў невялікі агародчык. Драўляныя столікі расстаўляюцца ў два рады на драўлянай пляцоўцы, па правы бок ад уваходу паплёсквае штучная рачулка. З рэзервуара, закапанага ў зямлі, электрычная помпка дастае струменьчык вады і скідвае ў русла, вызначанае людскімі рукамі. Для прыгажосці і дзеля падману вачэй берагі абкладзеныя камянямі, абсаджаныя экзатычнымі травінкамі і кветкамі. Вада шапаціць бестурботна, праціскаецца між камянёў, спадае каскадам уніз і бяжыць далей. Знікае з вачэй за вуглом будынка. Дзесьці там, пад зямлёй чакае ваду другі рэзервуар і другая помпка пераліе яе да пачаткаў кароткай дарогі.

А мне прыходзіць на думку нашая рэчка. І яна пачынаецца недзе за Палічнай такім жа маленькім струменьчыкам. Бяжыць цераз поле і гай, далучае да сябе такія ж нічога нявартыя струмкі, а ў выніку пашыраецца, таўсцее, вырастае з дзяцінства ў маладосць, абжываецца рыбай, і ракамі. І ўжо на хвалях сваіх нясе адказнасць за вастраносых шчупакоў, за мянтузоў шыракагаловых, за неасцярожных коблікаў, што статкамі выходзяць на мель, палюбавацца летнім сонцам. Рэчка прыпыняе крок і губляе дзіцячую бесклапотнасць. Брыду ад берага да берага па пояс у вадзе, падрастаю, вада сягае да паловы сцягна, да каленяў. Расту з мэтай скарыць ваду. Аднойчы разганяюся і адным скачком дасягаю другі бераг. Рэчка пакорліва зводзіць плечы, сцішаецца ў рачулку.

– Бяжыць вада і не здагадваецца, што прывязаная да аднаго месца, паўтарае адзін і той жа шлях, – кажа Алег.
– Ходзіць колам, як конь у манежы. Няма чаго зайздросціць, – смяецца Коля.
– Туды пад сонцам, назад пад зямлёй, – у Генікавым голасе азываецца сумная нотка.
– Як беларусы ў Беластоку. Вада выпароўвае і ваду даліваюць. Мы выпароўваем і разыходзімся ў паветры. Пад сонцам у зямлю, – глядзяць на мяне і цераз мяне, цішыня накапляецца пластамі, як заўжды там, дзе словам не сказаць нічога новага і не змяніць мінулага. Вада бяжыць, спадае на камяні, рассыпаецца, пазвоньвае як паддужныя званочкі на зімовым даляглядзе. З першымі замаразкамі ўласнікі пабу адключаць помпку і апошнія кроплі сцякуць у свой падзямельны вырай.

Позна вечарам вяртаюся дамоў. З усходу наўпрост у твар дзьме халодны вецер. Неўзабаве на крылах гэтага ветру

насунуцца снегавыя мяцелі і камунальныя службы пачнуць чысціць вуліцы і тратуары. Снег перамешаны з соллю папаўзе бруднымі, рудымі плямамі, як кроў перамешаная з жоўтым пяском. Соль раз'ядае старыя шрамы і крывавіць вуліца. А на маёй вясковай вуліцы пад чорным асфальтам дрэмлюць чыстыя, польныя камяні. "Ці не прадаць гэтую кватэру і не вярнуцца дамоў?" – чарговы раз вяртаецца пытанне.

Хто мяне шукаў высветлілася пад поўнач. Званок у дзверы, адчыняю, стаяць на парозе ўтраіх. Владзё Мілысын, Пётрусь Малы і Марэк.
– Здароў настаўнік, – вітаецца Владзё.
– Здароў настаўнік, – рэхам паўтараюць Марэк і Пётрусь. Можна зайсці?
Асцярожна пераступаюць парог, разглядаюцца, не хаваючы цікаўнасці.
– Значыць сюды ад нас збег, – твар Пётруся Малога расыходзіцца ў радаснай усмешцы. – Ледзь знайшлі. На мінулым тыдні шукалі ў Войнаўцы. Зайшлі вечарам, а там пустая вёска. Яшчэ не пагасла вулічнае святло, а ўсе вокны цёмныя, нат сабака нідзе не забрахаў. Бачым, дзед сядзіць на лавачцы побач з тваёй хатай.
– Дзед? Гадоў пяцьдзесят, сярэдняга росту, шырокаплечы? Вусікі чорныя?
– Не, зусім не такі, – пярэчыць Пётрусь. – Хударлявы, барада сівая. Пытаем што і як, дзе тут Мішу шукаць, а ён глядзіць на нас і не здагадацца – чуе, бачыць, ці зусім глухі-сляпы. Маўчыць і кіёчкам выкрутасы крэсліць на пяску.
– Кіёк лакіраваны, з гнутай ручкай? – у галаве мільгае думка пра дзеда Алімпея. Няўжо ён? Заходзіў на мінулым тыдні, пасядзеў на лавачцы і не наведаўся да мяне?

А чым быў заняты я?
– Ручка дакладна, гнутая. Ці лакіраваны кіёк? – Пётрусь абводзіць астатніх пытаючым позіркам.
– Цёмна было, не прыгледзеўся, – паціскае плячыма Марэк. – А дзядок старэнькі, як свет. Маўчаў і маўчаў, у рэшце рэшт пачаў нешта казаць пра нейкае дрэва, пра ліпу да воблакаў, што дзецюка накрыла кронай, пра высокі дом у вялікім горадзе далёка адсюль. Якая ліпа, які дом так і не зразумелі.
– Як тут мяне знайшлі?
– У Владзя жанчына была ў Беластоку. Часам па прывычцы наведваецца сюды. Аднойчы згледзеў цябе на Ліпавай вуліцы і пайшоў следам.

Колькі гадоў не бачыў іх? Каго дзесяць, каго больш за дваццаць. Гляджу твары – гладкія, без маршчын, паружавелыя ад восеньскага холаду – і ўзнікае ўражанне, што ад апошняй сустрэчы яшчэ месяц не мінуў.

– Пасівеў настаўнік. І кілаграмаў прыбавілася, – усміхаецца Владзё. – А мы па справе прыйшлі. Трэба матч пасудзіць.
– Матч?
– У кожнага з нас застаўся адзін матч. Адкладзены. Адзін, не паспелі. Выйграць ці прайграць, не мае значэння. Пасудзіш? Як некалі. Ты заўсёды справядліва свістаў. Усе нашы хлопцы будуць, – рухавы як даўней, выкідвае з сябе словы – хутка, кароткімі сказамі.
– Даўно не гулялі. Колькі ўжо? Гадоў дваццаць пяць? Больш? – гляджу на іх і ў галаве ўецца ўюном, выслізгвае з пальцаў назойлівае пытанне: што не так? Якая струна, якія ноты не сыходзяцца з запісанымі ў памяці акордамі?

– Пры чым тут гады? Мы зможам і ты зможаш. Валасы сівыя, кілаграмаў больш, ладна. І што, не справішся? Справішся, – Пётрусь Малы пасылае мне дзіцячую ўсмешку, хітра падморгвае чорнае вочка. І ўжо ведаю: ніколі раней не звярталіся да мяне на “ты”. Чаму цяпер так? Не, не шукаю адказу на гэтае пытанне.
– Зможаш. Уладзя і Славіка на бакавых паставім, дапамогуць, – настойвае Марэк.

Паварочваюся тварам да акна, бачу іх у чорным шкле. Тры нямыя фатаграфіі, наклееныя ў начны альбом сочаць за маімі жэстамі.

– Хлопцы, там жа нічога ўжо няма. Даўно няма. Ні школы вашай, ні варотаў, ні пляцоўкі. На пляцоўцы дом стаіць, нат не ведаю чый.
– Мы таксама не ведаем чый і адкуль. Дом якраз не праблема, прыбярэм на той час. І вароты будуць, наш клопат, каб былі. А школа стаіць, сцены і дах ёсць. І пакойчык твой падрыхтуем, каб было дзе пераапрануцца, як даўней.
– Згода, – ківаю галавой, не зводзячы вачэй з аконнага шкла.

Як даўней... Пачыналі ў сакавіку, калі яшчэ толкам не паспяваў сысці апошні снег. Запіхвалі веснавое дыханне зямлі ў сферычную форму і пускаліся бегма за водарам натуральнай скуры – далёка, у ліпеньскія раніцы, у жнівеньскія пасляпоўдні, у вераснёўскія адвячоркі. Гулялі заўзята, да сутаргі ў нагах, да шчыльнага зліцця з зялёнай травой. І да сумеснай стомы, з якой нараджаюцца сумесныя мары – роўныя для ўсіх.

– Згода, выйдзем на пляцоўку апошні раз, – паўтараю.
– Калі?
– Першая веснавая поўня, – Марэк ступае крок наперад і цяпер удваіх глядзім у акно. Як і тады, у школьныя гады чубком валасоў сягае мне да пляча.

Чаму гэтая ноч? Не пытаю іх. Можа таму, што неўзабаве пасля першай веснавой поўні наступае час дзіваў? З зямлі выходзіць трава, з сонечных промняў завязваецца кветка, птушка вяртаецца ў неба. А некаторыя людзі кажуць, што нерэальнае бярэ верх над рэальным і першы чалавек устае з мёртвых.
– Згода, – паўтараю трэці раз. – Ідзіце ўжо, зіма на падыходзе, мне трэба спаць. Дзе шукаць вас калі б у мяне была да вас справа?
– У думках сваіх. Бо дзе яшчэ, калі не там? – кажа Владзё.
– Толькі там. Падумаеш, будзем, – ужо на выхадзе пацвярджае Марэк. І зачыняе дзверы.

Поўня разбівае тэрмометр ночы і размалёўвае неба халодным срэбрам ртуці. Пасля доўгага зімовага сну ў настаўніцкім пакоі ізноў пераапранаюся ў спартыўны касцюм. Некалі па ўсёй школе ляжала драўляная падлога і калі з настаўніцкага праз калідор я выходзіў на вуліцу, на кожны мой крок дошкі адгукваліся скрыпеннем, распавядаючы кожная сваю гісторыю. Гэтай падлогі даўно няма. Іду праз цішыню з заплюшчанымі вачыма і баюся расплюшчыць іх. Калі прыадчыню павекі, ці не разбурацца вокны і дзверы, і столь? А сцены, калі дакрануся да іх позіркам, ці не знікнуць, не разыдуцца, як кругі на вадзе, ды і вада тая знікне скрозь пясок?
Белыя сузор'і гуляюцца месяцам у выбівалы, мае хлопцы саслізгваюць доўгім рукавом Малочнага шляху

і падлавіўшы зручны момант, падкрадваюць сузор'ям месячны мячык, як у дзяцінстве і недаканчанай маладосці падкрадалі яблыкі з суседскіх садоў.

На пляцоўцы, некалі зялёнай і роўнай бы стальніца, чужыя людзі, што аднае раніцы з'явіліся сюды няведама адкуль, збудавалі дом. Канешне, замінае чужы дом на сваёй зямлі, але ж хлопцаў шмат, маладыя і дужыя, а ён і не такі ўжоаграмадны, як малюецца ў дзённым святле. Хто за падрубу, хто плячом у зруб, заціснуць зубы, напружаць мускулы і нясуць гэту будыніну з яе спячымі гаспадарамі за вёску, пад лес, дзе прастаіць да золку. Нясуць асцярожна і бясшумна так, што з павуціны чужынскага сну не сарвецца ні адна нітачка.

Бачу іх зводдалі. Ёсць Марэк – маленькі ростам непаседа, жвавы, як ртутны шарык, і высокі, хударлявы Ярэк, і наліты мускуламі, бы класічны барэц Ярaслаў. Ёсць прысадзісты Пётрусь Малы і другі Пётрусь, той, што з-за дзіцячай усмешкі і задзёртага носіка атрымаў некалі мянушку Пінокіо. Некалькі крокаў убок адыйшоўся плячысты самотнік Ясь Капэля. Ёсць два старэйшыя браты Пётруся Малога – Генё і Славік, далей Кшысё, і Владзё Мілысын. З Владзем і Славікам мы аднагодкі і свой матч даўно адгулялі. Даю ім сцяжкі бакавых суддзяў і, пакуль адправяцца на месцы, пытаю:
– Усе прысутныя?
– Усе, правяраў, – кажа Владзё.
– А той вунь у святочным касцюмчыку, што за варотамі топчацца з нагі на нагу, хто ён і чаму не пераапранаецца?
– Яго якраз ты можаш не ведаць. Калі мы з табой бегалі за мячыкам, ён пехатою пад стол хадзіў. Ды што я кажу, пад стол пехатою. Яго зусім яшчэ на свеце не

было. Смургаль.
– І ўжо паспеў туды?
– Ага. Гісторыя такая з ім атрымалася. Паехаў на ровары склікаць сяброў у госці. Да васямнаццатага дня народзінаў. Сябры частавалі і частавалі, і частавалі, і ноч сцежкі пераблытала, і ровар згубіўся. І заснуў на шпалах паміж рэйкамі. Пасля мы яго са шпалаў паднялі, але цягнік ужо прайшоў. Ён з тваімі хлопцамі не гуляў і не ведае – можа далучыцца, ці не? – Славік глядзіць на мяне і бачу пытанне ў ягоных вачах.
– Скажы, хай пераапранаецца. Дакладна ўсе ёсць?
– Усе да аднаго.
– Няўжо Олек з’явіўся? – дапытваю і чую, як у жылах пульсуе кроў. Олек адзіны з іх усіх, хто птушкай растаў у чыстым паветры, не паставіўшы за сабой канчатковай кропкі. Зайшоў у хвалі Міжземнага мора і больш яго не бачылі.

Кажуць, з усяго, што жыве толькі птушкам удаецца дагнаць мяжу паміж учора і сёння, прысесці там і надалей ляцець наперад. Таму няшмат мёртвых птушак людзі знаходзяць на зямлі. І з цягам часу я пачаў верыць, што Олек сапраўды перамяніўся ў птушку, і засунуўшы пальцы ў грыву часу, заціснуўшы іх моцна-моцна, ляціць, і ніколі не ўпадзе на зямлю.

– Олек ёсць, – пацвярджае Владзё. Разгортвае сцяжок, страсае нябачны пыл і ідзе на бакавую лінію.

Часам на могілках, напярэдадні Правадной нядзелі натыкаюся на цётку Аню.
– Не, яшчэ не вярнуўся – уздыхае і разводзіць рукамі. – Толькі ўчора, здаецца, было, як складаў рэчы,

выпраўляўся на мора. Людзі кажуць, бачылі ягоныя сляды і там, і сям, і нават на другім беразе гэтага мора. Я ездзіла паглядзець тыя сляды, але пакуль даехала, усё засыпаў дробны пясок.

Іду прывітацца з Олькам. Не пытаю дзе быў і чым займаўся апошнія трыццаць гадоў.
– У нападнікі цябе пастаўлю, як калісьці. Зможаш?
– Не ведаю, даўно не гуляў, але пастараюся.

Пётрусь Малы прысеў на кукішках і гладзіць далонямі пакрыццё пляцоўкі. Падымаецца, падэшвамі буцаў шоргае наперад і назад, шрамы за каўчукавымі шыпамі адчыняюцца і зачыняюцца, як вада ў рэчцы, калі яе парэзаць вастрыём нажа.
– Паглядзі, некалі тут была трава. А гэта ж не трава, што гэта?
– Што гэта? – я ізноў настаўнік і мне трэба ведаць адказ на кожнае вучнёўскае пытанне. Але не ведаю. Ці ёсць у свеце настаўнік, які б ведаў з чаго анёлы ткуць пакрыццё пляцоўкі, калі пры поўні, хлопцам, што ніколі не сталі мужчынамі, захочацца згуляць у футбол залатым мячом месяца? І ці ёсць яны сапраўды, тыя анёлы? – Па-мойму гэта сінтэтычныя воблакі. Цяпер жа ўсё сінтэтычнае – кажу, хаваючы няўпэўненасць.

Іду ўздоўж бакавой лініі, правяраю сцяжок у кутнім сектары, паварочваю да варотаў. Паміж стойкамі брамнік Ярэк займаецца размінкай.
– Усё нармальна? – пытаю. – Я чуў, што ў цябе былі праблемы з сэрцам.
– Былі, – Ярэк ківае галавой, але рухацца ад стойкі да стойкі не спыняецца. – Доктар казаў: ты Яраслаў гарэлку

піць пакінь і ўсё будзе добра. Казаць лёгка, а вазьмі не пі, як усе п'юць. І што тут рабіць, калі не піць? Ад нуды можна памерці. Як думаеш, лепей ад нуды паміраць, ці ад гарэлкі? – зазірае ў вочы з хітраватай усмешкай.
– Ну, я не ведаю, табе там відней, – кажу і таксама ўсміхаюся.
– А я ўжо больш не п'ю. У нас там ніхто не п'е. Ні Пётрусі, ні Кшысё, ні Ясь Капэля. Усе цвярозыя як шкельца. Хукнуць можам, а то не паверыш, – кажа Ярэк. Бярэ разбег, адштурхоўваецца ад белага газона, выструньваецца і ў палёце прыбівае пяць пальцаў на папярэчніцы варот.

Наперадзе, там дзе сярэдняя лінія дзеліць поле на дзве паловы, Генё і Олек абмяркоўваюць стратэгію на першы выхад. Олек схіляецца, папраўляе гетры і шнураванні боцаў.
– Настаўнік – кажа Генё – так нам хацелася згуляць гэты матч, так вельмі хацелася, а супраць каго нам гуляць? Там жа, на другім баку пляцоўкі толькі імгла, там няма нікога.
– Супраць вечнасці, хлопцы. За сябе супраць яе гуляем, – чую, як пафас, падстроены пад бездань начной поўні, азываецца маім голасам. Мне не падабаецца гэты голас, але і губляць час на спрэчкі не хочацца. Даю першы свісток і месяц перамяшчаецца на другую палову поля. Вандруе ад нагі да нагі, з левага фланга на правы, ад Пётруся Малога да Геня, ад Кшыся, да Пётруся Пінокіо. У цэнтры наўпрост варотаў залаты мяч пераймае Марэк, завілістым дрыблінгам урываецца ў штрафную плошчу, перадае Ольку, той, не зводзячы вачэй з мяча, з усяе сілы б'е па варотах. Залаты месяц няўхільна шыбуе ў крыжавіну варот, адбіваецца ад папярэчыны, узлятае да нябёсаў і, абіраючы траекторыю знічкі, вяртаецца

у нашае штрафное, дзе даскоквае да яго Ясь Капэля. Дужы, каржакаваты, як і трэба быць стоперу, прымае мяч на грудзі, апускае на левую нагу, падбівае на вышыню калена і правай прабівае далёка, над галовамі паўабаронцаў, пад ногі нападнікам.

Хлопцы разрываюцца на часткі, перадача ідзе за перадачай, маланкава і беспамылкова, мяч, як верны сабака лашчыцца да буцаў і толькі калі ўдарыць па варотах, бунтуецца, адмаўляецца перасячы лінію, працягнутую ад стойкі да стойкі.

Бягу наперад, вяртаюся, паварочваю налева, направа, не губляючы мячыка з поля зроку. Бягу і здзіўляюся лёгкасці і паслухмянасці свайго цела. Чую як кожны крок здымае са спіны жменю часу, распранае твар з маршчынак, нацягвае скуру на шчоках і вакол вачэй, напінае цяглі-цы і яны, як спраўная цяціва пускаюць мяне стралой да зорнага неба. Прыгладжваю пальцамі змакрэлыя валасы і маю ўражанне, што валасы гусцеюць, вяртаецца даўно загубленая пружыністасць, а месячная поўня счэсвае ў нябыт халодную сівізну. Бягу і шкадую, што ў кішэнях маёй спартыўнай вопраткі не знойдзецца маленькае люстэрка. Мне хочацца зазірнуць у срэбнае шкельца і ўбачыць сябе даўняга, бестурботнага, дваццацігадовага.

З хвілін вырастаюць гадзіны, белы, сінтэтычны газон напухае, таўсцее, абяссільвае лыткі, даходзіць да пояса, да шыі. То тут, то там, як у запавольненым сне ўзлятае па-над воблакам залатая манетка мячыка. І можна падумаць, вось, нябачны ўладальнік часу робіць выгляд, што ёсць у яго выбар, можа спыніць стрэлкі гадзінніка, можа запусціць іх у новы дзень, але разгубіўся, не ведае, што рабіць і кідае жэрабя.

Яшчэ адзін удар, месячны мяч, слізгануўшы крайком па папярэчніцы, ляціць далей, над далягляд і завісае там.

– І згулялі ўнічыю, – дзесьці з глыбіні воблакаў далятае Славікаў голас. Апошняе слова доўжыцца, глухое ю-ууу расцягваецца на ўсю даўжыню вуліцы і згасае за вёскай, у абсыпаных расой хмызняках.
– Нармальна. З вечнасцю ні прайграць, ні выйграць у яе. Толькі ўнічыю можна згуляць з вечнасцю, – хачу сказаць, але воблакі стаяць ужо вышэй галавы і загортваюць у ціш усе словы.

Новы дзень над пушчай праціраe вочы парчовым ручніком, ніткі пражы рассыпаюцца на ўсходняе неба бліскучым макам. Іду дамоў. Праз вуліцу з прадуктовай крамай, пад старымі грушамі падлеткі абселі драўляны стол дрымучай, учарашняй калодай. Бутэлькі з-пад віна грэюць абымшэлыя начной расой хрыбты ў першых праменнях. Не спыняюся. Не ведаю іх, замаладыя. З воддалі даходзіць гудок цягніка. Чую на спіне жаночы позірк. Пранізлівы, пякучы, як позіркі жанчын, што з Вострава слёз на рацэ Свіслач, прабіваючыся праз тоўстыя муры Мінска, сягаюць зрокам далей за гарызонт. Іх вочы і твары ў нічым не адрозніваюцца ад вачэй цёткі Ані. Прыкідваюся, што не бачу яе і паскараю крок. Не магу азірнуцца. Не магу спыніцца. Не магу сказаць цётцы Ані, што сёння ноччу мы з Олькам гулялі ў футбол. Не магу, бо ўсе маці ведаюць, што ў дарозе дамоў іх сыны гатовыя пехатой прайсці мора, над прорвамі ўзляцець і праз агонь прарвацца. І яны вернуцца.

Вяртаюся дамоў і краем вока ўсё яшчэ бачу залаты месячны мячык. За спіной застаецца Палічна, а ён сунецца

ўпоруч, зазірае мне пад ногі цераз правае плячо. Спыняюся я і спыняецца ён. Страсаю з вачэй ілюзію і знаходжу месячны мяч там, куды апошнім ударам над перакладзінай варот паслаў яго Олек. Вісіць знярухомелы, толькі паміж ім і маімі вачыма з усходу на захад бягуць воблакі – рэдкія, абшарпаныя, як кудзеля сарваная ветрам з калаўротка часу. Іду насустрач новай раніцы, а раніца, як і ўсе яе старэйшыя сёстры, паднялася ўжо з пасцелі за Баранавічамі і праз Жыровічы, і Ружаны набліжаецца да нас. Адчуваю стомленасць. Кожны крок загружае на маю спіну падвоеную жменю часу, закідвае на твар рыбацкую сетку і заходзяць у яе ўсе мае маршчыны, паголеныя лязом месячнай поўні. Яшчэ колькі крокаў і дабрыду да ростаняў. Дарога з поўначы на поўдзень з дарогай з усходу на захад сустракаюцца там на адзін кароткі міг і разбягаюцца на чатыры бакі свету. Пакуль павярну на поўнач, прысяду адпачыць у Клінку побач са старымі крыжамі. Мясцовыя абмінаюць гэтае месца шырокім колам, асабліва ў тыя цёмныя ночы, калі маладзік пераходзіць у ветах, а ростані заходзяцца дзіцячым енкам. Людзі стаўляюць крыжы каб заглушыць гэты енк і не ведаюць, што заглушыць яго немагчыма. Гэта наш дзіцячы плач над непазбежнымі памылкамі ўласнай будучыні.

*2.*

Першы дзень нашай першай вясны пагрукаўся ў акно сонечнымі промнямі. Яму хацелася як мага хучэй выцягнуць нас на вуліцу, правесці ў Траецкае прадмесце, паказаць Мінск  з яго лепшага боку.

Вясна ў пушчы выходзіць на свет доўгімі тыднямі. Ляніва спаўзае снег, марудна наліваюцца бярозавыя пупышкі і пройдзе яшчэ шмат дзён, пакуль адпусцяць на волю зялёную лістоту. Вясна ў пушчы не спяшаецца, бо навошта спяшацца, калі і так уся прастора дадзена для яе?
У вялікім горадзе вясна з'яўляецца раптоўна. З-пад зямлі, прыгнечанай валунамі хмарачосаў, выскоквае, як вада з фантана, за адну ноч абмывае вуліцы з апошніх лапікаў прычарнелага снегу і раніца раскладае зелень на ларках паркаў і скверыкаў.
Мне ўзгадваецца фантан Трэві ў Рыме і хочацца выйсці на вуліцу, кінуць у Мінск маленькую манетку, каб вярнуцца сюды праз год. А кіну дзве манеты, зноў сустрэне мяне каханне.

– Кава турка, ці марціні "б'янка" на прывітанне вясны?
– Кава. Марціні вечарам, – аднукнулася з ваннай, перакрыкваючы шум фена.

Зусім аголеная прайшла праз салон і спынілася ў светлым, перакошаным прамавугольніку, што цераз падаконнік ссоўваўся на дубовы паркет. Павернутая профілем да акна, падняла на далоні прыхоплены са століка яблык.

– Дасканалы шар. З такой дасканаласці павінен пачынацца чалавек.
– Думаеш? – веснавая раніца спакушвала перакінуцца жартам, паспрачацца з Юліяй. – Толькі мёртвы шар бывае ідэальны. Калі сапраўды тлее ў ім іскрынка жыцця, калі яна прачнецца, стане вылузвацца на свет, беззваротна знішчае ідэальную структуру. Толькі мёртвае здольнае захаваць дасканалую форму. – Вочы спыніліся на яе

валасах і мае ранейшыя намеры абарваліся на першым слове. Па той бок, што бліжэй да акна, валасы Юліі былі чырвона-аранжавыя, на другім баку, ахінутым цюлямі ранішняга паўсвятла, чырвань аддавала перавагу рудому колеру. Няўжо Прыгажосць і Каханне, дзве Грацыі зведзеныя да адной постаці рукамі першага веснавога дня? Каханне? Мне прыгадаўся невялікі замочак на дне заплечніка. У дарозе з Беластока ў Мінск, што задоўжылася больш за палову сутак, сталёвым вастрыём сцізорыка я паспеў нанесці на замочак два імёны. Ці толькі ад няма чаго рабіць?

– Пап'ем кавы і сходзім да аднае дзяўчынкі.
– Сяброўка твая?
– Сяброўка? Не, не сяброўка. Лепш сказаць – знаёмая. Сава ў яе цікавая. Як сядзе на плячо, так сядзіць і не зварухнецца, – вочы Юліі бліснулі хітрай усмешкай. Цягам апошняга года я паспеў вывучыць яе ўсмешкі і цяпер здагадваўся, чакае мяне зусім іншае, зусім не тое, на што спадзяюся.

Толькі пазней, калі мы апынуліся на месцы, ранішняя ўсмешка Юліі стала цалкам зразумелай. Я глядзеў на скульптуру дзяўчынкі з савой, бачыў яе рашучы твар, злёгку задзёрты падбародак, вось-вось расхіляцца вусны і пачую: не, я дачка Аляксандра і Аргумы.

– Ведаеш? Прыходзяць сюды маладыя паэты зрабіць свой выбар, прасіць сабе найважнейшае. Славу ў папараць-кветкі, багацце ў яшчаркі, мудрасць у савы. Канешне, не прызнаюцца, забягаюць хілком, хаваюцца ад пабочных вачэй, але заходзяць напэўна.

Не губляючы слоў Юліі, мае думкі слізгалі на кветкі папараці, на яшчарку, на каменны валун,  што на спіне трымае дзяўчынку, а пад сабой хавае тайны недаступныя для ўсіх, хто прыбыў сюды нядаўна, чапляецца рукавоў вялікага горада, прыкідваецца яго неад'емнай крывінкай.

Колькі разоў трэба паціснуць далоні вялікага горада, каб у бетонным холадзе знайсці жменьку цяпла? Колькі крокаў трэба паставіць, каб пераступіць дзверы ў таемныя сутарэнні магутнага Мінска, у падзямеллі, дзе карані горада пераплятаюцца з каранямі яго жыхароў, цягнуць сок з сумесна пражытых стагоддзяў?  Ці аднаго жыцця не мала?

Мы пайшлі па Старавіленскай вуліцы, знікаў за спіной музей Багдановіча, па левую руку шапацела Свіслач. Наперадзе, наўпрост з вады вырастаў невялікі востраў. Прышвартаваны да свету жывых гарбатым мосцікам, як дугой чорнай вясёлкі, манатонна, лагодна пакалыхваўся на вадзе. Такім калыханнем бацькоўскі дом праводзіць у сон шчаслівае дзяцінства.

– Востраў слёз, ведаеш? У памяць нашым хлопцам, што не вярнуліся з афганскай вайны, – Юлія прыпыніла крок, узяла мяне пад руку, прыціснулася да пляча. Так менавіта прытуляюцца адна да адной жанчыны, што на гэтым, закінутым у ваду лапіку зямлі, чакаюць сваіх хлопцаў. Мне падалося, што паміж іх я некалі бачыў і цётку Аню. Некалі? Бачыў, хаця ніколі раней тут не быў?

На падыходзе да мосціка я дастаў з кішэні замочак.

– Пакажы. Нашыя імёны? Гэта для чаго? – у голасе Юліі адчувалася здзіўленне.

– Павесім на парэнчы, хочаш? У Рыме ёсць такі незвычайны мост на рацэ Тыбр. Называецца Понтэ Мільвіа, а незвычайны тым, што ягоныя парэнчы ўгінаюцца ад замочкаў кахання. Колькі іх? Сотні? Тысячы? Не злічыць. Адзін знікае, на ягоным месцы з'яўляюцца два новыя.
– Але тут няма ніводнага, – абвяла позіркам парэнчы гарбатага мосціка.
– Пакуль няма. Можа нешта ў гэтым горадзе пачнецца з нас? Як?
– А ты меня любишь? – запытала, прыкінуўшыся дзяўчынкай.
– Ага!
– А ты со мной будешь?
– Ага!

Увесь учарашні вечар дзіцячы голас хадзіў за намі з салона ў спальню, са спальні ў ванную, ізноў у салон, і назад у спальню. Хадзіў і распавядаў нам пра хлопчыка, пра дзяўчынку, пра дожджык на вуліцы, пра адзін на дваіх парасончык.
"Што ёсць каханне?", пытае дзяўчынка. Ці ў дзіцячым свеце знойдзецца адказ на такое пытанне? А ў гэтым спелым, прыцярушаным пылінкамі восеньскага інею? Заўсёды?
"Так будем мы вместе, так будем мы рядом с тобою всегда"...

– Вешай, – кіўнула галавой.
– Назаўжды?
– Вешай, мне самой цікава.

Дужка замка зацiснулася на парэнчы, срэбны ключык плёснуў у Свіслач, як маленькая рыбка. Кругі разышліся

на вадзе і згаслі, не даходзячы да берагоў.
– Вешаць замкі кахання на мосціках праз Лету, няправільна, – за спіной пачуўся голас.

Незнаёмы чалавек стаіць – не магу разабрацца – ці то на беразе, ці то на вадзе, чорны халат даўжынёй у паўлыткі, кепка з казырком, у правай руцэ кіёк з загнутай ручкай, быццам на адну хвіліну саскочыў з якогасьці малюнку.

– Не хвалюйся, я толькі ў пералёце з Парыжа ў Віцебск. Санці прасіў зірнуць за табой, штурхануць у спіну. Сказаў: "Не штурханеш, вельмі марудна ідуць у іх справы. Можна б падумаць, на трыста гадоў жыццё закладзена".
– Перадай, што ўсё нармальна. Бліжэйшымі днямі паклічу яго.
– Ну, пачакаем. Як па мне, можа быць праблема. Дарэчы, ты сапраўды даў веру, што можна паскорыць час, або спыніць яго і звесці восень з вясной?
– Пры чым тут вера? У каханні ўсё адбываецца само з сябе, або не адбываецца ніколі. І што тут зводзіць? Няўжо вянчаць нас задумаў? – словы высунуліся з мяне міжвольна, цераз шчыльна зашпіленыя вусны, але незнаёмы чалавек улавіў іх.
– Ладна, не піражывай. Дражнюся. Для тых, хто верыць у казкі, жыццё – казка. Толькі лішне прышпільваць каханне да мосціка праз Лету. Каханню вузлы не пара. Вызваліцца, кане ў ваду, забудзе цябе і ты яго забудзеш. Хапае адвагі, даставай ключык назад, – зайшоўся смехам, абярнуўся ў смех, у рэха ўласнага голасу і расплыўся над чырвонымі дахамі Траецкага прадмесця.

Ад разгубленасці я прытаіўся да халоднай парэнчы, куточкам вока заўважыў, як Юлія песціць далонямі

адзінокі замочак і глядзіць у тое месца на вадзе, куды знік срэбны ключык.

У цёмны лістападаўскі вечар, калі месяц і зоры хаваюцца за шчыльным занавесам хмурын, я закінуў у камін усё, што засталося ад сасновага камля. Агеньчык пабег па стружынах, схапіўся за таўсцейшыя шчэпкі, за парубаныя досачкі і пасунуўся дымам у неба.
Я доўга чакаў гэтага цёмнага, бязмесячнага вечара. Выстойваў на ганку з высока задзёртай галавой, як некалі баба Вера, як бацька пасля яе, але кніга неба заставалася недаступнай маім вачам. Не звязваліся ў словы паасобныя зорныя літары, не ўкладваліся ў радкі павуціны воблакаў. Толькі вецер на зразумелай мне мове часцей і часцей нашэптваў на вуха далёкія словы дзеда Алімпея: “Зробіш усё як належыцца, пойдзе ў неба чысты дым і пакліча чалавека, яго імя Маэстра. Зробіш не так, як сказана, пойдзе з коміна чорны дым і дарэмная твая праца.” Словы дзеда Алімпея прарываліся праз шум электрагэбліка, бралі верх над віскам шліфмашынкі, нагадвалі пра непазбежны момант праўды. Мне хацелася адтэрмінаваць гэты момант, заплюшчыць вочы, заткнуць вушы, наглуха зачыніць дзверы ў сябе і забіць іх цвікамі самападману: А можа ўсё будзе добра? Мо назіральнік маіх жыццёвых выбараў, бухгалтар хібаў і памылак павярнуў якраз вочы ў другі бок? Не чуў нічога, нічога не бачыў. Не варта выходзіць насустрач пасланцам благой весткі, лепш чакаць іх дома, у сваіх сценах, – казала некалі маці.

Я чакаў цёмнага, бязмесячнага вечара і ён прыйшоў. Лістападаўская цемра прылягла на дах, ахінула комін, схавала ад маіх вачэй і колер дыму, і яго пах.

Праз колькі дзён з’явіўся Маэстра і зняў з мяне цяжар няўпэўненасці. На бліжэйшы час мой дом пераўтварыўся ў майстэрню, дыхаў фарбамі і фарбамі распавядаў пра кожны мінулы дзень, на сценах яркая чырвань чаргавалася з цёплымі адценнямі аранжу, халодныя блакіты заходзілі праз акно кароткімі, асцярожнымі штрыхамі. Я вырашыў не займаць увагу Маэстра, закапаўся ў зімовым Беластоку, зрэдку наведваючыся сюды, каб здаволіць нарастаючую цікавасць да вынікаў ягонай працы.
Аднойчы, калі пераступіў парог, мяне сустрэла жанчына на буланым кані. Золатавалосая, ні то ўзляцела з-над пушчы, ні то ўсплыла з яе нетраў, распаленых да чырвані восеньскімі пажарамі. Я глядзеў на чорную конскую грыву, што спавівае аголеныя жаночыя сцёгны, а пушчанскія дрэвы глядзелі на мяне чалавечымі вачыма. І нечакана для сябе я ўбачыў там замглёны твар дзядзькі Рамана і твар дзядзькі Косціка, і дзядзькі Мікалая, і ўсіх тых, каго паспела запісаць мая дзіцячая і падлеткавая памяць.
– Адкуль ты ўзяў гэтыя твары?
– З памяці тваёй. Яна малюе, я толькі прапаную руку, фарбу і пэндзлік. А гэтага пазнаеш? – тыцнуў пэндзлікам у дрэва побач з чорнай конскай грывай.
Цераз далікатную сасновую кару глядзеў мне ў вочы граф Бальдасарэ Кастыльёне. Пераапрануты ў доўгую, ільняную кашулю, падпярэзаны поясам, у нічым не адрозніваўся ад чалавека, які даўным-даўно паказаўся мне пад нашай старой ліпай.

Вясна ссунулася за палярны круг, адступіўшы перад летам, што забягае да нас з паўднёвага паўшар’я. Можна б падумаць, заскоквае ў госці, бо лета тут кароткае, як дзявочая сукенка. Спачатку саслізгваюць з вясны салатавыя

шлеечкі траўня, какетліва песцяць шчокі і падбародак, і чалавек усміхаецца праз сон. Але ж травеньскі сон – ён карацей за дзявочую таямніцу, што хаваецца за павеўнай шырмай сукенкі. І ўжо сонца ляціць заечым скачком па-над глыбокім дэкальтэ чэрвеня, абабягае пупок фастрыгай ліпеньскіх промняў і завяршаецца лета дзесьці там, на палове сцягна крайком пазалочаных, жнівеньскіх дзён. Усё, што далей, хаваецца ў першай восеньскай імгле.

Я прыязджаў у Мінск, Юлія не ехала ў Маскву. Аднойчы, стоячы перад люстэркам і расчэсваючы валасы, сказала:
– Апошні раз я выправілася ў Маскву не папярэдзіўшы яго. Дабралася на кватэру, пазваніла ў дзверы. Мне адчыніла жанчына. І такім чынам гэты раз аказаўся апошнім. У мяне ўсё проста, пакуль нехта ёсць, датуль нікога больш.
Мне ўзгадалася нашая першая сустрэча, чыгуначны вакзал і яе квіток у Маскву, Вароты Мінска і кава турка. Сапраўды так, усё проста, нікога, пакуль нехта? І варта зараз шукаць праўду? Ці трэба? Праўда жыве адзін міг, сыходзіць і саступае месца новай праўдзе. Усё адбываецца плаўна і праўду ад няпраўды не аддзяліць, як не падзяліць рэчку на паасобныя кроплі вады.

– Кожны глядзіць праўду ў сваім люстэрку і далёка яно недасканалае, – паўголасам, нязграбна, як аднакрылая птушка словы саскочылі з вуснаў.
– Ты пра што?
– Не, нічога. Сам з сабой размаўляю.

Пакуль нехта ёсць. Пакуль ёсць ты... Дзе тое месца на карце часу і прасторы? І што за мяжой краіны “пакуль”?

Восень, што завяршае мой прабег вакол аранжавага сонца? У ранішнім святле з аранжавых кудзеркаў пасыпаліся іскрынкі і я на адзін кароткі міг убачыў сябе на ўскраіне пушчы, у сонечнай раніцы, калі пасля першых замаразкаў з бярозаў і клёнаў густым дажджом асыпаецца лістота.

– Сёння мне першы раз сасніўся сон па-беларуску, – кажа Юлія.
– Што табе снілася?
– Ты мне штосьці чытаў. Пра нейкага дзеда, які ні то памёр, ні то жывы, пра месяц, што з неба спадае ў далоні. І яшчэ пра якісьці камель. Так і не зразумела, што ёсць камель? – глядзіць на мяне і – як раней здаралася – не чакаючы адказу, вяртаецца да сваіх слоў. – Ты чытаеш, а нейкі чужы голас грукаецца да мяне і грукаецца, і грукаецца, і ўсё яму трэба ведаць колькі мне гадоў і калі мой дзень народзінаў. День рождения, так было ў сне. За пятым-шостым разам я не стрымалася. У кастрычніку споўніцца дваццаць чатыры. Так менавіта сказала, у кастрычніку, не в октябре. Я ніколі не размаўляла па-беларуску з чужымі. Ніколі.

Верасень у Мінску выдае сябе спелай паннай, што не зазірае ўжо ў вочы кожнаму сустрэчнаму дню, не казеліць зрэнак падлеткам, але ўсё яшчэ какетліва падцягвае спаднічку вышэй калена, здольная спакусіць вока летнім загарам. На цьмяныя валасы кладзе плацінавы лісток клёну, а павуцінку бабінага лета, ледзь пазначаную вакол вачэй, выцірае сцяблінай зялёнай травы. Сагрэтыя днём высокія дамы і загорнутыя ў асфальт вуліцы аддаюць цяпло начам, выціскаюць восеньскі холад у карлікаватыя ростам прадмесці.

– Дваццаць чатыры, дваццаць чатыры з паловай, дваццаць пяць. І што далей? – знаходзіць свой рысунак у срэбным шкле, набліжае твар да люстра, на хвіліну застаецца вочы ў вочы з магічнай лічбай дваццаць пяць.

Апошні дзень бестурботных вакацый. Апошні сеанс у кіно. Апошні цягнік. Як маё неакрэсленае "пакуль – датуль".

– Ты – дачка Сонца, – мне хочацца сагрэць далоні ў яе валасах.
– Ага. Ты мне ўжо гаварыў, – адбітак у люстэрку падцягвае ўверх куточкі вуснаў, кладзецца на халодным шкле сціплай усмешкай.
– З таго ўсё і пачалося. Паўтара года таму.
– З таго мы пачаліся, – выпраўляе мяне, ставіўшы націск на слова "мы". – І не паўтара года таму, а ўжо амаль два.
– Два амаль? – пальцы, што гуляюцца яе валасамі, ад здзіўлення напружваюцца, адступаюць крок назад. Гляджу на нашыя адбіткі ў люстэрку і бачу, як аранжавае вогнішча паварочваецца ў сівы дым, больш яго і больш, размываюцца вочы і вусны, твары знікаюць. Узгадваецца дзяцінства, калі мы палілі вогнішчы на выганах за вёскай і, адыходзячы дамоў, залівалі агонь загадзя прыдбаным вядром халоднай вады. Затым глядзелі, як прытухае полымя і застаецца сівы дым.

Колькі крокаў раздзяляе "паўтара года" і "амаль два гады"? Гэта ўжо тая адлегласць, дзе пачынаюць знікаць з вачэй паасобныя дэталі, дзе занікае нябачная, непадуладная думкам гравітацыя, што трымае далонь на далоні і сінхранізуе час? Гэта пачатак... канца?

– Калі ў мяне будзе сын, дам яму тваё імя, – кажа Юлія.
– І калі гэта будзе?
– Не ведаю. Дапусцім, праз год. Карацей, да дваццаці пяці мне трэба быць замужам.
– Трэба?
– Ну ладна, давай тады – хачу. Да дваццаці пяці я хачу быць замужам. Хачу свой стол на кухні, свой малюнак за акном спальні, бачыць хачу як вырастаюць дрэвы і падрастае мой сын. Нараджу сына і дам яму тваё імя. І буду здраджваць мужу з табой. Хочаш? Але дзеці ў мяне будуць ад мужа. Толькі ад яго.
Гаворыць кароткімі сказамі, глытаючы паветра, як рыба, раптоўна выцягнутая з вады. "У мяне ўсё проста, пакуль нехта ёсць, датуль нікога больш", узгадваецца не такое далёкае. Як разумець? Нехта – значыць хто?

Даходзім да Вострава слёз, чакаем пакуль на другі бераг пройдуць гаманлівыя вясельнікі. Няведама адкуль у мяне ўзнікае жаданне вызначыць даўжыню Гарбатага маста, стаўляю крокі і ў думках лічу іх. Атрымліваецца няшмат, пад шэсцьдзесят. Кароткі шлях у адным напрамку, як кароткае жыццё гэтых хлопцаў. Тры маленькія крокі за кожны пражыты год.

Тым часам маладажоны паспелі ўскласці кветкі да ног скамянелых жанчын і кіруюцца да бронзавай скульптуры анёла-ахоўніка. Каменныя жанчыны прапускаюць мяне міма вачэй і толькі вусны крайняй уздрыгваюцца ў сумнай усмешцы. Гляджу ў знаёмыя вочы цёткі Ані і таксама ўсміхаюся.
Анёл-ахоўнік аголены да межаў абсалюту і ніякім чынам не схаваць яму сваю анёльскую, не адрозную ад чалавечай недасканаласць. Як не стараўся, але ж не змог

выратаваць гэтых хлопцаў, праз чужую вайну на чужой зямлі пераправіць на бяспечны матчын бераг.

Рухавы фатограф высоўваецца наперад і бярэцца кіраваць маладажонамі.
– Анёл пасярэдзіне, ты па адзін бок, ты па другі. Гатовая? Можна?
Дзяўчына ківае галавой, каўкае сліну, перамагаючы сорам падымае вочы, глядзіць у аб'ектыў і яе далонь сунецца да маленькага, бронзавага пеніса. Сціскае яго двума пальцамі – вялікім і паказальным – асцярожна, няўмела, як курэц-навічок сціскае першую цыгарэтку.

Мой рот раскрываецца ад здзіўлення, краем вока зіркаю на Юлію, але яна толькі пацціскае плячыма. Нармальна, маўляў, такая ў нас традыцыя новая.

– Светка! Ну, Свет, не прыкідвайся, на ўсю далонь бяры, на пяць пальцаў. Пяць сыноў будзе, – выгуквае голас, ці не падбадзёраны давясельным застоллем.
Твар дзяўчыны ружавее, вочы хаваюцца за павекамі, але далонь выконвае загад, фатограф ловіць момант і расплываецца ў вясельным карагодзе. Бурлівыя воплескі падрываюць птушак, што задрамалі ў кронах бліжэйшых дрэў. Каменныя вочы жанчын бягуць усед за птушыным палётам, а мне прыдаецца, што кожная пара вачэй сочыць за сваёй, адной-адзінай птушкай.
А птушкі крыляць над Набярэжную, над антыкварыят "Вянок", кружаць над дрэвамі, што ў спякотныя дні дораць цень дзяўчынцы з савой. Гадзінай раней былі там і мы, і Юлія спытала:
– Дзяўчына, сава, папараць, ці яшчарка?
– А можна ўсё? Я не паэт, я празаік, мне трэба больш.

– Усяго не бывае, кожнаму трэба выбіраць, не-паэтам таксама.
– Цябе выбіраю.
– “А ты меня любишь?” – зазірнула мне ў твар, падстроіўшыся пад малую дзяўчынку.
– “Ага! А ты со мной будешь?” – прыкідваючыся хлопчыкам, уступіў у гульню мой голас, але гульня абарвалася.

Птушкі крыляць далей, кранаюць дах Тэатра оперы і балета, пераклікаюцца словам з зямнымі галасамі і вяртаюцца на востраў. Вяртаюцца не ўсе.

Вясельнікі сыходзяць на той бераг, да жывых. Прыпыняюцца на мосціку і маладыя зашпільваюць на парэнчы свой замочак. Колькі іх там паспела за апошнія месяцы павіснуць? Ці ёсць паміж іх той першы, зашпілены маімі рукамі?

– Праверым наш замочак? – прыпыняюся на мосціку, але Юлія не спыняецца, рашучым крокам перасякае мяжу паміж светамі жывых і мёртвых.
– Пяць сыноў, – кажа. – Чатыры свету, па адным на кожны яго бок і толькі пяты для маці? Варта мець пяць сыноў? Ці варта мець сыноў? – выпраўляе пытанне, паставіўшы націск на апошняе слова.

Ці ў той момант у Юліі разбудзілася маці? З чаго маці пачынаецца? Ці не з першай задумы пра сына, калі нат яшчэ не вызначаны час, калі ён яшчэ далёка, занадта далёка каб пачуць у сабе першае здрыгненне новага жыцця? Гляджу ў каменныя твары жанчын, бачу вочы цёткі Ані. Яны кажуць: маці не заканчваецца ніколі.

Праводзім позіркам маладажонаў, а яны ідуць, аддаляюцца, глыбей ды глыбей заходзяць у каляіны простых спраў, у лінеарны лад малых радасцяў і клопатаў. Белая сукенка канчаткова ўтыкаецца ў штодзённасць горада і чую голас Юліі:
– Хлопец адзін прыстае да мяне.
– І? – ад нечаканасці маё пытанне зводзіцца да аднае літары. Шукаю яе вачэй, а яны адбягаюць убок, уніз, гуляючы ў схованкі з маімі вачыма.
– І нічога. Нібыта выпадкова сустракае мяне на вуліцы, у парку, або ў магазіне. Ахвяроўваецца правесці дамоў, прапаноўвае схадзіць у кіно.

"Спіш з ім?" Думка стаўляе пытанне рубам, але сказаць уголас два простыя словы язык не паварочваецца. І што хацелася б пачуць у адказ? Адназначнае "так", пасля якога не застаецца ніякіх сумняванняў? А "не", да голай скуры пастрыжанае з даверу, ці мае якое-колечы значэнне?

Маўчу. Пералічваю ў думках дні і тыдні, што застаюцца да канца лета. Іх шмат. Вельмі шмат. Напрыканцы жніўня паедзем у Дакудава. Будзем купацца ў Нёмане, адсочваць знічкі ў небе і начаваць на сенавале. Паедзем прытрымаць адыходзячае лета. Ці толькі лета?

*3.*

Хлопцы заспяваюць мяне на тэрасе за камп'ютарам. Ад пушчы навейвае рэзкім ветрам, вечаровы холад пашчыпвае пальцы рук і пальцы адстаюць, спазняюцца, не паспяваюць  за думкамі. На паўночным даляглядзе стаіць

чорнае лязо пушчы і разрэзвае мой кругасвет напалам, на бачны і нябачны бок месяца. Дзесьці адтуль, з нязведаных вокам моракаў заходзяць у мой камп'ютар Рафаэль Санці, цыганка Юлія, дзед Дзмітрый.  Перасякаюцца на заблытаных сцежках часу, перакідваюцца словамі, сыходзяць і вяртаюцца. Загаворваю іх, прытрымліваю за плячо, запіхваю ў вокладкі кніжкі, як у цесную клетку. Крок за крокам, слова за словам іду да апошняй кропкі.

Першы з'яўляецца Яраслаў. Моцны, мускулісты, упэўненым крокам ступае на тэрасу.
– Здароў настаўнік.
– Здароў настаўнік, – вытыркаецца з-за вугла хударлявая постаць Владзя Мілысына. – Праўду кажуць, прадаў кватэру ў Беластоку і з'ехаў сюды?
– Праўда, – ківаю галавой. – Усё-ткі завялікі мне гэты горад. Можа маленькі, як кропля дажджу, быў бы мне якраз, а Беласток завялікі.
– Як кропля дажджу? Ёсць такія гарады? – здзіўляецца Яраслаў. – Не, немагчыма.
– А ты тут сёння, а Владзё і я з вамі, магчыма? Усё магчыма.
Глядзіць на мяне, нешта разважае ў думках.
– Сапраўды, ты маеш рацыю. Усё магчыма.
– А горад маленькі, як кропля дажджу проста алегорыя, мастацкае выяўленне. За паэтэсай паўтараю, яна так сказала пра свой Бельск.
– Ясна. Ты ж ведаеш, я і паэзія – розныя планеты. А ты не хавайся за сценамі, давай сюды, – адыходзіць крокаў два ў паўморак, махае рукой.
– Вечар добры, – чую знаёмы голас і ў першы момант не магу яго звязаць з канкрэтным тварам.
– Мірак? Даўно... – шукаю слова, што трапна назаве

нематэрыяльнае месца, ці, хутчэй за ўсё стан свядомасці, належны ўсім нам у нязведанай будучыні.
– Не так даўно, паўгода.

Чорны Мірак. Хударлявы, высокі ростам, бледны твар абведзены вяночкам некранутых сівізной кучаравых валасоў. Вялікія вочы, бліскучыя, чорныя, як смала, не паспелі выцвісці ў агародзе часу. Глядзіць на мяне – як некалі, як заўсёды – не выходзячы за мяжу свайго ўнутранага свету.
– А мы па справе прыйшлі, – голасам Владзя гучыць знаёмая фраза.
– Па справе?
– Дзед Алімпей прасіў адшукаць цябе.
– Як прасіў? Прыйшоў да вас і папрасіў, так звычайна?
– Звычайна, незвычайна. Пытанне, што лічыць звычайным, што не. З якога боку сонца глядзець.
– Дзіўная справа. Здавён-даўна ніхто яго не бачыў, а тут раптам да вас завітаў. Чаму не да мяне? Здаецца, я быў з ім бліжэй знаёмы, чым вы.
– Ён цябе шукаў, але...
– Але не знайшоў. А час падганяе, заўтра трэба нам быць у пушчы, – уваходзіць Яраславу ў слова Владзё Мілысын.
– У Тапіла нам заўтра трэба. Прасіў дзед Алімпей каб ты ўзяў з сабой тое, што пакінуў Маэстра. Першы партрэт, так здаецца назваў. І нашых збіраць па дарозе. Усіх, хто не ў час. Як не ў час? Што не ў час? Не патлумачыў. Скажыце, коней сядлаюць уладары злых вятроў і ён будзе ведаць, – глядзіць на мяне, спадзяючыся на падрабязнасці. Не ўдакладняю, ківаю галавой, так, ведаю.

За домам, абкладзеным новымі, пафарбаванымі ў зялёны колер дошкамі, большым за астатнія дамы, дзе некалі

змяшчалася паштовае аддзяленне, з вясковай вуліцы выслізгвае вузкі, калдобісты завулак. Месячнае святло праводзіць яго праз ускудлачаныя хмызнякі, праз здаўна някошаны луг, да асінава-альховых пералескаў. Затым пачынаюцца пясчаныя пагоркі і вольхі саступаюць месца пакручастым соснам. Калдобісты завулак, выскачыўшы з някошаных лугоў, пераўвасабляецца ў лясную дарожку і перададзены месяцам у валоданне ночы, сыходзіць у недасяжныя вачам прасторы.

Параўняўшыся з зялёным домам, Пётрусь Малы запавольвае крок, паварочваецца тварам да завулка.

– Мо наўпрасткі пойдзем? Мне тут знаёмы кожны паварот і кожная калдобінка, усё дзяцінства ў грыбы туды хадзіў.

– Я таксама ведаю кожны паварот і кожную калдобіну. Восем гадоў па гэтай дарозе хадзіў у школу, – кажа Яраслаў.

– А я магу з заплюшчанымі вачамі прайсці адсюль ажно да Доўгага Броду. Амаль што па прамой лініі магу, – чую за спіной голас Геніка. – Адтуль асфальтам у бок Гайнаўкі, не даходзячы да Пескаў павярнуць направа і, таксама асфальтам, у Тапіла. Я гэтымі дарожкамі хадзіў усё жыццё, як толькі хадзіць пачаў, так да канца. Тут і нідзе больш.

– Кажаце, партрэт прасіў дзед Алімпей? І збіраць нашых?

– Ага, дакладна.

– Калі так, не пойдзем наўпрасткі. Пойдзем праз Войнаўку, праз Старыну, затым лесам, у Вілюкі.

– Навошта завіваць лішні круг? Гэта ж ці не ўдвая па сваім жаданні выдаўжаем сабе дарогу, – здзіўляецца Владзё Мілысын. – Да раніцы, ды што я кажу, да раніцы, да заўтра вечара не паспеем.

– Паспеем Владзь, паспеем у час. Пойдзем, як кажу і будзем па дарозе склікаць нашых, – чую свой голас і не разумею адкуль ён ідзе. А мо і не мой ён? Ад дзеда Дзмітрыя? Ад прапрадзеда Мацвея? Не, ранейшы яшчэ, ці не ад тых імёнаў, што згубіліся на бездарожжах часу.

Лясок на ростанях выдзяляецца цёмнай плямай, крок за крокам і з плямы пачынаюць выходзіць пакручаныя старыя сосны,ператканыя светлымі, бярозавымі ніткамі, кудлатыя самасейкі чаромхі, маладыя, ростам у чалавека дубкі. Месяц бліскае люстэркам і між дрэў паказваюцца абымшэлыя крыжы. Хлопцы прыціхаюць, насцярожваюцца, глытаюць пространь лёгкай, бязгучнай хадой. "Як здані", мільгае думка. Прыкушваю язык, усміхаюся сам сабе.

– Клінок. Тут, казалі старыя, нешта страшыць, – цішыню парушае шэпт Пётруся Пінокіо.
– Часам можна пачуць дзіцячы плач. Трэба кінуць у той бок абы-што, нават старую шмотку і сціхае. Не бойся, не ўцякай, кінь яму што-небудзь і сціхне. Памятаеш Славік? Маці так гаварыла, – да шэпту паўголасам далучаецца Пётрусь Малы.
– Глядзі брат, каб мы на каго-небудзь страху не нагналі. Будзе распаведаў на ўсю ваколіцу, – чую голас Славіка і не азіраючыся за сябе, бачу яго шырокатварую ўсмешку.

Паварочваем налева, у бок Войнаўкі, месяц застаецца за спіной і нашыя цені кладуцца пад нагамі, бягуць папераздзе. Выдаўжаюць крок і мы паскараем хаду, прыпыняюцца яны і мы прыпыняемся. Добраісці за кімсьці следам, нат калі той хтосьці не больш за свой уласны цень. А можа проста, даганяць прасцей чым уцякаць?

Войнаўка пачынаецца сцяной бэзу. Не раз, не два высякалі бэз да голай зямлі, выпальвалі агнём, а ён з наступнага дня пачынаў вандроўку да сонца. Як даўно сябе памятаю пад бэзавай сцяной трымае варту невялікі, бетонны крыж. Называюць яго развітальным, бо менавіта тут, спакон вякоў вяскоўцы развітваюцца з сямейнікамі і суседзямі, што пераходзяць на другі бок святла.
Ці выпадкова перадаюць іх нябёсам там, дзе жыццё ніколі не здаецца, з усяе сілы трымаецца за зямлю?

Побач з крыжам, прытуліўшы спіну да агароджы, сядзіць на кукішках чалавек. Не бачу твару, не бачу вачэй, але чую на сабе ягоны позірк. Глядзіць на нас з перспектывы трохгадовага хлопчыка, здаючыся на непрадбачлівы ход падзей.
– Хто тут? – пытаю.
Чалавек узводзіцца на ногі. Малады, гадоў пад трыццаць, стае перад намі навыцяжку, на зважай, але ягонае зважай далёка не карэктнае. Пяткі ног разбягаюцца, мужыцкая памяць згінае далоні і пальцы заціскаюцца на ручках нябачнага плуга. На ім летняя савецкая форма, але гімнасцёрка надзетая праз сілу, цесная, не зашпіліць яе ніякім чынам, выглядае – быццам знятая з яшчэ маладшага салдаціка.
– Чужы мундзір ніколі не сядзіць як трэба, – прыўважыў мой позірк, папраўляе каўнер, падцягвае рукавы. – Замалы, ці завялікі, муляе чужы мундзір.
– Ты хто?
– Мяне завуць Барыс, я з Войнаўкі. Мяне забілі немцы. У першы дзень вайны з саветамі, у Брэсцкай крэпасці.
– Чаму ты тут, Барыс? Чаму на вуліцы?
– Час разбурыў маю хатку, на маім двары гаспадараць чужыя людзі, куды пойдзеш?

– Ты прабачыў немцам?
– Я ім прабачыў.
– Можаш ісці з намі Барыс, бо не для помсты ідзем.

Месячная поўня размалёўвае асфальт у колер рэчкі, загорнутай у выкаўзаны халоднымі вятрамі лёд. Вокны глядзяць на вуліцу адбітым святлом, але бачаць не больш за найшырока расплюшчанае вока мёртвага шчупака.

Бачыць што-небудзь шчупак у сваім мёртвым сне? А той найвялікшы, што, расставіўшыся ўпоперак цячэнню, мог, як жывая кладачка, звязаць сабой два берагі нашай рачулкі, ці ўсё яшчэ бачыць мае рукі? Адчувае іх знішчальнае цяпло срэбна-зялёная луска? Да скону дзіцячых гадоў ягоныя сны хадзілі ўпоруч з маімі снамі, слухалі, як дыхаю і вывучалі маю мову. І аднойчы, напрыканцы дзяцінства мёртвае вока на адзін кароткі міг прачнулася і прашаптала: І навошта ты так? Мы аднагодкі былі. Чаму дастаў мяне з жывой вады? Не ад голаду, сам знаеш, не ад голаду.

З ночы, разведзенай вадзяністым святлом поўні, выдзяляецца лавачка дзеда Алімпея. Стаіць, як стаяла, побач з хаткай, дзе пажываў ён у найстарэйшай дачкі. Адсюль і знік некалі ў дзень святога Алімпея і ўва мне запальваецца цьмяны агеньчык надзеі, што тут яго ўбачу. Не, няма яго тут. Мо ў Старыне, дзе пажываў у сярэдняй дачкі, а можа чакае нас у Доўгім Бродзе, там, дзе жыла наймалодшая?

Мая лавачка таксама пустуе. За заплюшчанымі вокнамі бацькоўскі дом пасапвае ў неглыбокім, чуткім сне, заслуханы ў галасы далёкай мінуўшчыны. “З людзьмі будзеш

жыць. Размаўляць і маўчаць, сум дзяліць і радасць. Не ўсім дрэвам дадзена пражыць жыццё другі раз", – усплывае са сценаў голас дзеда Алімпея. "Я моцны, глыбока ў зямлі, мароз не падкапаецца", – голасам бацькі запэўнівае падмурак. "Моцныя абоймы, выстаяць кроквы не адно стагоддзе" – запэўнівае стары Пэтро.

– Пачакайце момант, вазьму тое, што прасіў дзед Алімпей. Я хутка, на адной назе.

Упоцемку, не запальваючы святла, знаходжу ў вялікім пакоі той куток, дзе закручаны ў чыстую, баваўняную тканіну чакае мяне партрэт жанчыны на буланым кані. Асцярожна разгортваю тканіну, яшчэ адзін рух далоняў і яшчэ адзін, і паўзмрочны пакой пасвятлее ад залатых валасоў, ад твараў, вырваных з бяскрайняга мора забыцця, загамоніць абарванымі на палове слова галасамі, забубняць аб падлогу конскія капыты.

"Вось яно, святло свабоды. Пойдзеш за ім праз чорны лес і лес расступіцца, праз агонь пойдзеш і завалодаеш агнём, у ваду кінешся і вада табе крыламі стане", – азіраюся за сябе ў недалёкую прошласць і бачу Маэстра. Ён робіць апошні мазок пэндзлікам, адыходзіцца крок назад, праз прыжмураныя павекі разглядае малюнак. – "З мяне ўсё. Доўга зацягнулася, але ж зрабіў на выдатна. Як зрабіў ты, час пакажа. Два астатнія напішу калі добра справішся з першым".
"Ніякая бура не зварухне нас з гэтага месца", – здымаю апошні пласт баваўнянай тканіны, а пальцы бабы Веры наўпрост з ранняга дзяцінства цягнуцца да маіх валасоў, лашчацца да шчокаў.

Морак у пакоі стаіць, як стаяў, на ўсю сцяну, з падлогі да столі. Павернуты тварам да мяне, абыякава маўчыць. Схіляюся, далонь знаходзіць гладзь сасновай драўніны. Запальваю запалку, у цьмяным святле паблісківаюць жывічныя жамчужынкі. Малюнак знік. Як знік? Чаму? Ад нябёсаў, праз столь прасочваецца віск шліфмашынкі, нарастае, свідруе вушы. Чую слабасць у каленях, апускаюся на крэсла. “Я зрабіў на выдатна. Як зрабіў ты, пакажа час”, – праз гул электрапрылады прарываецца голас Маэстра. “Зробіш не так, як трэба, дарэмная твая праца”, – кажа бацьку дзед Алімпей, але глядзіць чамусьці на мяне. У супрацьлеглым кутку пакоя бацька ў дробны мак спілоўвае свае апошнія дні. Мазалі ссыпаюцца з пальцаў, коцяцца па падлозе жывічнымі жамчужынамі, прыліпаюць да ідэальна гладкай сасновай драўніны. Калі ён зайшоў у пакой? А мо быў тут увесь час? Не глядзіць у мой бок і мне не хапае смеласці пытаць. Хлопцам на вуліцы нецярплівіцца, чую, як боты шоргаюць аб асфальт, круцяцца туды і назад аблітыя месячным святлом постаці. Нехта прысеў на дубовай лавачцы з высока задзёртай галавой, забівае час, злічваючы бліскоткі на Малочным шляху. Мне трэба збірацца. Куды збірацца? І з чым? І што сказаць дзеду Алімпею? “Пасядзім яшчэ век-два ў сваім замкнёным коле, паўторым адзін аднаго і кожны сябе. Насамрэч, нічога страшнага, мы прывыклі”, – супакойвае дзед Алімпей. “Будзе, што будзе”, – падштурхоўвае знаёмы хор бабуляў і цётак. Жанчыны ткуць неба з кветак лёну, каб ніколі яно не закончылася і сочаць за мной праз зорныя адтуліны. “Якась та будзе, ніколі не было так, каб ніяк не было”, – падбадзёрваюць дзядзькі і папальваюць люлькі, абсеўшы някошаныя паплавы пад пушчай.

– Што ты доўга так? Усё нармальна? – Славік зрываецца з лавачкі, бліжэй падыходзяць усе астатнія, ачапляюць мяне шчыльным вяночкам. – Пайшлі?
Ківаю галавой, стаўляю першы крок. Хлопцы машынальна шыхтуюцца ў калону, ідуць нага ў нагу, але ўжо праз некалькі дзясяткаў крокаў губляюць строй і рытм, і рассыпаюцца нібы птушкі на ўсю шырыню вуліцы.

Маю ўражанне, быццам бы іду па разгойсанай ветрам вадзе. Балансую паміж хвалямі страху, хапаюся за паветра, за спіной клыгае мой уласны цень і цягну яго, як дзіцячыя саначкі праз заснежанае поле. Падбіраю момант і калі хваля страху выносіць мяне вышэй галавы, заскокваю на санкі і адхонам гадоў слізгаю ўніз, у бяспечны час дзяцінства, дзе ўсе нашы памылкі лёгка выпраўляюцца чужымі рукамі. “Якась та будзе”, – шэпча на вуха дзя дзька Вася, малодшы мамін брат. Ён заўсёды быў побач, як даўно сябе памятаю, з першых дзіцячых гадоў і няшмат часу прайшло, як пераступіў на другі бок святла. Па старой прывычцы заходзіць часам у мой сон папаліць і пускаючы з вуснаў сівыя абаранкі, кажа: “Калі рукі суседзяў, або сяброў адрываюць цябе ад падлогі ў сваёй хаце, ад травы і дрэваў на сваім панадворку, тады і з хатай, і з дрэвамі, і з травой не так балючае развітанне. У гарадах усё ўскладваюць на фірму, і апрануць, і магілу выкапаць, але фірма зусім не тое, чужыя людзі. Можа маладым усё адно, а нам, старым, хто моцна прыліп да жыцця, розніца ёсць”.
“Глядзі, як вуліца вырастае ў дарогу”, – чую пяшчотны, ласкавы голас бабы Веры. Пакуль паспею знайсці ў памяці яе блакітныя вочы, словы сціхаюць, губляюць значэнне. Даўно сцерлася мяжа між брукаванкай-вуліцай і гравейкай-дарогай, што ляжала за апошняй хатай, старыя

сляды, пазначаныя коламі нашых вазоў і прышпіленыя да дарогі конскімі капытамі, закатаў чорны асфальт.

– Тут стаяў Ёнашаў вятрак, там, у сасновым лесе геадэзійная вышка, – паказваю на правы бок ад шашы, але насамрэч правяраю знакі, нанесеныя ў дзяцінстве на карту памяці.
– Вятрак і я памятаю, – кажа Владзё Мілысын.
– І я, – чую Славікаў голас.
На павароце, за ўрочышчам Азёрышча недзе ў траве на абочыне дарогі павінны хавацца жоўтыя і чорныя каменьчыкі. Шукаю іх і не знаходжу. Асфальт пашырыў дарогу, адштурхнуў траву ўбок і ўзяў пад сябе мае сакрэтныя знакі дзяцінства. Хто і калі адкапае іх? Спатрэбяцца каму?
– А я тут бадай што ніколі не быў, – Марэк прыглядаецца дрэвам, закруглены месяц стаіць між дрэў у канцы дарогі, ідзем на яго, як парус на святло маяка. – Далёка яшчэ да Старыны?
– Блізка, крокаў трыста лесам наўпрост, адзін паварот і Старына, – кажу, а ён, маленькі ростам, жвавы, ртутны шарык, вышпарваецца наперад. Не даходзячы да месца, дзе дарога паварочвае ў Старыну, а з асфальту направа высоўваецца пясчаны гасцінец, Марэк раптоўна спыняецца, няўпэўнена азіраецца, чакае. На мяжы пяску і асфальту стаіць чалавек з канём.

– Пэтро?
– Я, – ківае галавой.
– А дзе ваш табар, Пэтро?
– Няма, час забраў табар. Стой Сокал, стой, не бойся, – усё яшчэ моцнае плячо трымае вуздэчку, конь пырхае, ціха неяк, амаль бязгучна.

Карціць пакласці далонь на конскі хрыбет, адчуць кончыкамі пальцаў подых свабоднага ветру і пах начнога вогнішча. Працягваю руку і там, дзе павінен быць цёплы хрыбет Сокала, далонь пралятае ў пустку. Няўжо месячная поўня падманвае вочы, вобраз зыбіцца, прастора скарачаецца, або выдаўжаецца?

Усё жыццё не пакідала мяне цікавасць, куды знікае табар. "Ад Сямятычаў едуць, праз Кляшчэлі, праз Палічну, да нас і далей, у Старыну. І ніхто ніколі не бачыў, каб вярталіся назад", чую здзіўленне ў голасе дзядзькі Косціка.

Мне ўзгадваецца беластоцкі "Кастэл" і маленькі струмень замкнёны ў бязвыхаднае кола. Ходзіць вада туды пад сонцам, назад пад зямлёй, прывязаная да нязменнай восі. Прывыкла і добра ёй, не бунтуецца.

– Скажыце Пэтро, За Старыной мяжа, усе дарогі абрываюцца, а табар....
– Ці-і-ха, – указальны палец кладзецца на вусны, Пэтро круціць адмоўна галавой. – Нічога не ведаю, нічога не скажу. Мяне няма, Сокала няма, табару няма.
– Як няма, калі я ж вас бачу? – здзіўляецца Марэк.
– Я таксама бачу, – пацвярджае Чорны Мірак. – Бачу, як свае пяць пальцаў.
– І я, і я, і я, – далучаецца хор галасоў.
– Не ўсё, што бачыш, існуе, не ўсё, што існуе, даецца злавіць вокам. Нават вам, хлопцы. Нават вам, – моцнае, мускулістае плячо тузае вуздэчку надзіва асцярожна і пяшчотна. – Пайшлі, Сокал.
На адыходзе, кідае праз плячо:
– Дарога нас забіла. Бетонам забіла, асфальтам і камянямі. Я ўжо прабачыў дарозе, бо як не прабачыць часціне

сябе? Але за вамі не пайду, не ў той бок. На Алімпеевай лавачцы хтосьці вас чакае. Не ведаю хто, мне незнаёмы.

Старына пачынаецца колішняй школай. Час пераўтварыў яе ў дом прыстарэлых, прывозяць сюды людзей, ніхто не ведае адкуль. "Праз Бельск едуць, праз Орлю, Дубічы-Царкоўныя, у Старыну. І ніхто ніколі не бачыў, каб вярталіся назад. А за Старыной мяжа, усе дарогі абрываюцца. Куды яны знікаюць?" – здзівіўся б дзядзька Косцік.

Побач з хатай, дзе ў сярэдняй дачкі пажываў дзед Алімпей, драўляная лавачка схілілася да зямлі, трымаецца за вуліцу рэшткамі сілаў. Пабачыўшы нас, чалавек падымаецца, робіць крок насустрач.
– А я вас чакаю, – кажа. – А можа і не вас? Сам не ведаю.
– Ты хто?
– Мясцовы, Андрэй маё імя. Рускія мяне забілі ў сорак трэцім. Пры немцах быў вясковым старастам, прыйшлі партызаны і забілі. Я прабачыў рускім.
– Пойдзеш з намі, Андрэй?
– Пайду.
– Кажаш, чакаў нас. Адкуль ведаў?
– Алімпей паведаміў. Прыйдуць мужчыны, сказаў. А прывядзе іх жанчына залатавалосая на кані буланым. Толькі яна ведае дарогу туды, куды вам трэба. Не прапусці, Андрэй. Так сказаў Алімпей. Чакаю каторы дзень і вось гляджу, ідуць. А жанчына на кані, дзе ж яна?

Хлопцы глядзяць на мяне, не разумеючы пра што кажа гэты невядомы ім чалавек, дзясяткі вачэй сыходзяцца на маіх вуснах. Чакаюць адказу на пытанне, якое пакуль яшчэ не прагучала, але мне яно вядомае. Адпіхваю

гэтае пытанне далонямі, прытоптваю нагой да зямлі, а яно нарастае, корміцца цішынёй, намотваецца, як цукровая вата на драўляную палачку. Перасячэ крытычную мяжу і выгукне дзясяткамі галасоў.

– Якая жанчына на кані? – пытае Владзё Мілысын.
– Якая, якая жанчына? На якім, на якім кані? – хор галасоў паўтарае пытанне.

Маўчу. І што мне сказаць? Прабачце, падмануў, падвёў, не выстаяў, не ўсё зрабіў як трэба? А далей што? Назад вяртаемся? Куды назад? Але ж не чужыя мне сцежкі на гэтым, паўднёвым баку пушчы. За Старыной лясная дарожка павядзе нас на поўнач, не даходзячы да Круглага павернем налева і гравейкай, як стрэліў, у Вілюкі. Там, калі ўсё добра разумею, далучыцца да нас чалавек і з Вілюкоў пойдзем асфальтам у Доўгі Брод. За леснічоўкай возьмем яшчэ аднаго чалавека, павернем у пушчу, выйдзем на Вапін трыб і наўпрасткі, да рэчкі Пэрэбэль, што павольна коціць ваду ў тапілаўскае вадасховішча. Абмяркоўваю адказ, падбіраю ў думках словы, але насамрэч шукаю баланс паміж праўдай і няпраўдай.

– Золатавалосая на буланым кані, алегорыя. Бесцялеснае, мастацкае ўвасабленне свабоды. А бесцялеснае здольнае выявіцца дзе заўгодна, у любым месцы і ў любы момант. Праз хвіліну, праз гадзіну, хто ведае? Можа тут, можа там, – апісваю круг над дахамі дамоў, над вяршынямі дрэў і ўсе вочы бягуць услед за маёй далоняй. – Пайшлі, мне тут знаёмыя ўсе сцежкі.

Паварочваюся спіной да іх, стаўляю першы крок. Крайком вока заўважаю, як Яраслаў адрываецца ад грама-

ды, выдаўжае крок і ўжо праз момант ідзе побач, плячо ў плячо.
– Алегорыя, то-бок, як той горад маленькі? Як кропля дажджу маленькі? – пытае, спрабуючы завязаць размову. Ківаю галавой у адказ і цень, месячным святлом разасланы на сцежцы, паўтарае мяне, пацвярджае нясказанае словам.
– Бачыш настаўнік, увесь час, а нават і па-за часам можна вучыцца чамусьці новаму, – усміхаецца, але ўсмешка хутка згасае, голас напаўняецца сур'ёзнай афарбоўкай. – Ты дакладна ведаеш дарогу?
Ізноў адказваю кіўком галавы, загортваючы ў маўчанне лішнія словы, што, адпушчаныя на волю, лёгка пераступаюць мяжу паміж няпоўнай праўдай і хлуснёй.

Завілістая, пясчаная дарожка дабягае да гравейкі і калі б не справы ў Вілюках і Доўгім Бродзе, можна было б скіравацца направа і, пакідаючы збоку схаваныя за маладняком домікі Круглага, ісці, як па рэйках, нікуды не збочваючы, да самага Тапіла.

На ўскраіне Вілюкоў, як я і спадзяваўся, чакае нас хлопец гадоў дваццаці.
– Васіль, праўда? – пытаю для фармальнасці, бо ў гэты твар, застылы ў парцалянавай фатаграфіі, глядзеў я не раз, не два на нашых вярстоцкіх могілках.
– Васіль, я з Доўгага Броду. Мяне забілі палякі ў першы дзень пасля вайны. Лясныя жаўнеры тут, у вёсцы Вілюкі забілі. Я ім прабачыў.
– Пойдзеш з намі, Васіль?
– Пайду, далей хай гэты крыж вартуе, – адрываецца ад драўлянай агароджы, што абводзіць высокі крыж. Толькі цяпер заўважаю – усё тут новенькае, і штыкеціны,

і крыж, і салідныя жалезныя абоймы, што звязваюць яго з зямлёй.
– Даўно паставілі?
– Не так даўно. Моцны, дубовы.
– Настаўнік, ты не бачыў? У пушчы пры дарозе з Круглага ў Вілюкі такі ж крыж стаіць. Таксама новы. Мы ж праходзілі міма, ты не заўважыў? – здзіўляецца Марэк.
– Нядаўна і ў Старыне такі сам паставілі. У пачатку вёскі, непадалёк тваёй былой школы, – дадае Андрэй.
Пацiскаю плячыма. Не, не звярнуў увагі. Мо якраз не ў той бок глядзеў? Зорнае неба падымаецца вышэй, смуга Малочнага шляху святлее, набірае моцы, дае знак, што вечар выходзіць на апошні этап сваёй сённяшняй дыстанцыі. Неўзабаве тузане неба яшчэ вышэй, ускалыхне зорамі, а яны, як маленькія званочкі абвесцяць надыход ночы.
– Пайшлі, час падганяе, – кажу. – Нам трэба вярнуцца крокаў сто, да павароту ў Доўгі Брод.
– Давайце наўпрасткі пойдзем, праз Глобучку, – прапануе Васіль.
– Праз Глобучку? Што такое Глобучка?
– Урочышча. Там часта вада стаіць, месцам і багна трапляецца, але я ведаю сухі пераход. Калі б я ў той першы пасляваенны дзень пайшоў наўпрасткі, усё было б інакш. Але пайшоў праз Вілюкі. А вёску ачапілі лясныя хлопцы, туды заходзь, а выхаду няма.
– Вядзі, – кажу, а ён рушае ў ахінутыя цемрай лугі.
Збольшага ведаю ягоную гісторыю. Ці можна абмінуць свой лёс? Схадзіўшы наўпрасткі падмануць яго, напісаць свой варыянт жыцця і смерці? А што калі ўсё выпадковае? Цынічная гульня сляпога са сляпым у колеры? Як пераступіць чорную паласу, што паперамення з белай сунецца пад ногі?

Па адзін бок і па другі з травы паблісквае вада, але Васіль ідзе ўпэўненым крокам, не азіраючыся за сябе. Бярэ напрамак на адзінокі, двухсотгадовы дуб, яшчэ колькі крокаў і пачынаецца вёска. За мураванкай з чырвонай цэглы паварочвае направа, на брукаваную вуліцу.
– Вось і ён, мой Доўгі Брод. Сямён, па-мойму, чакае нас дзесьці паблізу леснічоўкі. Вядзі далей, – спыняецца, прапускае мяне наперад.
На скрыжаванні паварочваю ўлева, на асфальт, некалькі сотак крокаў і за чарговым паваротам цёмнымі вокнамі сустракае нас леснічоўка. Сямён сапраўды чакае нас.

– Я Сямён, забіў мяне мой сябар, тутэйшы хлопец. На вяселлі, тут, між дрэў на ўскраіне пушчы. Чаму? Не ведаю. Не з той дзяўчынай танчыць стаў?
– Ты яму прабачыў, Сямён?

Маўчыць, адводзіць позірк. Доўга перабірае ў думках словы.
– Вельмі цяжка прабачыць сябрам. Але ж няма ў мяне жадання помсты. Хацелася б толькі паглядзець яму ў вочы і запытаць: Навошта ты так? Мы аднагодкі былі. Чаму дастаў мяне з цёплай вады жыцця? Не ад нянавісці спрадвечнай, не ад варожасці чужынскай, неўміручай.
– Пойдзеш з намі, Сямён?
– Не, не магу. Пакуль не прабачыў, не магу. Дзед Алімпей так сказаў. Можа некалі, праз якісьці час. А колькі таго часу трэба?

Колькі трэба часу каб прабачыць сваім? Не ведаю адказу на такое пытанне. Пакідаем Сямёна на ўскраіне вёскі і Вапіным трыбам заглыбляемся ў пушчу. Не пакідае мяне назойлівая думка, што ўсё пайшло не так. Захутка

абарвалася слова. Залёгка штосьці сышло з рук. Хочацца азірнуцца, яшчэ раз паглядзець на гэтага маладога хлопца, які застаўся сам адзін у нашай мінуўшчыне. Хочацца вярнуцца, сказаць слова. Якое слова? Не мае значэння, проста – слова. Паварочваю галаву, там, дзе застаўся Сямён, стаіць чорная сцяна. Лес прыняў нас і бязгучна зачыніў за намі дзверы.

– Настаўнік, увесь час проста? – Марэк то забягае наперад, то крэсліць зігзаг ад краю да краю дарогі. Гоніцца за сваім ценем і бяжыць ад яго, спапяляючы няўрымслівасць і цікавасць да новага, што не паспелі разбегчыся па дарогах у далёкі свет.
– Так, пакуль не дойдзем да берагоў Пэрэбэлі. Там павернем направа, каб у багну не праваліцца.

Да Тапіла застаюцца чатыры кіламетры і з усходу, з-паміж дрэў нясецца сыры пах возера. Уяўляю рыбакоў, што, абсеўшы бераг, узіраюцца ў паплаўкі, знерухамелыя на вадзе. Некалі і я, закінуўшы вуду, любіў пастаяць на гэтым беразе, але ж і там, далёка ад свету знайшоў мяне мой першы шчупак.

“Мы аднагодкі былі. Чаму дастаў ты мяне з цёплай вады жыцця?” І цяпер гэты голас ідзе да мяне, а ўслед паўзуць шырокія клюшні ракаў з нашай рачулкі. Аліўкава-карычневыя, падпаўзаюць да ног і разбягаюцца на бакі. Стаіўшы дыханне, прыкідваюцца каранямі альховых дрэў, сочаць за маімі рукамі. Гэтыя рукі ўсё яшчэ жывуць у іхняй памяці. Урываюцца ў глiністыя норкі на павароце рачулкі. Запаўзаюць пад камяні, выпешчаныя гладкімі вуснамі вады. Тыя ж далоні закідваюць ракаў у каструлю і стаўляюць яе на кухонную пліту. Ракі

круцяцца, шукаюць выхаду з пасткі, аліўка наліваецца пякучай чырванню, нерухамеюць.

Аліўкавым і чырвоным атрамантам на маіх далонях запісаная доўгая смерць ракаў з нашай маленькай рачулкі.

“Не так вараць ракаў! Не так!”, – даносіцца аднекуль трывожны голас бабы Веры. – “Не ў халодную, у кіпячую ваду трэба іх класці! У кіпяток!”

– Настаўнік, дзе тая Пэрэбэль? Ідзем, ідзем, усю ноч ідзем і дайсці не можам, – голас Марка вяртае мяне на лясную дарожку.

Не спыняюся, хаця крок міжволі запавольваецца, губляе ўпэўненасць. Вапін трыб? Іначай неяк усё выглядае. Сосны саступаць месца грабіне, ператкaнай адзінокімі дубамі, дарога круціць улева, управа, спускаецца ўніз, звужаецца ў дарожку. Сям-там у калдобінах круглымі зрэнкамі пабліскваюць калюжыны, часцей вытыркваюцца з мораку вярбовыя хмызнякі, ноч дыхае пахам сырасці і гнілога лісця. Так пахне ў даліне рэчкі Лясная, але ж ці маглі мы так значна збочыць, абмінуць Тапіла, дабрыць амаль што да беларускай мяжы?
– Настаўнік, азірніся назад, – параўняўшыся са мной Олек робіць яшчэ крокаў два, высоўваецца наперад і спыняецца. – Глянь.
Азіраюся. Як вокам ахапіць сцежка ўшчыльную забітая мужчынамі. Плячо да пляча, галава да галавы, у зацятым маўчанні глядзяць на мяне соткі вачэй.

– Хто яны? Адкуль узяліся?
– А мы і не заўважылі, дзе і калі яны далучыліся,

– паціскае плячыма Владзё Мілысын. – Кажуць, з войнаў якіхсьці. Хто іх ведае?

Чалавек крыху старэйшы за мяне, невысокі ростам, шыракаплечы, распіхваючы натоўп, выбіраецца наперад.
– Мы ўсе адсюль, тутэйшыя. Сорак гадоў вярталіся з бежанства, другія сорак адпачывалі тут, у пушчы. А ўжо каторы год ходзім туды і назад, шукаем выхад да людзей. Дарэмна шукаем, – ягоны голас прыводзіць на памяць якісьці прызабыты пах, ці смак. Нашы позіркі на адзін міг перасякаюцца, знаёмая іскрынка злятае з ягоных вачэй. Адкуль знаёмая? – гартаю памяць, але чарговыя галасы ачапляюць мяне з усіх бакоў, заглушваюць думкі.

– Нас немцы ў  Белавежы павесілі ў сорак трэцім. Нас дзясяткі.
– І нас дзясяткі. Мы фурманы з Лазіцаў, нас палякі пасля вайны.
– Нас рускія пасля студзеньскага паўстання. Нас соткі.
– Нас шведы... нас французы....
– Вазьміце нас з сабой, мы вас чакалі....
– Возьмем, – кажу – пайшлі. Здаецца, збочылі мы з Вапінага трыбу, трэба на поўнач браць напрамак. Недалёка ўжо.

Пакідаю дарожку, паварочваю ў лазовыя хмызнякі, сцежка пратаптаная людзьмі, або, хутчэй за ўсё, дзікай жывёлай, уецца змейкай праз высокія трыснягі, час ад часу сцебане па твары гнуткая лазінка. Пад нагамі хлюпоча вада, ногі грязнуць па костачкі, пачынаю хваляваацца. Сцяжына здаецца не мець канца. Пражыўшы шмат гадоў без гадзінніка, я навучыўся адмерваць час уласнымі меркамі. Пульсаваннем крыві, даўжынёй

крокаў з аднае думкі ў другую, нячутным ціканнем інтуіцыі. Сёння мой унутраны гадзіннік падводзіць, падвісае, становіцца непрыдатным. Колькі часу прайшло? Не ведаю. А можа час спыніўся? Або бяжыць хутчэй, чым святло, пакідаючы нас далёка за сабой?

Па правы бок дрэвы раптоўна расступаюцца, а сцежка выходзіць на ўскраіну шырокіх лугоў. Няўжо Аконшчына? І якім чынам патрапілі мы сюды? Гэта ж зусім не ў той бок, зусім не той квартал пушчы. Але луг знаёмы, падлеткам забіраў мяне бацька на гэтае ўрочышча касіць траву. Няшмат тут змянілася, толькі дрэвы, што абступаюць паляну, падцягнуліся вышэй, пагусцелі лазовыя кусты. Даўно не бачыла касы Аконшчына і цяпер далінкамі, дзе даўжэй трымаецца вада, завалодаў аер.

– Аконшчына, – кажа Славік. – У дзяцінстве з бацькамі сена тут касілі.
– Сапраўды Аконшчына, – пацвярджае Владзё. – Я таксама быў тут са сваімі. І куды нам цяпер кіравацца?
– Гляньце, там хтосьці ёсць, – Марэк паспеў адарвацца на колькі крокаў ад лясной сцяны, паказвае рукой на шырокі луг.

Метраў за дзвесце ад ускраіны лесу тры чалавечыя постаці – жаночыя, як можна здагадацца па вопратцы – схіляюцца ў высокай траве. Занятыя сваёй справай не бачаць нас, ці то проста не звяртаюць увагі. Падцягваемся бліжэй, вельмі блізка і толькі цяпер падымаюцца на ногі, навыцяжку, іх твары паварочваюцца ў наш бок.

– Хто вы такія? Што тут робіце? – чую з натоўпу чыйсьці голас.

– Жнем сярпамі траву забыцця, – першая жанчына абцірае твар чорнай хустачкай, глядзіць на нас сумнымі вачыма. – Маё імя Не-Каханне. Мяне згвалтавалі немцы, я камень нарадзіла. І маўчыць мой камень, і словам ніколі не адазвецца.
– Маё імя Не-Прыгажосць. Мяне згвалтавалі рускія, я нарадзіла камень. Ён расце і расце, да воблакаў, да неба. Ужо сонца з-за яго не бачу, – кажа другая жанчына.
– Мяне завуць Не-Нявіннасць. Мяне згвалтавалі палякі, я нарадзіла камень. Ён з'ядае мяне штодзень, яшчэ год, яшчэ хвіліна і нічога ад мяне не застанецца, – трэцяя жанчына мовіць шэптам, словы ссоўваюцца па чорнай сукенцы, знікаюць у траве.

Мужчыны маўчаць, пераступаюць з нагі на нагу. Ці ёсць у мужчынскім маўчанні прызнанне сваёй віны? Так, адчуваю сябе вінаватым. Не ўмею дакладна акрэсліць, у чым мая віна, але яна жыве ўва мне, тоіцца ў маёй галаве, а цяпер разбуджаная жаночай скаргай, нагадвае пра сябе халодным дыханнем. Дзе былі мы ўсе тыя стагоддзі? Чаго нам не хапала?
– Хадзіце з намі, – кажу, не гледзячы ім у вочы.
– Не магу, – адмаўляецца першая жанчына. – Не магу пакінуць майго каменя. Мне карміць яго трэба грудзьмі. Штодня трэба.
– Не магу пакінуць майго каменя, – круціць галавой другая. – Мне ўкалыхаць яго трэба штовечар, глядзець, як заходзіць у сон.
– Не магу пакінуць майго каменя, – кажа трэцяя. – Мне сон яго бяспечны трэба вартаваць. Кожнай ноччу трэба. А вы ідзіце ўжо. Нам трэба жаць.
– Нам трэба жаць сваю траву забыцця, – паўтарае другая жанчына.

– Нам трэба жаць сваю траву забыцця, яна так хутка адрастае, – дапаўняе першая.

Тры жанчыны ў чорным пасярод лугоў Аконшчыны, як тры яліны над халоднымі камянямі. Скамянелыя жанчыны на Востраве слёз, як чорны яліннік сярод пушчы. Ці нарадзіла Юлія першага сына? Ці дала яму маё імя? Якое імя? У мяне іх тры і кожнае жыве сваім жыццём, у сваім свеце. Міша ў ліпавых, пахучых мёдам карунках. Міхал – з націскам на літару “і” – у бетоннай клетцы чацвёртага паверха. Міхаіл у драўлянай, сіняй царкоўцы на ўскраіне вёскі. Няўжо толькі яму аднаму дадзена паміраць і ўставаць з мёртвых?

– Настаўнік, далёка яшчэ? – пытае чыйсьці голас. Стомлены, знявечаны цяжкім дыханнем, не ведаю чый. Паварочваюся да голасу і бачу, як змалеў, скурчыўся наш паход. Ад тысячагаловай ракі застаўся худы як нітка струменьчык, ды і той рвецца на кароткія, паасобныя стужачкі.
– Далёка яшчэ? – Пётрусь Пінокіо апусціўся на кукішкі, глядзіць у зямлю, вузкія, хлапечыя плечы калоцяцца ад цяжкага дыхання.
– Мы заблудзілі, настаўнік? – пранізліва глядзіць мне ў вочы Яраслаў.

Збягаю ў дзяцінства, у падлеткавы час, калі знакамі і пахамі запаўнялася карта вялікага лесу. Знаходжу ў памяці Аленбурскі трыб і Тэлефонны, урочышча Конік і Мшары, але ўсе гэтыя месцы ніяк не сыходзяцца з рэальным светам, што стаіць побач, на працяг рукі.
“Вось яно, святло свабоды. Пойдзеш за ім праз чорны лес і лес расступіцца”, – дудняць у вушах словы Маэстра.

– Трэба нам месяц трымаць за спіной, увесь час на поўнач.
– Увесь час на поўнач ідзем, – паўтарае Яраслаў, а словы як рэха бягуць жывым ланцужком на канец калоны і дзесьці там знікаюць.

Дрэвы двояцца ў вачах і трояцца, і здаецца не мы ідзем, толькі яны падцягваюцца шчыльней, плячом да пляча, абступаюць з усіх бакоў. Месяц выскоквае з-за спіны, перабягае дарогу поўняй, вырастае з-за пляча маладзіком, зіркае на нас раз правай, раз левай паловай. Галлё над галовамі сплятаецца ў сетку, гусцее, на асноведзі зорнага неба вытыкаецца ў чорна-зялёны саван. Яшчэ хвіліна і знікнем, абернемся маленькімі жылкамі ў цёплым, жывічным космасе. Чую, як за спіной хлопцы перакідваюцца словамі, цяжкае дыханне прыглушвае галасы. Сасновыя касякі таўсцеюць, чапляюцца за вопратку зубатай карой. Праціскаемся праз кучу ядлоўцаў, а яны асыпаюцца дажджом сухой іглíцы. Маленькія, калючыя іголкі, змешаныя з цягучымі ніткамі павуціння, абмотваюць вусны, клеяцца да шчокаў, да валасоў і не згарнуць іх з сябе запэцканымі жывіцай далонямі.

Раптам застаюся адзін. Пагаслі галасы, сухім лісцём і шыгаллем прыцярушыліся крокі. Стаю пад дрэвам. Яно агромнае, захапіла для сябе палову неба і маю ўражанне, што раптоўна саскокваю з аднае прыступкі часу на другую, зверху ўніз, з канца да пачаткаў гісторыі свету. Майго свету. “Вось яно, дрэва Свабоды, Праўды і Кахання”, – голасам дзеда Алімпея кажа памяць. Ці памяць? Не, голас не адтуль. Дзед Алімпей глядзіць на мяне, я бачу яго такім, як некалі. Тыя ж вочы і нос, і вусны,

на твары ні на маршчыну час не прыараў сваіх загонаў. Можа нязначна ўпалі шчокі, а можа і не, толькі прыпудраныя адценнямі ночы, загрымаваныя іртутным святлом месячнай поўні, бачацца мне злёгку пахудзелымі.

– Бачу, ніяк не патрапіш, дык выходжу насустрач, – ягоны голас, на паўстагоддзя замарожаны ў капсуле часу, вяртаецца знаёмым тэмбрам. Як вецер з дзяцінства. – Карацей, ты заблудзіў, сам адзін застаўся. А дрэва пазнаеш?

Дрэва, канешне, пазнаю, але ж я сваімі вачыма бачыў, як вострай сякерай дзед Алімпей заплюшчваў ягоныя вочы, як вострыя зубы пілы ўгрызаліся ў жывы ствол. Я на свае вушы чуў трэск галля і свіст паветра, што сыходзіць з неба, распоратага вяршком, падаючым у паўзмрочныя сутарэнні пушчы. Я бачыў як магутны ствол па мужчынскіх плячах падымаўся на сталюгі і сыходзіў з іх парэзаны на пазалочаныя жывіцай падрубы. Ці мае значэнне ўбачыць сваімі вачыма і пачуць сваімі вушамі?

– Зробіш не так, дарэмная твая праца. Памятаеш? Пакажы далоні, – дзед падступае бліжэй, а я механічным жэстам выцягваю рукі. – Гладкія, мяккія. А дзе мазалі ад гэбліка ручнога? Натоптышы крывавыя на пальцах, дзе яны?

Адчуваю сябе героем наіўнага кіно, персанажам з графаманскай аповесці, што пакінуты сам сабе на абочыне часу, лепіць сусвет з сухіх трэсачак і сасновых апілкаў, склейвае ўласнай слінай і выносіць пад сонца, на вуліцу, стаўляе на дубовую лавачку побач з хатай крытай

саломаю. А на вуліцы дваццаць першае стагоддзе, небасяжныя хмарачосы, мікрапрацэсары і камп'ютары, і даволі клікнуць па задуманым малюнку, каб малюнак абярнуўся ў адчувальнае, трохмернае існаванне. Сасновы камель, сякерка, гэблік – які сэнс?

– Дзед Алімпей, навошта ўсё гэта? Правілы дзеля правілаў? Мазалі на далонях дзеля саміх сябе?
– Няўжо Дзмітрый нічога табе не патлумачыў? А пра Маэстра і спалены партрэт маладога чалавека ўзгадваў што-небудзь?
– Так, пра партрэт узгадваў.
– Ну вось, калі Маэстра Санці падняў з попелу той партрэт, дзед твой, Дзмітрый, сказаў яму: Ніякай удзячнасці не трэба, ты ўжо расплаціўся. І распавёў пра кніжку, знойдзеную на мінскай вуліцы, і партрэт графа на дзевятнаццатай старонцы, пра немцаў у Каменюках, а Маэстра толькі ўспляснуў рукамі: "Вось супадзенне! Я не толькі правяду тваіх пушчанскіх да дзвярэй свабоды. Калі здолеюць адчыніць дзверы, намалюю ім люстра праўды і вечнага кахання. Бо праўда і каханне выжываюць толькі на свабодзе. Але дзверы свабоды не адчыняюць за так. Мячом і крывёй трэба дабівацца. Іначай, што была б вартая свабода? Я ведаю, мужыцкія рукі не прывыкшыя да мяча. Таму трэба ім грукацца доўга, моцна, каб стаміліся плечы, каб крывёй наліліся пухіры на далонях". Цяпер разумееш навошта гэблікі-сякеркі? А чаму цяпер якраз я цябе пазваў, нашых збіраць сказаў, разумееш?
Ківаю адмоўна галавой.
– Ты крыжы новыя бачыў? Праваслаўныя. Высокія, дубовыя, шмат іх з'явілася ў нашых вёсках. У тваёй Войнаўцы стануць два, неўзабаве. Свет ускалыхнуўся. На ўсходзе ўскалыхнуўся і на захадзе, і народ гэта чуе. Як

чуе? Слых пакаленняў, ён чуткі, не прапусціць ніводнага трывожнага гуку ні з вады, ні з паветра. Калі хістаецца свет, кожны чалавек хапаецца за свой крыж.

Дзедава рука сунецца за пазуху, дастае кніжку.
– Пачытаю табе штосьці, паслухай, – разгортвае вокладкі, кулаком працірае бляклыя вочы. Гляджу на яго пасівелую галаву, на парэзаны маршчынамі твар, бачу, як доўгі, сухі палец лістае паперу. "І акуляраў не патрабуе", здзіўленне мільгае ў галаве, але раптоўна саступае месца чарговаму здзіўленню. Дзед Алімпей чытае мае словы!

"Ізноў сядлаюць коней уладары злых вятроў. А коні іх – ураганы парывістыя і нясуць у грывах новыя межы. Конскія хвасты падменьваюць людзям сваю мову чужой, людзі гукаюць сябе, не знаходзяць і разбягаюцца па ўсім свеце. Там, таксама не знаходзячы сваіх слоў, плачуць па іх. Плачуць па іх на чужой мове, а калі на чужой мове пачынаюць адкрыта з гэтых забытых слоў смяяцца, губляюць сябе канчаткова. Калі сядлаюць коней уладары злых вятроў, трэба пільна сачыць за сваімі, трымаць адзін аднаго за рукі і вартаваць свае словы. Няўжо сапраўды не ўпільнавалі мы сябе, аддалі і словы, і ўсё астатняе і разбегліся хто куды? А ці яшчэ плачам па загубленых словах? І якой мове зразумелы наш плач?"

– Гэта ж... гэта мая кніга. Тая, якой няма яшчэ, – асцярожна высоўваю кнігу з дзедавых далоняў. Маё імя, прозвішча, загаловак – выдзяляюцца з вокладкі выразна адбітымі літарамі. – Яе няма і не ведаю, калі выйдзе. Нібыта закончыў пісаць, а ўсё яшчэ выпраўляю, выгладжваю.
– Кажаш, няма яе, значыць няма. Аддай. Выйдзе,

палістаеш, – бачу, як мая ненароджаная кніжка знікае за пазухай, дзед зашпільваецца на ўсе гузікі, пазяхае, пацягваецца, пад суконным пінжаком хрусцяць косці. – Адпачыць пара, доўгая была ноч. І табе трэба дамоў вяртацца. Патрапіш, толькі сонца трымай перад сабой і злёгку па левую руку. Сонечнае святло, яно больш надзейнае за месячнае. Адпачнеш, аддыхаешся, дарога цябе чакае. У Мінск паедзеш. А я, дарэчы, ні разу не быў у Мінску. Ці можа быў, калі ў бежанства ішлі? Сам бачыш, памяць якая. Больш святла кладзе на заўтрашні дзень, чым на ўчарашні.

Свідрую вачыма ягоныя грудзі, тое месца, дзе за сукном пінжака хаваюцца мае сказаныя і нясказаныя словы. Ці сапраўды мае? Ці сёння належыць мне тое, што прынясе заўтрашні дзень? А мо заўтра ўжо адбылося, толькі я туды яшчэ не паспеў?

У Мінск я ехаў усяго на адну хвіліну. Адмучуся вечар і ноч на дваццатым паверсе, ды якія там ночы ў вялікім горадзе? Пастрыжаныя да мінімуму нажніцамі вулічных ліхтароў, паўсвятло надвячорка плаўна зліваецца з золкам. Раніцай узыдзе аранжавае сонца, а Юлія і я рушым далей, туды, дзе ў жылах свету бурліць жывая, зялёная кроў.

# ПАСТСКРЫПТУМ

Міша, як сказаў, так зрабіў. Прадаў кватэру ў горадзе і пераехаў у вёску. Не паказаўся ў Беластоку месяц і другі, механічным “абанент часова недаступны” адказваў тэлефон і Генік пачаў хваляваецца.
– Кніжка выйшла з друкарні, прэзентаваць пара, з чытачамі ладзіць сустрэчы, а ён, як камень у ваду. І як шукаць яго? Ні цягніка туды, ні аўтобуса.
– У чым праблема? У машыну і паехалі, – Мікола ўстае з крэсла, адкладае кніжку на стол. Ліставў яе паўгадзіны, або і даўжэй, пацмокваючы куточкамі вуснаў, што трэба разумець як няпоўнае задавальненне ад прачытанага. Генік, у водгук кожнаму “цмок”, выцягвае шыю, пільней зазірае сябру ў вочы.
– Што не так?
Міколава галава пачынае танец злева направа, справа налева, бровы прыпадымаюцца ўверх, раздаецца чарговы цмок і толькі пасля такой, накрэсленай жэстамі рэцэнзіі, можна пачуць:
– Штосьці тут заблытана. Жывыя, мёртвыя, не магу разабрацца.
– Мне падабаецца метафара лета. Кароткае, як дзявочая сукенка, – кажа Алег. – Я б таксама з’ездзіў з вамі. У Вэрстоку быў, у Вілюках быў, а ў Войнаўцы ніколі.

– Сёння?
– Сёння на вечар. Сюрпрыз будзе. Заначуем, пабалакаем, – вырашае Генік.

Калі машына заязджае ў вёску, ад пушчы падступае адвячорак. Вуліца пустуе, у нешматлікіх вокнах свеціцца жоўтае святло.
– Дзе яго шукаць? І спытаць няма ў каго, – адзываецца Алег.
Машына сунецца амаль бязгучна, фары абмацваюць асфальт, хаця вечар не згусцеў яшчэ дашчэнту.
– Там нехта жывы ёсць, – трымаючы стырно адной рукой, другой Коля апускае бакавую шыбу, машына спыняецца. Стары чалавек глядзіць на іх без лішняга зацікаўлення.
– Скажыце, дзе тут Мішу шукаць?
– Мішу? Некалькі ў нас Мішаў было, цяпер няма, – стары крэсліць зігзагі на пяску, выцірае, крэсліць нанава.
– Як няма? Павінен быць.
– Няма. Мікалаяў пяць набярэцца, ёсць Яны і Уладзіміры, а Мішы ніводнага.

Рухавік глухне, згасаюць фары. Мужчыны высаджваюцца, абступаюць лавачку.
– Кажаце, няма?
– Няма. Быў адзін, памятаю, чарнавокі, гаваркі вельмі. Дрэва спілоўвалі, ліпу, падлез чорт ведае калі, грымнула ліпа і ўсё. Толькі птушкі заплакалі. Колькі яму было? Гадоў два? Не, здаецца больш, можа пяць. Мала ён мне ў памяці застаўся. Яшчэ адзін быў, настаўнікам працаваў, тут, непадалёк. Зіма яго скасіла.
– Зіма? Скасіла?
– Заснуў на ростанях за вёскай, у Клінку. Можа п'яны? А мо стаміўся хадой праз глыбокі снег, па-рознаму

гаварылі. А зіма стаяла марозная і снежная па неба. Гэтаму было крыху за дваццаць, малады. А яшчэ адзін выпаў з акна, з дваццатага паверха. Выпаў, ці выкінуўся? Хто яго ведае, далёка адсюль тое здарылася, у якімсьці вялікім горадзе. Навошта такія дамы будаваць, да воблакаў? Няўжо месца на зямлі не хапае?

– А той, што з Беластока не так даўно сюды пераехаў, дзе яго шукаць? – Генік не адступае. Яму не стаіцца на месцы, носіцца па крузе, узмахвае рукамі, як заўсёды, калі аддае сябе эмоцыям.
Стары моршчыць лоб, адстаўляе кіёк, чухае патыліцу.
– З Беластока? Не ведаю такога. Кажаце, нядаўна пераехаў сюды? Можа і чуў, а можа не чуў? Памяць дурная. Тое, што за царом было, сядзіць у галаве, а ўчарашні дзень, як птушка на плоце. Ёсць, заплюшчыў вочы, расплюшчыў і няма яе.

Алег дастае з кішэні насоўку, здымае акуляры, працірае шкло. Ягоныя вочы робяцца зусім безабаронныя, закругляюцца ў бязмежным, дзіцячым здзіўленні. Генік нерухамее пасярэдзіне вуліцы, разводзіць рукамі.
– Ну што, паехалі? – Коля садзіцца за стырно, запускае матор. Аўто стае ўпоперак вуліцы, рухаецца наперад, назад, паварочвае. Дзве заднія фары, як чырвоныя вочы архаічнага монстра адплываюць чорнай рэчкай вуліцы, знікаюць за паваротам.

– Чаго хацелі? – галава дзеда Дзмітрыя высоўваецца панад штыкецінамі з панадворка.
– Шукалі Мішу.
– І што ты ім сказаў?
– Так сказаў, каб зашмат не сказаць. Можа і добрыя

хлопцы, гарадскія відаць, а размаўляюць па-нашаму, але хто іх там ведае? – дзед Алімпей абапіраецца на кіёк, устае з лавачкі. – Як думаеш, ён ужо даехаў у Мінск?
– Даехаў, канешне. Можа на гэты раз усё атрымаецца? З пачатку і да канца. А можа і не.

– Да Мішы хто прыязджаў? – пытае жанчына, зачыняючы нанач вокны.
– Не ведаю, незнаёмыя, – аднекуль, ці не з-пад старой яблыні адгукваецца мужчынскі голас. – Выйшлі з машыны, пакруціліся па вуліцы, ля лавачкі пастаялі. Штосьці гаварылі, але што дакладна, я не пачуў. Падалося, нібыта з лавачкай размаўляюць. І паехалі назад.

На закругленай столі неба вечар завешвае чарговую фіранку. Густы, цёмна-сіні фільтр адсейвае гукі і колеры, накопленыя за дзённым святлом. Маленькія дамкі, пазбаўленыя дэталяў, збягаюцца пасярэдзіне вёскі, напластоўваюцца адзін на аднаго. “Як сон у сне”, – сказаў бы Міша. Але Мішы тут не было. Яшчэ ў Беластоку, ледзь крануўся з месца аўтобус, ён падумаў пра непрыступны вялікі горад, пра ноч адзінокую на дваццатым паверсе, пра людзей, што праскімі кропкамі бягуць кожны ў свой бок. Набраў нумар Юліі і сказаў на адным дыханні: “Паслухай, а чаму не сустрэцца нам у Лідзе? Адтуль жа ў Дакудава рукой падаць. Я буду чакаць цябе ў Лідзе.” Заплюшчыў вочы і ўбачыў, як Юлія кіўнула галавой у знак згоды.

